**ФИЛ.-714**

**Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь**
Вучэбна-метадычнае аб’яднанне па гуманітарнай адукацыі

**ЗАЦВЯРДЖАЮ**
Першы намеснік Міністра адукацыі
Рэспублікі Беларусь
________________ А.І.Жук

_____04.05.2011 г.________

Рэгістрацыйны № ТД-Д.140/тып.

# Гісторыя беларускай літаратуры (XI–XIX стагоддзі)
## Тыпавая вучэбная праграма для вышэйшых навучальных установ па спецыяльнасцях:

1-21 05 01 Беларуская філалогія (па напрамках);
1-21 05 02 Руская філалогія (па напрамках);
1-21 05 04 Славянская філалогія;
1-21 05 06 Рамана-германская філалогія

**УЗГОДНЕНА**

Начальнік Упраўлення вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі
________________ Ю. І. Міксюк

____04.05.2011 г.______________

**УЗГОДНЕНА**

Старшыня Вучэбна-метадычнага аб’яднання па гуманітарнай адукацыі
________________ У. Л. Клюня

________________________

Прарэктар па вучэбнай і выхаваўчай рабоце Дзяржаўнай установы адукацыі «Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы»
________________ В. І. Шупляк

____30.03.2011 г._____________

Эксперт-нормакантралёр
_Н. П. Лукашанец________

_30.03.2011 г._____________

Мінск 2011

**Складальнікі:**

- *Багдановіч І. Э.*, дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат філалагічных навук, дацэнт;
- *Бурдзялёва І. А.,* дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат філалагічных навук, дацэнт;
- *Запрудскі І. М.*, дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат філалагічных навук, дацэнт;
- *Казакова Т. П.*, дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат філалагічных навук, дацэнт;
- *Кароткі У. Г.*, дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат філалагічных навук, дацэнт;
- *Кісялёва Л. Г.,* дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат філалагічных навук, дацэнт;
- *Хаўстовіч М. В.*, дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, доктар філалагічных навук, дацэнт.

**Рэцэнзенты:**

- Кафедра беларускай літаратуры ўстановы адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Я. Купалы»;
- Васючэнка П. В., загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры ўстановы адукацыі «Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт», кандыдат філалагічных навук, дацэнт.

**Рэкамендавана да зацвярджэння ў якасці тыпавой:**

Кафедрай гісторыі беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (пратакол № 10, 22.06.2010 г.);

Вучэбна-метадычным саветам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (пратакол № 1, 03.11.2010 г.);

Навукова-метадычным саветам па філалагічных спецыяльнасцях Вучэбна-метадычнага аб’яднання па гуманітарнай адукацыі (пратакол № 2, 15.11.2010 г.).

**Адказны за выпуск: Т. П. Казакова**

## ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ЗАПІСКА

Тыпавая вучэбная праграма «Гісторыя беларускай літаратуры (XI–XIX стагоддзі)» распрацавана ў адпаведнасці з патрабаваннямі адукацыйных стандартаў на спецыяльнасцях 1-21 05 01 Беларуская філалогія (па напрамках); 1-21 05 02 Руская філалогія (па напрамках); 1-21 05 04 Славянская філалогія; 1-21 05 06 Рамана-германская філалогія.

Гісторыя беларускай літаратуры (XI–XIX стагоддзі) – адна з важных частак агульнага курса гісторыі беларускай літаратуры, які выкладаецца ў вышэйшых навучальных установах Рэспублікі Беларусь. Даследаванні шматмоўнага пісьменства Беларусі, адкрыццё, пераклад на сучасную беларускую мову і публікацыя новых літаратурных помнікаў з кожным годам пашыраюць абсяг айчыннай літаратуры, а гэта патрабуе адпаведных змен у навучальных праграмах, падручніках і вучэбных дапаможніках для студэнтаў, вымагае ад выкладчыкаў распрацоўкі новых тэм лекцый і практычных заняткаў. Праграма па гісторыі беларускай літаратуры XI–XIX стст. улічвае самыя найноўшыя дасягненні і адкрыцці беларускага літаратуразнаўства ў вывучэнні полілінгвістычнага пісьменства Беларусі, а таксама ўключае ў сябе і здабыткі сусветнай навуковай думкі. Прапануючы максімальна шырокі гістарычны і тэарэтычны ахоп матэрыялу з мэтаю найбольш поўнага адлюстравання развіцця беларускай літаратуры ў XI–XIX стст., складальнікі Праграмы ўсведамлялі немагчымасць раўнамернага асвятлення ўсіх заяўленых тэмаў і разгляду ўсіх названых твораў у працэсе чытання курса лекцый і правядзення практычных заняткаў па гісторыі беларускай літаратуры для студэнтаў універсітэтаў. Таму ў Праграме праведзена адпаведная градацыя матэрыялу: толькі найбольш важным жанрам і творчым індывідуальнасцям прысвечаны асобныя падраздзелы, толькі найбольш значныя і даступныя для прачытання творы (назвы іх набраныя петытам) рэкамендуюцца для падрабязнага аналізу. **Мэта праграмы:** даць аптымальны аб'ём ведаў па гісторыі беларускай літаратуры XI–XIX стст., спрыяць далейшай выпрацоўцы навыкаў прафесійнага літаратуразнаўчага аналізу; сфарміраваць у студэнтаў-філолагаў сістэму прафесійных ведаў і ўменняў, што забяспечыць самастойную творчую дзейнасць настаўніка-славесніка.

**Задачы:**

– выпрацаваць канцэптуальны навуковы падыход у асэнсаванні гісторыі беларускай літаратуры XI–XIX стст.;
– паказаць нацыянальную спецыфіку, ідэйна-мастацкія асаблівасці беларускай літаратуры азначанага перыяду;
– сфарміраваць навыкі аналізу літаратурных тэкстаў;
– паглыбіць уяўленні пра асаблівасці развіцця беларускай літаратуры, яе этапы, найбольш важныя заканамернасці і тэндэнцыі.

Пасля вывучэння дысцыпліны выпускнік павінен ведаць:

– асаблівасці літаратурнага працэсу ў Беларусі ў XI–XIX стст.;
– літаратурныя напрамкі, плыні, мастацкія метады;

– праблематыку, ідэйны змест, асаблівасці кампазіцыі і вобразна-выяўленчыя сродкі;
– жанры і стылі літаратуры XI–XIX стст.;
– творчую гісторыю найбольш значных мастацкіх тэкстаў перыяду;
– літаратуразнаўчыя працы, прысвечаныя гісторыі беларускай літаратуры XI–XIX стст.;
– нацыянальнае і агульначалавечае значэнне мастацкіх твораў;

павінен умець:
– выкарыстоўваць навукова-тэарэтычныя веды для вырашэння тэарэтычных і практычных праблем;
– фарміраваць і вырашаць задачы, якія ўзнікаюць у час навукова-даследчай дзейнасці;
– карыстацца міждысцыплінарнымі падыходамі пры вырашэнні праблем;
– выбіраць неабходныя метады даследавання, мадыфікаваць вядомыя і распрацоўваць новыя метады, зыходзячы з задач канкрэтнага даследавання;
– дыялектычна мысліць, аргументаваць свой пункт гледжання, аналізаваць факты, прагназаваць развіццё падзей;
– выкарыстоўваць метады аналізу і арганізацыі ўкаранення інавацый;
– аналізаваць твор з улікам яго ідэйна-мастацкай цэласнасці ў гісторыка-літаратурным кантэксце;
– сістэматызаваць і абагульняць фактычны матэрыял, які адлюстроўвае асаблівасці літаратуры розных гістарычных перыядаў;
– выяўляць аб’ектыўныя заканамернасці і асаблівасці развіцця літаратурнага працэсу;
– характарызаваць літаратурны напрамак, літаратурны этап;
– выкарыстоўваць тэарэтычныя веды для вывучэння канкрэтных мастацкіх твораў;
– працаваць з навукова-крытычнай і даведачнай літаратурай.

Метадалагічнай асновай тыпавой праграмы з’яўляюцца тэарэтычныя распрацоўкі С. С. Аверынцава, Г. В. Кісялёва, А. Ф. Коршунава, Д. С. Ліхачова, А. А. Лойкі, М. І. Мушынскага, В. А. Чамярыцкага і інш. Асноўныя метады даследавання – канкрэтна-гістарычны, параўнальна-тыпалагічны і тэксталагічны. Праграма «Гісторыя беларускай літаратуры (XI–XIX стагоддзі)» улічвае дасягненні беларускіх гісторыкаў, гісторыкаў мовы, даследчыкаў рускай і замежнай літаратур.

На вывучэнне дысцыпліны «Гісторыя беларускай літаратуры (XI–XIX стагоддзі)» адводзіцца: па спецыяльнасці 1-21 05 01 «Беларуская філалогія (па напрамках)» – усяго 530 гадзін, з іх аўдыторных заняткаў 204 (140 лекцыйных, 64 практычных);

1-21 05 02 «Руская філалогія (па напрамках)» – усяго 536 гадзін, з іх аўдыторных заняткаў 238 (138 лекцыйных, 100 практычных);

1-21 05 04 «Славянская філалогія» – усяго 324 гадзіны, з іх аўдыторных заняткаў 164 (94 лекцыйных, 70 практычных);

1-21 05 06 «Рамана-германская філалогія» – усяго 360 гадзін, з іх аўдыторных заняткаў 154 (84 лекцыйных, 70 практычных).

**ПРЫКЛАДНЫ ТЭМАТЫЧНЫ ПЛАН**
**па спецыяльнасці:**
1-21 05 01 Беларуская філалогія (па напрамках)

| № п/п | Назва раздзела, падраздзела, тэмы | Аўдыторныя гадзіны | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Усяго | Лекцыі | Практычныя |
| **1.** | **Літаратура XI–XV стст.** | **36** | **26** | **10** |
| 1.1. | Уводзіны. Асноўныя этапы вывучэння даўняй беларускай літаратуры. | 2 | 2 | |
| 1.2. | Літаратура ранняга Сярэднявечча (XI–XIII стст.). | 4 | 4 | |
| 1.3. | Жыццёвы шлях і творчая спадчына Кірылы Тураўскага. | 4 | 2 | 2 |
| 1.4. | Жыційная літаратура XI–XIII стст. | 4 | 4 | |
| 1.5. | Летапісанне XII–XIII стст. | 4 | 2 | 2 |
| 1.6. | Мастацкі феномен «Слова пра паход Ігара». | 4 | 2 | 2 |
| 1.7. | Перакладная літаратура XIV–XV стст. | 4 | 4 | |
| 1.8. | Арыгінальная літаратура XIV–XV стст. | 4 | 2 | 2 |
| 1.9. | Беларуска-літоўскія летапісы XV ст. | 4 | 2 | 2 |
| 1.10. | Творчасць Грыгорыя Цамблака. | 2 | 2 | |
| **2.** | **Літаратура XVI–XVII стст.** | **52** | **34** | **18** |
| 2.1. | Асаблівасці развіцця беларускай літаратуры эпохі Рэнесансу. | 2 | 2 | |
| 2.2. | Агульнадзяржаўнае беларуска-літоўскае летапісанне. Хроніка Літоўская і Жамойцкая. | 4 | 2 | 2 |
| 2.3. | Агульнадзяржаўнае беларуска-літоўскае летапісанне. Хроніка Быхаўца. | 4 | 2 | 2 |
| 2.4. | Старабеларуская паэзія ранняга Рэнесансу. Творчасць Яна Вісліцкага. | 2 | 2 | |
| 2.5. | Творчасць Мікалая Гусоўскага. | 4 | 2 | 2 |
| 2.6. | Францыск Скарына – усходнеславянскі | 4 | 2 | 2 |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | першадрукар. | | | |
| 2.7. | Рэфармацыйны рух у Беларусі. Творчасць Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага. | 4 | 2 | 2 |
| 2.8. | Гісторыка-мемуарная літаратура ў Беларусі XVI–XVII стст. | 4 | 2 | 2 |
| 2.9. | Літаратура Барока. Смехавая культура Беларусі ў XVI–XVII стст. Асаблівасці эпохі Контррэфармацыі і Контрправаслаўя. | 4 | 4 | |
| 2.10. | Творчасць Іпація Пацея, Хрыстафора Філалета, Лаўрэнція і Стэфана Зізаніяў, Лявонція Карповіча, Іосіфа Вельяміна Руцкага. | 4 | 4 | |
| 2.11. | Творчасць Мялеція Сматрыцкага. | 2 | 2 | |
| 2.12. | Творчасць Афанасія Філіповіча. | 4 | 2 | 2 |
| 2.13. | Старабеларуская паэзія позняга Рэнесансу. Свецкая проза. | 4 | 2 | 2 |
| 2.14. | Старабеларуская паэзія эпохі Барока. | 2 | 2 | |
| 2.15. | Творчасць Сімяона Полацкага. | 4 | 2 | 2 |
| **3.** | **Літаратура XVIII – першай паловы XIX ст.** | **64** | **46** | **18** |
| 3.1. | Літаратура пераходнага перыяду (канец XVII – першая палова XVIII ст.): агульная характарыстыка | 2 | 2 | |
| 3.2. | Мясцовае летапісанне XVIII ст. | 4 | 2 | 2 |
| 3.3. | Мемуарная літаратура першай паловы XVIII ст. | 4 | 2 | 2 |
| 3.4. | Парадыйна-сатырычная і гумарыстычная проза. | 2 | 2 | |
| 3.5. | Паэзія позняга Барока. | 2 | 2 | |
| 3.6. | Драматургія першай паловы | 4 | 4 | |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | XVIII ст. | | | |
| 3.7. | Літаратура эпохі Асветніцтва (другая палова XVIII – 10-я гг. XIX ст.): асаблівасці развіцця. | 2 | 2 | |
| 3.8. | Паэзія эпохі Асветніцтва. | 2 | 2 | |
| 3.9. | Проза эпохі Асветніцтва. | 2 | 2 | |
| 3.10. | Драматургія эпохі Асветніцтва. | 4 | 2 | 2 |
| 3.11. | Літаратура эпохі Рамантызму (20–40-я гг. XIX ст.): асаблівасці развіцця. | 2 | 2 | |
| 3.12. | Жыццё і творчасць Адама Міцкевіча. | 12 | 6 | 6 |
| 3.13. | Творчасць Яна Чачота. | 4 | 2 | 2 |
| 3.14. | Творчая спадчына паэтаў філаматцкага асяроддзя. | 4 | 4 | |
| 3.15. | Беларускамоўная літаратура 20–40-х гг. XIX ст. | 2 | 2 | |
| 3.16. | Паэзія 40-х гг. XIX ст. | 2 | 2 | |
| 3.17. | Проза і публіцыстыка 20–40-х гг. XIX ст. | 4 | 2 | 2 |
| 3.18. | Творчасць Яна Баршчэўскага. | 6 | 4 | 2 |
| **4.** | **Літаратура другой паловы XIX ст.** | **52** | **34** | **18** |
| 4.1. | Літаратура 50–60-х гг. XIX ст. | 2 | 2 | |
| 4.1.1. | Жыццё і творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча. | 4 | 2 | 2 |
| 4.1.2. | Асоба і творчасць У. Сыракомлі. Творчая спадчына П. Шпілеўскага. | 4 | 2 | 2 |
| 4.1.3. | Жыццё і творчая спадчына В. Каратынскага і К. Каліноўскага. | 4 | 2 | 2 |
| 4.1.4. | Ананімная беларуская літаратура 50–60-х гг. XIX ст. | 2 | 2 | |
| 4.1.5. | Паэма «Тарас на Парнасе» ў беларускім літаратуразнаўстве. | 2 | | 2 |
| 4.1.6. | Літаратурна-грамадскі рух на Віцебшчыне ў сярэдзіне XIX ст. | 4 | 2 | 2 |
| 4.2. | Літаратура 70-х – першай паловы 80-х гг. XIX ст. | 2 | 2 | |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 4.2.1. | Літаратурнае жыццё ў Беларусі і ідэалогіі заходнерусізму і народніцтва. | 2 | 2 | |
| 4.2.2. | Творчая спадчына А. Кіркора і А. Ельскага. | 2 | 2 | |
| 4.2.3. | Творчасць В. Савіча-Заблоцкага. | 2 | 2 | |
| 4.2.4. | Творчая спадчына Ф. Тапчэўскага. | 2 | 2 | |
| 4.2.5. | Творчасць Э. Ажэшкі і беларуская культура. | 4 | 2 | 2 |
| 4.3. | Літаратура канца 80-х – 90-х гг. XIX ст. | 2 | 2 | |
| 4.3.1. | Творчая спадчына А. Абуховіча. | 2 | 2 | |
| 4.3.2. | Творчасць А. Гурыновіча. | 2 | 2 | |
| 4.3.3. | Жыццё і творчасць Я. Лучыны. | 4 | 2 | 2 |
| 4.3.4. | Асоба і творчасць Ф. Багушэвіча. | 4 | 2 | 2 |
| 4.3.5. | Творчая спадчына З. Манькоўскай і М. Косіч. | 2 | | 2 |
| | **Усяго:** | **204** | **140** | **64** |

## ПРЫКЛАДНЫ ТЭМАТЫЧНЫ ПЛАН
**па спецыяльнасці:**
1-21 05 02 Руская філалогія (па напрамках)

| № п/п | Назва раздзела, падраздзела, тэмы | Аўдыторныя гадзіны | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Усяго | Лекцыі | Практычныя |
| | **Літаратура XI–XVII стст.** | **46** | **36** | **10** |
| 1.1. | Уводзіны. Асноўныя этапы вывучэння даўняй беларускай літаратуры. | 2 | 2 | |
| 1.2. | Літаратура ранняга Сярэднявечча (XI–XIII стст.). | 4 | 4 | |
| 1.3. | Жыццёвы шлях і творчая спадчына Кірылы Тураўскага. | 2 | 2 | |
| 1.4. | Жыційная літаратура XI–XIII стст. | 4 | 2 | 2 |
| 1.9. | Беларуска-літоўскія летапісы | 4 | 2 | 2 |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | XV ст. | | | |
| 1.10. | Творчасць Грыгорыя Цамблака. | 2 | 2 | |
| 2.2. | Агульнадзяржаўнае беларуска-літоўскае летапісанне. Хроніка Літоўская і Жамойцкая. | 4 | 2 | 2 |
| 2.4. | Старабеларуская паэзія ранняга Рэнесансу. Творчасць Яна Вісліцкага. | 4 | 2 | 2 |
| 2.6. | Францыск Скарына – усходнеславянскі перша-друкар. | 4 | 2 | 2 |
| 2.7. | Рэфармацыйны рух у Беларусі. Творчасць Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага. | 4 | 4 | |
| 2.8. | Гісторыка-мемуарная літаратура ў Беларусі XVI–XVII стст. | 2 | 2 | |
| 2.9. | Літаратура Барока. Смехавая культура Беларусі ў XVI–XVII стст. Асаблівасці эпохі Контррэфармацыі і Контрправаслаўя. | 4 | 4 | |
| 2.11. | Творчасць Мялецiя Сматрыцкага. | 2 | 2 | |
| 2.14. | Старабеларуская паэзія эпохі Барока. | 4 | 4 | |
| **3.** | **Літаратура XVIII – першай паловы XIX ст.** | **30** | **20** | **10** |
| 3.1.<br>3.2.<br>3.3. | Літаратура пераходнага перыяду (канец XVII – першая палова XVIII ст.): агульная характарыстыка. Мясцовае летапісанне XVIII ст. Мемуарная літаратура першай паловы XVIII ст. | 4 | 2 | 2 |
| 3.4.<br>3.5.<br>3.6. | Парадыйна-сатырычная і гумарыстычная проза. Паэзія позняга Барока. Драматургія першай паловы XVIII ст. | 2 | 2 | |
| 3.7.<br>3.8. | Літаратура эпохі Асветніцтва (другая палова XVIII – 10-я гг. XIX ст.): асаблівасці развіцця. | 2 | 2 | |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Паэзія эпохі Асветніцтва. | | | |
| 3.10. | Драматургія эпохі Асветніцтва. | 2 | 2 | |
| 3.11. | Літаратура эпохі Рамантызму (20–40-я гг. ХІХ ст.): асаблівасці развіцця. | 2 | 2 | |
| 3.12. | Жыццё і творчасць Адама Міцкевіча. | 6 | 2 | 4 |
| 3.13.<br>3.14. | Творчасць Яна Чачота. Творчая спадчына паэтаў філаматцкага асяроддзя . | 2 | 2 | |
| 3.15.<br>3.16. | Беларускамоўная літаратура 20–40-х гг. ХІХ ст. Паэзія 40-х гг. ХІХ ст. | 2 | 2 | |
| 3.17. | Проза і публіцыстыка 20–40-х гг. ХІХ ст. | 4 | 2 | 2 |
| 3.18. | Творчасць Яна Баршчэўскага. | 4 | 2 | 2 |
| **4.** | **Літаратура другой паловы ХІХ ст.** | **30** | **20** | **10** |
| 4.1. | Літаратура 50–60-х гг. ХІХ ст. | 1 | 1 | |
| 4.1.1. | Жыццё і творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча. | 4 | 2 | 2 |
| 4.1.2. | Асоба і творчасць У. Сыракомлі. Творчая спадчына П. Шпілеўскага. | 4 | 2 | 2 |
| 4.1.3. | Жыццё і творчая спадчына В. Каратынскага і К. Каліноўскага. | 4 | 2 | 2 |
| 4.1.5. | Паэма «Тарас на Парнасе» ў беларускім літаратуразнаўстве. | 1 | 1 | |
| 4.1.6. | Літаратурна-грамадскі рух на Віцебшчыне ў сярэдзіне ХІХ ст. | 2 | 2 | |
| 4.2.<br>4.2.2.<br>4.2.3. | Літаратура 70-х – першай паловы 80-х гг. ХІХ ст. Творчая спадчына А. Кіркора і А. Ельскага. Творчасць В. Савіча-Заблоцкага. | 1 | 1 | |
| 4.2.5. | Творчасць Э. Ажэшкі і беларуская культура. | 4 | 2 | 2 |
| 4.3.<br>4.3.1. | Літаратура канца 80-х – 90-х гг. ХІХ ст. Творчая спадчына | 2 | 2 | |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 4.3.2. | А. Абуховіча. Творчасць А. Гурыновіча. | | | |
| 4.3.3. | Жыццё і творчасць Я. Лучыны. | 2 | 2 | |
| 4.3.4. | Асоба і творчасць Ф. Багушэвіча. | 4 | 2 | 2 |
| 4.3.5. | Творчая спадчына З. Манькоўскай і М. Косіч. | 1 | 1 | |
| | **Усяго:** | **106** | **76** | **30** |

## ПРЫКЛАДНЫ ТЭМАТЫЧНЫ ПЛАН
**па спецыяльнасці:**
1-21 05 04 Славянская філалогія

| № п/п | Назва раздзела, падраздзела, тэмы | Аўдыторныя гадзіны | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Усяго | Лекцыі | Практычныя |
| 1. | **Літаратура XI–XVII стст.** | **28** | **22** | **6** |
| 1.1. | Уводзіны. Асноўныя этапы вывучэння даўняй беларускай літаратуры. | 2 | 2 | |
| 1.2. | Літаратура ранняга Сярэднявечча (XI–XIII стст.). | 2 | 2 | |
| 1.3. | Жыццёвы шлях і творчая спадчына Кірылы Тураўскага. | 2 | 2 | |
| 1.4. | Жыційная літаратура XI–XIII стст. | 4 | 2 | 2 |
| 1.9. | Беларуска-літоўскія летапісы XV ст. | 2 | 2 | |
| 1.10. | Творчасць Грыгорыя Цамблака. | 2 | 2 | |
| 2.2. | Агульнадзяржаўнае беларуска-літоўскае летапісанне. Хроніка Літоўская і Жамойцкая. | 4 | 4 | |
| 2.4. | Старабеларуская паэзія ранняга Рэнесансу. Творчасць Яна Вісліцкага. | 2 | 2 | |
| 2.6. | Францыск Скарына – усходнеславянскі перша-друкар. | 4 | 2 | 2 |
| 2.7. | Рэфармацыйны рух у Беларусі. Творчасць Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага. | 2 | 2 | |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 2.11. | Творчасць Мялеція Сматрыцкага. | 2 | | 2 |
| **3.** | **Літаратура XVIII – XIX ст.** | **42** | **32** | **10** |
| 3.1.<br>3.2. | Літаратура пераходнага перыяду (канец XVII – першая палова XVIII ст.): агульная характарыстыка. Мясцовае летапісанне XVIII ст. | 2 | 2 | |
| 3.3.<br>3.4. | Мемуарная літаратура першай паловы XVIII ст. Парадыйна-сатырычная і гумарыстычная проза. | 4 | 2 | 2 |
| 3.5.<br>3.6. | Паэзія позняга Барока. Драматургія першай паловы XVIII ст. | 4 | 2 | 2 |
| 3.7. | Літаратура эпохі Асветніцтва (другая палова XVIII – 10-я гг. XIX ст.): асаблівасці развіцця. | 2 | 2 | |
| 3.8. | Паэзія эпохі Асветніцтва. | 2 | 2 | |
| 3.10. | Драматургія эпохі Асветніцтва. | 2 | 2 | |
| 3.11. | Літаратура эпохі Рамантызму (20–40-я гг. XIX ст.): асаблівасці развіцця. | 2 | 2 | |
| 3.12. | Жыццё і творчасць Адама Міцкевіча. | 10 | 6 | 4 |
| 3.18. | Творчасць Яна Баршчэўскага. | 2 | 2 | |
| 4.1. | Літаратура 50–60-х гг. XIX ст | 2 | 2 | |
| 4.1.1. | Жыццё і творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча. | 2 | 2 | |
| 4.1.2. | Асоба і творчасць У. Сыракомлі. Творчая спадчына П. Шпілеўскага. | 2 | 2 | |
| 4.1.5. | Паэма «Тарас на Парнасе» ў беларускім літаратуразнаўстве. | 2 | 2 | |
| 4.3.4. | Асоба і творчасць Ф. Багушэвіча. | 4 | 2 | 2 |
| | **Усяго:** | **70** | **54** | **16** |

**ПРЫКЛАДНЫ ТЭМАТЫЧНЫ ПЛАН**
**па спецыяльнасці:**
1-21 05 06 Рамана-германская філалогія

| № п/п | Назва раздзела, падраздзела, тэмы | Аўдыторныя гадзіны | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Усяго | Лекцыі | Практычныя |
| **1.** | **Літаратура XI–XVII стст.** | **36** | **20** | **16** |
| 1.1. | Уводзіны. Асноўныя этапы вывучэння даўняй беларускай літаратуры. | 2 | 2 | |
| 1.2. | Літаратура ранняга Сярэднявечча (XI–XIII стст.). | 4 | 2 | 2 |
| 1.3. | Жыццёвы шлях і творчая спадчына Кірылы Тураўскага. | 4 | 2 | 2 |
| 1.4. | Жыційная літаратура XI–XIII стст. | 4 | 2 | 2 |
| 1.9. | Беларуска-літоўскія летапісы XV ст. | 2 | 2 | |
| 1.10. | Творчасць Грыгорыя Цамблака. | 2 | 2 | |
| 2.2. | Агульнадзяржаўнае беларуска-літоўскае летапісанне. Хроніка Літоўская і Жамойцкая. | 4 | 2 | 2 |
| 2.4. | Старабеларуская паэзія ранняга Рэнесансу. Творчасць Яна Вісліцкага. | 4 | 2 | 2 |
| 2.6. | Францыск Скарына – усходнеславянскі перша-друкар. | 4 | 2 | 2 |
| 2.7. | Рэфармацыйны рух у Беларусі. Творчасць Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага. | 4 | 2 | 2 |
| 2.11. | Творчасць Мялецій Сматрыцкага. | 2 | | 2 |
| **3.** | **Літаратура XVIII–XIX стст.** | **38** | **18** | **20** |
| 3.1. 3.2. | Літаратура пераходнага перыяду (канец XVII – першая палова XVIII ст.): агульная характарыстыка. Мясцовае летапісанне XVIII ст. | 2 | 2 | |
| 3.3. 3.4. | Мемуарная літаратура першай паловы XVIII ст. Парадыйна- | 2 | | 2 |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | сатырычная і гумарыстычная проза. | | | |
| 3.5.<br>3.6. | Паэзія позняга Барока. Драматургія першай паловы XVIII ст. | 2 | | 2 |
| 3.10. | Драматургія эпохі Асветніцтва. | 2 | 2 | |
| 3.12. | Жыццё і творчасць Адама Міцкевіча. | 4 | 2 | 2 |
| 3.13. | Творчасць Яна Чачота. | 2 | 2 | |
| 3.18. | Творчасць Яна Баршчэўскага. | 4 | 2 | 2 |
| 4.1.1. | Жыццё і творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча. | 2 | | 2 |
| 4.1.2. | Асоба і творчасць У. Сыракомлі. Творчая спадчына П. Шпілеўскага. | 2 | 2 | |
| 4.1.3. | Жыццё і творчая спадчына В. Каратынскага і К. Каліноўскага. | 2 | | 2 |
| 4.1.5. | Паэма «Тарас на Парнасе» ў беларускім літаратуразнаўстве. | 2 | | 2 |
| 4.2.<br>4.2.2.<br>4.2.3. | Літаратура 70-х – першай паловы 80-х гг. XIX ст. Творчая спадчына А. Кіркора і А. Ельскага. Творчасць В. Савіча-Заблоцкага. | 2 | | 2 |
| 4.3.1.<br>4.3.2. | Творчая спадчына А. Абуховіча. Творчасць А. Гурыновіча. | 2 | 2 | |
| 4.3.3. | Жыццё і творчасць Я. Лучыны. | 4 | 2 | 2 |
| 4.3.4. | Асоба і творчасць Ф. Багушэвіча. | 4 | 2 | 2 |
| | **Усяго:** | **74** | **38** | **36** |

# 1. ЛІТАРАТУРА XI–XV СТСТ.

## 1.1. Уводзіны

Гісторыка-культурны феномен даўняй беларускай літаратуры. Узнікненне беларускай літаратуры, роля нацыянальных і іншаземных літаратурных традыцый у працэсе яе станаўлення. Хрышчэнне ўсходніх славян і яго значэнне для развіцця літаратуры. Асноўныя ідэі хрысціянства. Спецыфічныя асаблівасці даўняй беларускай літаратуры (рукапісны характар, абстрагаванасць, сінкрэтызм, этыкетнасць, традыцыйнасць, полілінгвізм і інш.). Літаратурны помнік, арнаментыка рукапісаў.

Сістэматызацыя рукапісных збораў і старадрукаў А. Х. Вастокавым, П. М. Строевым, Ф. М. Дабранскім, У. В. Ператцам, Я. Ф. Карскім. Тэксталагічныя даследаванні А. А. Шахматава, А. Ф. Коршунава, Д. С. Ліхачова, В. А. Чамярыцкага. Мастацкі метад, сістэма жанраў і асноўныя тэмы даўняй беларускай літаратуры. Асоба сярэднявечнага чалавека ў літаратуры. Даўняя беларуская літаратура ў кантэксце сусветнай культуры.

### Асноўныя этапы вывучэння даўняй беларускай літаратуры

Пісьмовая спадчына беларускага народа ў працах даследчыкаў XIX – пач. XX ст. (А. Х. Архангельскага, М. А. Багдановіча, А. Г. Кіркора, А. А. Шахматава і інш.). Навуковая дзейнасць М. І. Гарэцкага, Я. Ф. Карскага, В. Ю. Ластоўскага, М. А. Янчука – новы этап у вывучэнні старабеларускай літаратуры. Сістэматызаваны аналіз тысячагадовага шляху беларускага пісьменства ў «Гісторыі беларускае літаратуры» М. І. Гарэцкага і ў «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі» В. Ю. Ластоўскага, мастацкая спадчына народа ў манаграфіі Я. Ф. Карскага «Беларусы», пытанні перыядызацыі і жанравага развіцця ў «Нарысах па гісторыі беларускай літаратуры. Старадаўні перыяд» М. М. Янчука.

Даследаванне гісторыі беларускай літаратуры ў 60–80-я гг. XX ст. Навуковае выданне помнікаў старабеларускай літаратуры А. Ф. Коршунавым, М. Н. Улашчыкам і В. А. Чамярыцкім.

Вывучэнне гісторыі асобных літаратурных жанраў і творчасці пісьменнікаў XI–XVII стст. сучаснымі беларускімі медыявістамі (С. Л. Гаранін, В. І. Дарашкевіч, С. В. Кавалёў, Т. П. Казакова, У. Г. Кароткі, А. І. Мальдзіс, А. А. Мельнікаў, І. В. Саверчанка, В. А. Чамярыцкі і інш.).

## Перыядызацыя даўняй беларускай літаратуры

I. Літаратура эпохі Сярэднявечча (XI–XV стст.)
II. Літаратура эпохі Рэнесансу (XVI ст.)
III. Літаратура эпохі Барока (XVII ст.)

## 1.2. Літаратура ранняга Сярэднявечча (XI–XIII стст.)

Агульны перыяд развіцця трох усходнеславянскіх літаратур – беларускай, рускай і ўкраінскай. Першыя помнікі пісьменства на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Царква і велікакняская ўлада. Цэнтры кніжнай культуры (Кіеў, Ноўгарад, Полацк, Смаленск, Тураў і інш.). Язычніцкая спадчына ў духоўнай культуры ўсходніх славян. Дзелавое пісьменства і вусная народная творчасць.

Культурныя сувязі ўсходніх славян з Візантыяй, першы паўднёваславянскі літаратурны ўплыў. Асветніцкая дзейнасць Кірылы і Мяфодзія, крытыка «трохмоўнай ерасі». Творчая спадчына Навума Ахрыдскага, Канстанціна Праслаўскага, Чарнарызца Храбра. Феадальная раздробленасць, барацьба з крыжакамі і мангола-татарамі. Утварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Асноўныя жанры і стылявое поле літаратуры.

### Перакладная літаратура

Літаратурныя сувязі і кантакты ўсходніх славян з іншымі народамі, творчы характар успрыняцця перакладной літаратуры кніжнікамі. Літаратурная спадчына Іаана Златавуста, Васіля Вялікага, Клімента Ахрыдскага, Чарнарызца Храбра ў беларускіх рукапісных зборніках. Падзеі сусветнай гісторыі ў хроніках Іаана Малалы і Георгія Амартала. Гістарычная дакладнасць, мастацкасць апісанняў і публіцыстычнасць «Гісторыі Іудзейскай вайны» Іосіфа Флавія. Сусвет і чалавек у прыродазнаўчых зборніках – «Шасціднёвік», «Фізіялог», «Зборнік 1073 г.», «Пчала». Агульначалавечыя ідэалы ў перакладной літаратуры.

***«Біблія»***. Помнік сусветнай літаратуры, дыдактычнае і эстэтычнае значэнне біблейскіх кніг. Гістарычныя ўмовы фармавання канону. Асноўныя жанры Старога Запавету. Паэтыка Псалтыра. Філасофскі сэнс прытчаў Саламона. Структура Новага Запавету. Характарыстыка кананічных евангелляў, сістэматызацыя хрысціянскага вучэння ў пасланнях апостала Паўла, эсхаталагічныя пытанні ў «Апакаліпсісе». Першыя біблейскія кнігі на беларускіх землях: Тураўскае евангелле (XI ст.), Полацкае евангелле (XII ст.), Аршанскае евангелле (XIII ст.), Лаўрышаўскае евангелле (XIV ст.), Друцкае евангелле (XIV ст.). Біблейская традыцыя ў літаратуры.

***«Блуканне Багародзіцы па пакутах».*** Помнік апакрыфічнай літаратуры. Праблематыка твора. Пытанне пра Боскую справядлівасць, пошукі праўды і дабра ў апокрыфе. Характарыстыка вобраза Багародзіцы.

***«Жыціе Аляксея, чалавека Божага».*** Класічны ўзор агіяграфічнага твора. Гісторыя стварэння, каноны жыція. Вобраз Аляксея.

***«Александрыя».*** Гісторыя напісання і рэдакцыі твора. Сюжэт, кампазіцыя, прыгодніцкія і казачна-фантастычныя элементы. Вобраз Аляксандра Македонскага.

**Арыгінальная літаратура**

Культурны ўзровень развіцця грамадства ў XI–XIII стст. і станаўленне арыгінальнай літаратуры. Помнікі дзелавога пісьменства: надпіс на крыжы Еўфрасінні Полацкай 1161 г., Смаленская праўда 1229 г., «Грамата рыжан да віцебскага князя Міхаіла Канстанцінавіча» (каля 1300 г.). Жанравая, тэматычная і стылявая адметнасць арыгінальнай літаратуры. Характарыстыка стылю манументальнага гістарызму. Патрыятычны пафас літаратуры.

**Урачыстае красамоўства**

Росквіт красамоўства ў XI–XII стст. Дзейнасць Яраслава Мудрага. Праблематыка і мастацкая дасканаласць твораў урачыстага красамоўства.

**Іларыён, мітрапаліт Кіеўскі.** Царкоўна-палітычная дзейнасць і літаратурная спадчына мітрапаліта Іларыёна. *«Слова пра закон і ласку».* Праблематыка, ідэя і кампазіцыя твора. Свяшчэннае Пісанне і канцэпцыя сусветнай гісторыі мітрапаліта Іларыёна. Стылявая адметнасць *«Пахвалы князю Уладзіміру»*. Патрыятычны пафас твора, прыёмы рыторыкі.

## 1.3. Жыццёвы шлях і творчая спадчына Кірылы Тураўскага

**Кірыла Тураўскі** (паміж 1113–1130 – 1182–1188). Жыццё і творчая спадчына тураўскага епіскапа. Праблема атрыбуцыі твораў. Гісторыя вывучэння літаратурнай спадчыны. Творы Кірылы Тураўскага ў беларускіх старадруках. Жанравыя асаблівасці твораў (прытчы, пропаведзі, малітвы, каноны).

*«Прытча пра душу і цела (пра сляпца ды храмца)».* Ідэя прытчы, пытанні грамадска-палітычнага жыцця і маральна-этычныя праблемы. Архітэктоніка, сімволіка-алегарычная вобразнасць. Асуджэнне дзейнасці князя Андрэя Багалюбскага і епіскапа Феадора.

*«Слова на Антыпасху».* Сакральная сутнасць свята. Кампазіцыя пропаведзі. Інтэрпрэтацыя сюжэта пра Фаму бязвернага. Мастацка-сімвалічная вобразнасць. Матыў абнаўлення ў пропаведзі.

*«Слова на Узнясенне Ісуса Хрыста».* Евангельская трактоўка падзей. Структура пропаведзі, рытарычнае майстэрства аўтара (ампліфікацыі, тырады, ізахранізм). Мастацкая функцыя дыялогаў біблейскіх герояў. Манументальнае гучанне заключнай часткі пропаведзі.

*«Слова на сабор 318 айцоў».* Крытыка арыянскай ерасі. Сэнсавыя сувязі паміж падзеямі Нікейскага сабору і падзеямі старазапаветнай гісторыі. Пахвала ўдзельнікам сабору. Метад тыпалагічнай экзгегезы.

*«Слова, каб не забывалі настаўнікаў сваіх».* Ідэйны змест і мастацкая дасканаласць твора. Прамоўніцкае майстэрства Кірылы Тураўскага.

**Клімент Смаляціч** (? – пасля 1164). Факты біяграфіі, царкоўна-палітычная дзейнасць, літаратурная спадчына.

*«Пасланне да Фамы прасвітара».* Гісторыя напісання твора. Мастацкая адметнасць, філасофскі сэнс, прыёмы палемікі. Ідэі антычных мысліцеляў і Свяшчэннае Пісанне. Сімволіка і алегорыя ў творы. Зараджэнне вальнадумства ў царкоўным пісьменстве.

## 1.4. Жыційная літаратура XI–XIII стст.

Гісторыя ўзнікнення першых жыційных твораў на ўсходнеславянскіх землях. Умоўнасць, дыдактыка, царкоўна-рэлігійная фантастыка ў жыціях. Характарыстыка жыцій-мартырыяў, княскіх жыцій.

***«Сказанне пра Барыса і Глеба».*** Ідэйная накіраванасць твора. Мастацкая функцыя плачаў, маналогаў, малітваў. Эмацыянальная напружанасць сюжэта. Адлюстраванне хрысціянскіх пакутнікаў Барыса і Глеба.

***«Жыціе Еўфрасінні Полацкай».*** Гіпотэзы даследчыкаў адносна аўтарства твора. Спісы, рэдакцыі і стылявыя асаблівасці. Агіяграфічны канон і «Жыціе Еўфрасінні Полацкай». Паэтыка і мастацка-эстэтычныя прынцыпы арганізацыі жыція-біяса (унутраныя маналогі, дыялогі, плачы, малітоўныя звароты). Арыгінальнае спалучэнне біяграфіі Еўфрасінні Полацкай, сціслага апісання яе падарожжа ў Святую зямлю і пахвалы. Мастацкія сродкі драматызацыі падзей, топасы і запазычанні ў творы. Падзвіжніцкая дзейнасць асветніцы. Вобраз Еўфрасінні Полацкай у сучаснай беларускай літаратуры.

***«Жыціе Кірылы Тураўскага».*** Характарыстыка пралогавых жыцій. Факты біяграфіі Кірылы Тураўскага. Звесткі пра творчую спадчыну тураўскага епіскапа.

***«Жыціе Аўрамія Смаленскага».*** Час напісання твора. Аўтарскі элемент і гістарычныя рэаліі. Запазычанні і рэмінісцэнцыі з іншых жыційных твораў. Вобраз хрысціянскага героя-кніжніка і асветніка. Адметнасць канфлікту ў творы.

***«Аповесць пра Меркурыя Смаленскага».*** Гісторыя напісання твора. Фальклорная аснова помніка, індаеўрапейскія легенды пра абезгалоўленых і хрысціянскія аповеды аб цудадзейных іконах. Стыль і рэдакцыі помніка. Вобраз Меркурыя Смаленскага.

## 1.5. Летапісанне XII–XIII стст.

Роля летапісаў у фармаванні гістарычнай свядомасці грамадства. Асноўныя цэнтры летапісання. Тэорыі А. А. Шахматава, Д. С. Ліхачова, Б. А. Рыбакова пра пачатковы перыяд летапісання на Русі. Тэндэнцыйнасць першых летапісцаў. Жанравыя асаблівасці летапісаў.

***«Аповесць мінулых гадоў».*** Помнік усходнеславянскага летапісання XII ст. Асноўны змест і праблематыка твора. Рэдакцыі і стыль летапісу. Наватарства Нестара-летапісца. Формы летапіснага апавядання. Вобразы князёў у летапісе. Падзеі полацкай гісторыі ў «Аповесці мінулых гадоў».

***«Кіеўскі летапіс».*** Помнік мясцовага летапісання канца XII ст. Праблематыка летапісу, адлюстраванне перыяду феадальнай раздробленасці. Вобразная сістэма летапісу. Звесткі пра падзеі полацкай гісторыі ў летапісе. Страчаны Полацкі летапіс: факты і версіі.

***«Галіцка-Валынскі летапіс».*** Помнік мясцовага летапісання XIII ст. Структура, майстэрства гістарычнага аповеду, маляўнічасць апісання падзей у летапісе, гераічны пафас. Адлюстраванне барацьбы ўсходнеславянскіх народаў з мангола-татарамі. Звесткі па гісторыі ранняга перыяду станаўлення Вялікага Княства Літоўскага. Палітычная дзейнасць Міндоўга, Войшалка і Тройдзеня. Галіцка-Валынскі летапіс і «Слова пра паход Ігара».

## 1.6. Мастацкі феномен «Слова пра паход Ігара»

***«Слова пра паход Ігара».*** «Слова пра паход Ігара» як феномен усходнеславянскай культуры. Гісторыя адкрыцця і апублікавання твора. Праблема аўтэнтычнасці «Слова». Гіпотэзы даследчыкаў пра аўтарства помніка. Гістарычныя падзеі ў творы, летапісныя звесткі пра паход Ігара Святаслававіча. Ідэйны змест і кампазіцыя твора. Стылявая адметнасць і жанр помніка. Мастацкая дасканаласць, багацце і самабытнасць вобразаў, глыбіня думкі і лірызм «Слова пра паход Ігара». Свецкі характар, сінтэз фальклорных і кніжных элементаў, прыёмы анімізацыі і персаніфікацыі ў творы. Язычніцкія і хрысціянскія элементы, вобразы славянскай міфалогіі. Сімволіка і каларыстыка, час і прастора ў «Слове». Мастацкі феномен твора. Апісанне падзей полацкай гісторыі. Паэтычнае адлюстраванне Нямігскай бітвы (1067 г.), вобраз Усяслава Полацкага. Майстэрства беларускіх перакладчыкаў «Слова пра паход Ігара» (Я. Купалы, М. Гарэцкага, Р. Барадуліна, В. Дарашкевіча, І. Чыгрынава і інш.). Мастацкае асэнсаванне твора сучаснымі беларускімі паэтамі, пісьменнікамі і драматургамі. Тыпалагічныя сувязі «Слова пра паход Ігара» з сярэднявечным эпасам іншых народаў («Песня пра Раланда», «Песня пра майго Сіда», «Песня пра нібялунгаў»). «Слова пра паход Ігара» ў творах выяўленчага мастацтва, музыцы, анімацыі.

## 1.7. Перакладная літаратура XIV–XV стст.

Палітычнае, сацыяльна-эканамічнае і культурнае развіцце беларускіх княстваў. Фарміраванне беларускай народнасці і старабеларускай мовы. Крэўская унія (1385 г.) і яе вынікі. Пераможная бітва Вялікага Княства Літоўскага з татарамі на Сініх Водах (1362 г.). Княжанне Вітаўта (1392–1430 г.), яго ўнутраная і знешняя палітыка. Разгром крыжакоў пад Грунвальдам (1410 г.). Развіццё дзелавога пісьменства. Праблемы грамадска-палітычнага жыцця ў «Дагаворы Полацка з Рыгай 1407 г.» і ў «Грамаце гораду Менску на Магдэбургскае права 1499 г.».

Жанравая характарыстыка перакладной літаратуры. Перакладная проза як састаўная частка старабеларускай літаратуры.

***«Аповесць пра трох каралёў».*** Час напісання твора. Біблейскае паданне пра ўсходніх цароў, якія прынеслі дары Ісусу Хрысту. Літаратурная

першааснова твора – «Легенда пра трох святых каралёў» Іаана Хільдэсхеймскага.

***«Аповесць пра Трою».*** Падзеі Траянскай вайны ў аповесці. Фальклорна-паэтычная версія прычын вайны. Апісанне падзей апошняга года вайны. Дынамізм сюжэта.

***«Пакуты Хрыста».*** Характарыстыка апакрыфічнай аповесці пра апошнія дні зямнога жыцця, пакутніцкую смерць і ўваскрашэнне Ісуса Хрыста. Вобраз Багародзіцы. Асаблівасці беларускага перакладу аповесці.

***«Жыціе трох віленскіх пакутнікаў».*** Гісторыя кананізацыі віленскіх пакутнікаў Іаана, Антонія і Яўстафія. Ідэйная накіраванасць, асаблівасці жыцій-пасьёнаў. Традыцыйныя прыёмы агіяграфіі ў адлюстраванні віленскіх пакутнікаў.

## 1.8. Арыгінальная літаратура XIV–XV стст.

Росквіт Вялікага Княства Літоўскага і развіццё літаратуры. Станаўленне агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапісання. Пашырэнне літаратурных сувязяў і кантактаў. Царкоўная і літаратурная дзейнасць Кіпрыяна ў Вялікім Княстве Літоўскім. Характарыстыка жанраў і стыляў літаратуры.

**Хаджэнні**

Гістарычныя ўмовы ўзнікнення жанру хаджэння на беларускіх землях. Роля вусных і пісьмовых крыніц у фарміраванні жанру. Хаджэнні манахаў Аграфенія і Варсанофія.

***«Хаджэнне ў Царград і Іерусалім Ігнація Смаляніна»*** (пач. XV ст.). Рэдакцыі помніка. Ідэйны змест і жанрава-стылявыя асаблівасці. Элементы традыцыйнага паломніцкага хаджэння і летапісу. Сацыяльная праблематыка і характар апісання хрысціянскіх святыняў. Мастацкая адметнасць твора. Традыцыі «Хаджэння ў Царград…» у беларускай літаратуры XVI–XVII стст.

## 1.9. Беларуска-літоўскія летапісы XV ст.

Палітычнае адзінства і магутнасць Вялікага Княства Літоўскага ў беларуска-літоўскім летапісанні XV ст. Спецыфічныя асаблівасці летапісання ў Вялікім Княстве Літоўскім. Цэнтры летапісання. Дзелавое пісьменства і развіццё летапісання.

***«Летапісец вялікіх князёў літоўскіх».*** Адзін з першых твораў беларускай гістарычна-дакументальнай прозы. Гіпотэзы даследчыкаў пра ўзнікненне помніка і яго аўтараў. Галоўная ідэя летапісу. Літаратурнае майстэрства летапісцаў, лаканічнасць і дынамічнасць апавядання. Усхваленне цэнтралізатарскай палітыкі літоўска-беларускіх князёў. Структура і сінкрэтычны характар летапісу.

***«Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г.».*** Спісы летапісу (Акадэмічны, Нікіфараўскі, Слуцкі, Супрасльскі). Структура і крыніцы помніка, яго рэдакцыі, час і месца іх узнікнення. Ідэя гістарычнай еднасці ўсходніх славян

у летапісе. Асаблівасці падачы звестак ад «пачатку Русі» да Яраслава Мудрага. Паказ барацьбы ўсходніх славянаў з ордамі Батыя і крыжакамі. Абарона дзяржавы ў паданнях пра бітвы пад Смаленскам, на рацэ Ворскле, пад Грунвальдам і інш. Адлюстраванне ў летапісе цэнтралізатарскай палітыкі вялікага князя Вітаўта. Ідэйная канцэпцыя і жанрава-стылявыя асаблівасці «Пахвалы Вітаўту».

### 1.10. Творчасць Грыгорыя Цамблака

**Грыгорый Цамблак** (1364? –1419?). Жыццёвы і творчы шлях. Царкоўна-палітычная і літаратурная дзейнасць у Вялікім Княстве Літоўскім. Удзел Грыгорыя Цамблака ў працы XVI Канстанцкага сабору каталіцкай царквы. Уплыў вучэння ісіхазму на фармаванне светапогляду мітрапаліта Вялікага Княства Літоўскага. Жанрава-стылявая характарыстыка творчасці. Прамоўніцкае майстэрства Грыгорыя Цамблака.

*«Слова пахвальнае Яўфімію Тырнаўскаму».* Праблематыка твора. Агіяграфічныя элементы і традыцыі ўрачыстага красамоўства. Вобраз Яўфімія Тырнаўскага – змагара і асветніка. Апісанне злачынстваў турэцкіх ханаў. Выкарыстанне біблейскай вобразнасці.

*«Слова на Узвіжанне святога Крыжа».* Гістарычная аснова свята. Сімвалічная вобразнасць у пропаведзі. Сродкі эмацыянальнай выразнасці, рытмічная арганізацыя тэксту, тропы і стылістычныя фігуры.

*«Слова на адсячэнне галавы Іаану Хрысціцелю».* Біблейская аснова пропаведзі. Структура, сродкі мастацкай выразнасці. Выкарыстанне традыцый антычных рытараў, наватарства Грыгорыя Цамблака.

## 2. ЛІТАРАТУРА XVI–XVII СТСТ.

### 2.1. Асаблівасці развіцця беларускай літаратуры эпохі Рэнесансу

Эпоха Рэнесансу (Адраджэння) у беларускай культуры. Праявы гуманізму ў грамадска-палітычным жыцці Вялікага Княства Літоўскага XVI ст. Школьная адукацыя. Навучанне беларусаў у замежных універсітэтах. Узнікненне і развіццё кнігадрукавання. Асноўныя цэнтры беларускага кнігадрукавання: Прага, Вільня, Берасце, Нясвіж, Лоск. Мецэнат у мяшчанскім (Багдан Онькаў, Якуб Бабіч) і ў магнацкім (Радзівілы, Астрожскія, Хадкевічы, Кішкі і інш.) асяроддзі. Рэлігійная талерантнасць у часы панавання Ягелонаў. Рэнесансавы стыль у архітэктуры і мастацтве.

Ранні (першая палова XVI ст.) і позні Рэнесанс (другая палова XVI – пачатак XVII ст.). Антычная і сярэднявечна-хрысціянская традыцыі ў беларускай літаратуры эпохі Адраджэння. Наследаванне класічным узорам і

адлюстраванне важнейшых падзей рэчаіснасці. Дэмакратызацыя літаратуры, узмацненне свецкага пачатку. Узнікненне новых жанраў. «Стагоддзе паэзіі». Полілінгвізм тагачаснага пісьменства Беларусі. Асноўныя літаратурныя мовы: беларуская, лацінская, польская, стараславянская. Сфера ўжывання беларускай мовы, яе дамінантная роля ў дзелавым пісьменстве і ў гістарычнай прозе.

### 2.2. Агульнадзяржаўнае беларуска-літоўскае летапісанне. Хроніка Літоўская і Жамойцкая

Новая патрыятычная і дзяржаўная канцэпцыя – ідэалагічная аснова стварэння другога агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапіснага зводу. Легендарныя паданні пра патрыцыя Палямона, яго сыноў, заснаванне першых літоўскіх гарадоў і замкаў. Паэтычнае паданне пра заснаванне Вільні Гедымінам, звесткі пра абрады, звычаі і вераванні старажытных ліцвінаў, дзяржаўную сімволіку Вялікага Княства Літоўскага. Псеўдагістарызм у перадачы асобных падзей, імкненне да ўзвелічэння Літвы і літоўцаў, прыніжэнне ролі русінаў у стварэнні і ўмацаванні Вялікага Княства Літоўскага. Белетрызацыя падзей у 3-й рэдакцыі «Хронікі…» (сяр. XVI ст.), паказ інтымных бакоў жыцця вышэйшых асоб дзяржавы (Жыгімонт ІІ Аўгуст, Барбара Радзівіл).

### 2.3. Агульнадзяржаўнае беларуска-літоўскае летапісанне. Хроніка Быхаўца

Складовыя часткі і гісторыка-літаратурныя крыніцы твора. Асаблівасці падачы падзей, звязаных з перасяленнем Палямона і яго прыбліжаных, блізкасць і адметнасць легендарнай часткі ў параўнанні з «Хронікай Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага». Асаблівасці паэтыкі хронікі, адыход ад штогадовых запісаў, мова помніка. Далейшае развіццё белетрызацыі ў апісанні падзей (жаніцьба Ягайлы з Соф'яй Гальшанскай). Ваенна-патрыятычная тэматыка (паход Альгерда на Маскву, Грунвальдская бітва і інш.). Міндоўг, Гедымін, Вітаўт, Ягайла ў ацэнцы летапісца. Ідэі літоўска-русінскай еднасці ў дзяржаве. Легендарнае і гістарычнае ў помніку. Адлюстраванне еўрапейскіх падзей у творы. Гісторыя знаходкі, апублікавання хронікі, яе пераклад на сучасную беларускую мову.

### 2.4. Старабеларуская паэзія ранняга Рэнесансу. Творчасць Яна Вісліцкага

Навалацінская паэзія – гісторыка-літаратурны феномен у духоўнай культуры Беларусі. Сувязь з традыцыямі антычнай паэзіі, з творамі Гамера, Вергілія, Авідзія, Гарацыя і інш. Асноўныя жанры (эпічная паэма, элегія, ода,

эпіграма), паэтычныя памеры (гекзаметр, элегічны двуверш, сапфічная страфа, алкеева страфа). Выкарыстанне вобразаў і сюжэтаў з антычнай міфалогіі, топасаў паэзіі Старажытнай Грэцыі і Рыма. Паэтызацыя гераічнага мінулага і ўслаўленне подзвігаў сучаснікаў у творах Я. Вісліцкага і М. Гусоўскага.

**Ян Вісліцкі** (каля 1485–1490 – пасля 1516). Пытанне пра паходжанне паэта, яго вучобу і працу ў Кракаўскім універсітэце. Энцыклапедычныя веды Я. Вісліцкага, роля Паўла з Кросна і Пятра Таміцкага ў яго біяграфіі.

*«Пруская вайна»* (1516) – паэтычны помнік мінуламу Айчыны. Прадмова, прысвячэнне, ода, аргументы да паэмы, іх роля ў архітэктоніцы помніка. «Элегія да Багародзіцы Панны Марыі». Асаблівасці кампазіцыі, метрыкі «Прускай вайны», гістарычныя рэтраспекцыі ў паказе дынастыі Ягелонаў. Адлюстраванне гісторыі шматлікіх народаў, што насялялі Вялікае Княства Літоўскае і Польскую Карону, іх звычаяў і нораваў, культуры і побыту. Лех, Крак і Ванда – легендарныя заснавальнікі дзяржавы і яе сталіцы – Кракава. Сувязь «Прускай вайны» з беларуска-літоўскім летапісаннем у перадачы падзей, звязаных з Грунвальдскай бітвай. Роля Вітаўта і Ягайлы ў перамозе над крыжакамі паводле паэмы. Антычная сістэма вобразаў і вобразаў-сімвалаў у сюжэтнай пабудове помніка. Дзяржаўны патрыятызм Я. Вісліцкага, пераклады паэмы «Пруская вайна» з лацінскай мовы на мовы беларускую, польскую і рускую.

## 2.5. Творчасць Мікалая Гусоўскага

**Мікалай Гусоўскі** (каля 1480 – пасля 1533). Спрэчкі наконт сацыяльнага паходжання Гусоўскага, гучання яго прозвішча, лакалізацыі месца нараджэння. Эразм Вітэліус і Мікалай Гусоўскі, іх місія ў Рыме, трагічныя падзеі ў «вечным горадзе».

Рымскі перыяд творчасці паэта-навалацініста: «Шматшаноўнаму [біскупу] Плоцкаму суцяшэнне», «На ахвярапрынашэнне чорнага быка», «Да Боскага Себасцяна», «Малітва да Святой Ганны», «Пра чутку, што нечакана ўзнікла ў касцёле Святога Лаўрэнція ў Дамаса», «Песня пра зубра».

Кракаўскі перыяд творчасці: «Новая і славутая перамога над туркамі ў ліпені месяцы», «Пра жыццё і подзвігі Святога Гіяцынта».

*«Песня пра зубра»* (1523). Творчая гісторыя паэмы, прадмоўна-пасляслоўны комплекс у кракаўскім выданні. Адлюстраванне гуманістычных поглядаў М. Гусоўскага ў прысвячэнні каралеве Боне, разуменне паэтам сувязі паміж культурна-інтэлектуальным узроўнем развіцця грамадства і ваенна-палітычным патэнцыялам дзяржавы. Гістарычныя аналогіі і паралелі, усхваленне мецэнацтва як феномена Адраджэння.

Жанравыя асаблівасці «Песні пра зубра», кампазіцыя і паэтыка помніка. Уплыў антычнай міфалогіі на вобразную сістэму твора, знаёмства М. Гусоўскага з айчыннымі і замежнымі помнікамі пісьмовай культуры. Вітаўт і Жыгімонт у «Песні пра зубра», уяўленні М. Гусоўскага пра ідэальнага манарха, яго зварот да часоў праўлення Вітаўта. Сімвалічнасць

вобраза зубра і зубрынага статку. Вайна і мір у паэме М. Гусоўскага, гуманістычны пафас твора. Малая і вялікая радзіма паэта-лацініста, патрыятызм твора.

«Песня пра зубра» ў перакладах на беларускую, рускую, украінскую, польскую, літоўскую мовы.

*«На ахвярапрынашэнне чорнага быка».* Заклік да абароны хрысціянства ў часы народнага бедства і выпрабаванняў. Асэнсаванне і пераасэнсаванне ролі Рыма ў гісторыі народаў Еўропы. Пратэст супраць адраджэння паганскіх звычаяў у адным з сусветных цэнтраў хрысціянства.

*«Новая і славутая перамога над туркамі»* (1524). Услаўленне подзвігу воінаў Вялікага Княства Літоўскага ў барацьбе супраць ворагаў. Мастацкае ўвасабленне праяваў гераізму, сілы, з аднаго боку, і слабасці, рэнегацтва, з другога, падчас турэцкага нападу.

## 2.6. Францыск Скарына – усходнеславянскі першадрукар

**Францыск Скарына** (паміж 1480–1490 – каля 1551). Навуковыя гіпотэзы адносна даты нараджэння Ф. Скарыны. Жыццё і дзейнасць усходнеславянскага першадрукара ў дакументах і матэрыялах яго часу. Ф. Скарына ў Празе (1517–1519). Чэшскае кнігадрукаванне пачатку XVI ст. Выданні богаслужбовых кніг на славянскіх мовах Ш. Фіёля, А. Мануцыя, П. Конача, П. Севярына і інш. Мецэнаты Ф. Скарыны. Рацыяналістычны і прагматычны падыходы да парадку выдання асобных кніг Біблії. Магчымыя крыніцы перакладу Ф. Скарыны, асаблівасці яго глосаў.

***Прадмовы*** Ф. Скарыны: *«Ва ўсю Біблію рускай мовы», да кніг «Псалтыр», «Юдзіф», «Эклезіяст», «Прытчы Саламонавы»* і інш. Выяўленне ў прадмовах асветніцкага крэда ўсходнеславянскага першадрукара. Арыентацыя на «паспалітага» чытача, асаблівасці мовы выданняў і мастацка-графічнага афармлення. Адносіны Ф. Скарыны да тэкстаў Святога Пісання – эзатэрычныя і экзатэрычныя кнігі Біблії ў разуменні Ф. Скарыны. Хрысціянскае асветніцтва Ф. Скарыны, роля антычнай культурнай спадчыны ў фарміраванні ідэйных пазіцый Ф. Скарыны. Патрыятычны і грамадзянскі пафас прадмоў Ф. Скарыны. Элементы тэалогіі, філасофіі, правазнаўства, філалогіі, эстэтыкі і этыкі ў прадмовах першадрукара. Нацыянальная свядомасць Ф. Скарыны і ўслаўленне радзімы. Бог, чалавек, сусвет, грамадства ва ўспрыманні асветніка. Паэтычная спадчына Ф. Скарыны, акравершы ў акафістах. Літаратурны стыль Скарыны – пісьменніка і перакладчыка.

Віленскі перыяд кнігадрукарскай дзейнасці Ф. Скарыны (1522–1525). Асаблівасці архітэктонікі *«Малой падарожнай кніжкі» і «Апостала».* Мова выданняў.

Роля Ф. Скарыны ў развіцці ўсходнеславянскага кнігадрукавання, перакладчыцкай справы і культуры, ацэнка яго творчасці дзеячамі XVI–XX стст. Прадаўжальнікі справы Скарыны ў Беларусі.

## 2.7. Рэфармацыйны рух у Беларусі. Творчасць Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага

Рэфармацыя ў Беларусі, яе асноўныя плыні (лютэранства, кальвінізм, арыянства). Роля магнацкіх двароў Радзівілаў, Кішкаў, Зяновічаў, Глябовічаў у развіцці рэфармацыйнага руху ў Беларусі. Гарады Вялікага Княства Літоўскага – асяродкі Рэфармацыі ў дзяржаве. Роля беларускай, польскай, лацінскай моў у засваенні ідэй Рэфармацыі, кантакты беларускіх рэфарматараў з культурнымі, дзяржаўнымі і рэлігійнымі дзеячамі Заходняй Еўропы. Спецыфіка рэфармацыйнага руху ў Беларусі.

**Сымон Будны** (каля 1530–1593). Радзівілы і Кішкі як мецэнаты і ідэйныя натхняльнікі С. Буднага. Неардынарнасць асобы С. Буднага, яго філалагічныя, гістарычныя, філасофскія, тэалагічныя погляды. Нясвіжска-клецкі перыяд дзейнасці рэфарматара, яго выданні на старабеларускай мове «Катэхізіса» і трактата «Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам» (1562).

*Прысвячэнне і прадмова да «Катэхізіса».* Элітарнасць прысвячэння Радзівілам і дэмакратызм прадмовы да «Катэхізіса». Адлюстраванне эстэтычных, гісторыка-культурных і рэлігійных поглядаў С. Буднага. Эсхаталагічная праблема выратавання душы ў прысвячэнні і прадмове да «Катэхізіса», рытарычныя і мастацкія сродкі яе ўвасаблення. Гісторыя хрысціянства, абраднасць і дагматыка ў інтэрпрэтацыі С. Буднага.

Другое выданне «Катэхізіса» на старапольскай мове, адыход ад пазіцый кальвінізму, роля арыянства ў поглядах С. Буднага на чалавека і грамадства. Перакладчыцкая дзейнасць С. Буднага («Біблія», 1572; «Новы Запавет», 1574), арыгінальныя трактаты, прысвечаныя праблемам тэалогіі і будаўніцтва дзяржавы («Пра асноўныя артыкулы хрысціянскай веры», 1576; «Пра свецкую ўладу», 1583). Сутнасць палемікі С. Буднага з Марцінам Чаховіцам, Якубам з Калінаўкі, Пятром з Ганёндза, яго барацьба супраць іх вульгарна-камуністычных і анархічных ідэй.

Традыцыі Ф. Скарыны ў творчасці С. Буднага, іх развіццё, адметны шлях С. Буднага ў гісторыі беларускай культуры.

**Васіль Цяпінскі** (Васіль Амельяновіч, каля 1540 – пасля 1603). Асноўныя крыніцы біяграфічных звестак пра В. Цяпінскага. С. Будны пра В. Цяпінскага. Праца В. Цяпінскага над перакладам Евангелля. Выданне Евангелля паралельна на царкоўнаславянскай і старабеларускай мовах. Сённяшняе месцазнаходжанне экзэмпляраў друкаванага рарытэта В. Цяпінскага.

*Прадмова да Евангелля.* Мастацкія асаблівасці «Прадмовы да Евангелля», тэалагічныя, гісторыка-філасофскія, філалагічныя погляды В. Цяпінскага. Славяне і славянская вучонасць ва ўспрыманні перакладчыка. Крытыка духоўных і свецкіх феадалаў за абыякавае стаўленне да асветы народа, адукацыйныя погляды В. Цяпінскага. Прапаганда школьнай адукацыі на роднай мове, патрыятызм перакладчыка-друкара. Арыентацыя на культурны досвед еўрапейскіх народаў у распаўсюджванні кнігадрукавання на народных мовах. Палеаграфічныя асаблівасці прадмовы В. Цяпінскага.

## 2.8. Гісторыка-мемуарная літаратура ў Беларусі XVI–XVII стст.

Цікавасць да лёсу асобнага чалавека як характэрная рыса эпохі Рэнесансу. Першыя творы мемуарнага жанру ў шматмоўнай беларускай літаратуры: «Дзённік падарожжа ў Італію» Ю. Радзівіла, вершаваная аўтабіяграфія М. Стрыйкоўскага «Пра сябе і прыгоды свае ў размаітых краінах», «Хроніка сям'і Уніхоўскіх». Г. Пельгрымоўскі – пачынальнік «маскоўскай тэмы» ў гісторыка-мемуарнай літаратуры: празаічны «Дыярыуш пасольства да вялікага князя маскоўскага ў 1600–1601 гг.».

**Мікалай Крыштаф Радзівіл** (1549–1616). Нясвіжская лінія Радзівілаў. Пераход у каталіцызм сыноў Мікалая Радзівіла Чорнага. Уплыў П. Скаргі на асобу М. К. Радзівіла Сіроткі. Літаратура і падарожжы ў жыцці Радзівілаў.

*«Перыгрынацыя, або Паломніцтва ў Святую Зямлю»* (1584–1601) – ад паломніцкай да падарожнай літаратуры. Гісторыя напісання, публікацыі і шматлікіх пазнейшых выданняў «Перыгрынацыі...» М. К. Радзівіла. Прычыны папулярнасці твора ў еўрапейскага чытача. Назіральнасць аўтара, эрудыцыя, арыгінальнасць мыслення. Лісты да сябра як удалая форма выкладу матэрыялу.

**Фёдар Еўлашоўскі** (1546 – каля 1616). Ф. Еўлашоўскі як тыповы прадстаўнік беларуска-літоўскай шляхты. Пераход у кальвінізм, служба пры дварах магнатаў і караля, юрыдычная кар'ера першага беларускага мемуарыста.

*«Успаміны...»* Творчая гісторыя «Успамінаў» Ф. Еўлашоўскага, адлюстраванне ў іх звестак з 1566 да 1604 гг. Лаканічнасць у перадачы падзеяў, насычанасць яркімі дэталямі з паўсядзённага жыцця мемуарыста і яго акружэння. Праявы аўтарскага псіхалагізму ў характарыстыцы асобаў, якія паўплывалі на лёс Ф. Еўлашоўскага. Адлюстраванне інтымных бакоў жыцця ва «Успамінах», жаночыя вобразы ў творы. Містыцызм аўтара, маральна-дыдактычная накіраванасць помніка, асаблівасці стылю і мовы.

Эпісталаграфія як жанр і як разнавіднасць гісторыка-мемуарнай літаратуры. Пісанне лістоў у эпоху Рэнесансу. Арыентацыя на антычныя ўзоры. Службовая і прыватная карэспандэнцыя Л. Сапегі, К. Радзівіла Перуна, Я. Хадкевіча.

***«Лісты Барбары Радзівіл да Жыгімонта Аўгуста»*** як прыклад прыватнай перапіскі. Эпісталаграфічны канон і «асабісты код» каханкаў.

***«Лісты»*** Філона Кміты-Чарнабыльскага (1530–1587) як узор службовай перапіскі. Адлюстраванне ў лістах аршанскага старасты крызісу палітычнай улады ў Рэчы Паспалітай напрыканцы XVI ст. Дасціпнасць назіранняў аўтара, яго інфармаванасць пра жыццё Маскоўскай дзяржавы. Трапнасць характарыстык асобных дзеячаў у данясеннях панам Рады Вялікага Княства Літоўскага. Стылістычная адметнасць лістоў Ф. Кміты-Чарнабыльскага.

***«Дыярыуш»*** (50-я гг. XVII ст.) Адама Каменскага-Длужыка. Апісанне земляў Сібіры і Далёкага Усходу. Аўтарскія рэфлексіі і заўвагі. Русізмы і беларусізмы ў мове помніка.

**Самуіл Маскевіч** (1580–1642). *«Дыярыуш»* (1594–1621 гг.) С. Маскевіча. Эпіграф да «Дыярыуша» як агульны дэвіз мемуарыстаў эпохі Барока. Дзённікавая і мемуарная часткі помніка. Расійская гісторыя смутнага часу вачыма беларускага шляхціца С. Маскевіча. Праўдзівы паказ жаўнерскага побыту, нораваў і звычаяў маскоўскага баярства, вобразы маскоўскіх цароў-самазванцаў, калекцыя забаўных выпадкаў. Экспрэсіўны стыль помніка, аўтарская шчырасць і назіральнасць.

**Ян Цадроўскі** (1617 – каля 1682). *«Успаміны»* Я. Цадроўскага як тыповы прыклад шляхецкіх мемуараў сярэдзіны XVII ст. Адлюстраванне тагачасных грамадскіх і гістарычных падзей у Рэчы Паспалітай. Апісанне падарожжа па Германіі, Галандыі, Даніі, Францыі падчас знаходжання аўтара на службе ў Б. Радзівіла. Руска-польская вайна 1654–1667 гг. ва ўспрыманні мемуарыста. Паказ рэлігійнай варожасці і фанатызму ў нататках Я. Цадроўскага. Асаблівасці кампазіцыі, стылю, мовы.

Паступовы адыход ад дзяржаўнага летапісання ў канцы XVI ст. Адлюстраванне гістарычных падзей у дыярыушах і мемуарах, у героіка-эпічнай паэзіі і мясцовых хроніках. Пачаткі Магілёўскай хронікі.

***«Баркулабаўскі летапіс»*** (канец XVI – пачатак XVII ст.) – першая мясцовая хроніка ў беларускім пісьменстве. Панарамнае апавяданне пра гістарычныя падзеі і эмацыянальныя ўспаміны аўтара. Спалучэнне агульнадзяржаўнага і мясцовага патрыятызму. Кампазіцыйныя і стылістычныя асаблівасці хронікі.

«Баркулабаўскі летапіс» і «Магілёўская хроніка»: праблема традыцыі і тыпалагічнага падабенства.

## 2.9. Літаратура Барока. Смехавая культура Беларусі ў XVI–XVII стст. Асаблівасці эпохі Контррэфармацыі і Контрправаслаўя

Эпоха Барока ў беларускай культуры і стыль барока ў літаратуры. Сярэднявечныя, гуманістычныя і раннеасветніцкія ідэі ў паэтыцы барока. Паступовы адыход ад карпаратыўнасці творчасці, роля індывідуальнага пачатку; інтэлектуалізацыя і элітарнасць твораў ранняга Барока. Выкарыстанне алегорыкі, эмблематыкі, сімволікі ў барочных творах, іх пэўны схематызм і топіка. Касмізм барока, імкненне да ўсеабдымнасці і ўніверсальнасці; сінкрэтычнасць твораў барока. Жанравая разнастайнасць стылю, сувязь літаратуры барока з іншымі відамі мастацтва. Адметнасць беларуска-ўкраінскага літаратурнага барока, яго полілінгвізм.

Асаблівасці смехавой культуры ў Беларусі ў XVII ст. Парадзіраванне кананічных жанравых формаў, сацыяльна-палітычная і нацыянальна-патрыятычная завостранасць помнікаў, новы тып героя і антыгероя ў літаратуры.

***«Прамова Мялешкі»*** (першая трэць XVII ст.) – пародыя на жанр соймавых прамоваў. Выкарыстанне імя рэальнай гістарычнай асобы Івана Мялешкі дзеля праўдападабенства сітуацыі. Уяўная наіўнасць аўтара-

прамоўцы ў адлюстраванні і характарыстыцы звычаяў і нораваў сучаснага яму шляхецкага асяроддзя. Крытыка насаджэння чужароднай культуры, паказ прыярытэту айчыннага перад іншаземным. Гумар і элементы сатыры ў адлюстраванні патрыярхальнай даўніны. Жывая гутарковая мова, прыказкі, прымаўкі, трапныя выразы ў творы. Спісы і рэдакцыі помніка.

***«Ліст да Абуховіча»*** (каля 1655). Праблема аўтарства помніка. Цыпрыян Камуняка як магчымы аўтар «Ліста». Паказ прадажніцтва, крывадушніцтва, нядобрасумленнасці ваеначальнікаў, крытыка іх здрадніцкай палітыкі дзеля карысных інтарэсаў. Сатырычныя прыёмы пры стварэнні вобраза Піліпа Абуховіча і яго радаводу. Выкарыстанне паэтыкі вуснай народнай творчасці.

Выкарыстанне парадыйна-сатырычнай формы ў рэлігійна-палемічных мэтах: «Грамата, пісаная да святога Пятра» (сяр. XVII ст.) і «Казанне рускае» (канец XVII ст.).

Уплыў ідэалогіі Контррэфармацыі на дзяржаўную патрыятычную канцэпцыю Рэчы Паспалітай. Прыняцце рашэнняў Трыдэнцкага сабору 1545–1563 гг., іх роля ў распрацоўцы ідэй уніі польскімі, беларускімі і ўкраінскімі дзеячамі. Заняпад рэфармацыйнага руху. Контррэфармацыя як палітыка акаталічвання, паланізацыі праваслаўных народаў Беларусі і Украіны. Рост нацыянальнай свядомасці беларусаў і ўкраінцаў у барацьбе з уніяцтвам. Роля праваслаўных брацтваў у асвеце, адукацыі народаў Вялікага Княства Літоўскага, іх падтрымка К. Астрожскім, Б. Агінскім, Б. Саламярэцкім і іншымі магнатамі, брацкае кнігадрукаванне.

Палемічная публіцыстыка як асаблівы від літаратурнай творчасці канца XVI – першай паловы XVII ст. Стыль палемічных твораў. Прадстаўнікі розных ідэйна-рэлігійных плыняў у палемічнай літаратуры. Сувязь з грамадска-палітычным, рэлігійным рухам у дзяржаве, ідэйная і сацыяльная завостранасць, спалучэнне дагматычных і гісторыка-культурных праблем у палемічнай публіцыстыцы. Праблема веры, дзяржавы, культуры, мовы ў творах Бенядыкта Гярбеста «Указанне шляху» (1566), Пятра Скаргі «Пра адзінства касцёла Божага пад адзіным пастырам» (1577, 1590), «Берасцейскі сабор і абарона яго» (1596).

## 2.10. Творчасць Іпація Пацея, Хрыстафора Філалета, Лаўрэнція і Стэфана Зізаніяў, Лявонція Карповіча, Іосіфа Вельяміна Руцкага

Развіццё ідэй уніі ў творчасці Іпація Пацея: «Унія» (1595), «Гармонія» (1608), «Ерасі» (1608), Іосіфа Руцкага: «Двайная віна» (1621), «Экзамен абароны» (1622), «Апокрысіс, або Водпаведзь» (1597, 1598) Хрыстафора Філалета, палемічныя і дыдактычна-асветніцкія творы Стэфана і Лаўрэнція Зізаніяў, перакладчыцкая і прапаведніцкая дзейнасць Лявонція Карповіча.

**Іпацій** (свецкае – Адам Львовіч Пацей, 1541–1613). Іпацій – адзін з арганізатараў Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г. Перакладчыцкая і прапаведніцкая дзейнасць другога ўніяцкага мітрапаліта. Творы «Унія» (1595), «Гармонія», «Рэляцыя», «Ерасі» (1608), эпісталярная спадчына

пісьменніка. Асаблівасці літаратурнай мовы, паэтыка трактатаў і гамілій Іпацfolder.

*«Унія».* Адрознае і агульнае ў апалогіі уніі Пятра Скаргі і Іпація Пацея. Праблема мірнага царкоўнага і грамадзянскага суіснавання праваслаўных і католікаў у Рэчы Паспалітай. Погляд на Рым як сусветную сталіцу хрысціянства. Апалогія Фларэнційскага сабору ў творы. Праблема захавання праваслаўных абрадаў, дагматыкі. Стаўленне мітрапаліта да ўвядзення новага Грыгарыянскага календара.

**Лявонцій** (свецкае – Логін або Лонгін Карповіч, 1580–1620). Роля Лявонція ў рэлігійным і палітычным жыцці Вялікага Княства Літоўскага першай чвэрці XVI ст. Педагагічная, перакладчыцкая і прапаведніцкая дзейнасць Лявонція, яго роля ў дзейнасці праваслаўнага Святадухаўскага брацтва ў Вільні. Лявонцій – карэктар і рэдактар твораў Мялеція Сматрыцкага.

*«Два казанні...»* (1615) як узор праваслаўнай элаквенцыі пачатку XVII ст., сувязь твораў з папярэдняй традыцыяй урачыстага красамоўства. Асаблівасці архітэктонікі казанняў (эксордыум, нарацыя, канклюзія). Багаслоўска-дагматычныя ўяўленні Лявонція, палемічная завостранасць, вобразы-сімвалы ў творах.

**Іосіф** (свецкае – Іван Феліксавіч Руцкі, 1573/74–1637). Уніяцкі мітрапаліт Іосіф IV – прадаўжальнік ідэй уніі Пятра Скаргі і Іпація Пацея. Роля Іосіфа ў станаўленні ўніяцкай царквы ў Беларусі і Украіне, яго педагагічная і асветніцкая дзейнасць. Асаблівасці літаратурнай палемікі 20-х гадоў XVII ст. і месца ў ёй палемічных трактатаў Іосіфа «Двайная віна», «Экзамен абароны» (1621). Мітрапаліт Іосіф – ініцыятар стварэння асобнай беларуска-ўкраінскай патрыярхіі.

## 2.11. Творчасць Мялеція Сматрыцкага

**Мялецій** (свецкае – Максім Герасімавіч Сматрыцкі, 1577–1633). Біяграфічныя звесткі пра пісьменніка, роля вышэйшай праваслаўнай, каталіцкай і лютэранскай адукацыі ў фармаванні асобы публіцыста. Віленскі перыяд творчасці Мялеція, «Антыграфі» (1608) і «Трэнас» (1610) – першыя друкаваныя творы пісьменніка.

Мялецій як перакладчык, філолаг. Роля «Граматыкі» (1618–1619) ва ўсходнеславянскай філалогіі, яе ўплыў на фармаванне рускай, балгарскай, румынскай і іншых граматык. Мялецій – паэт-тэарэтык і практык.

Аднаўленне вышэйшай праваслаўнай іерархіі патрыярхам Тэафанам, літаратурная палеміка 20-х гг. XVII ст. «Апраўданне невінаватасці», «Абарона невінаватасці», «Эленхус» і іншыя творы праваслаўнага перыяду творчасці публіцыста.

Адступніцтва Мялеція ад праваслаўя. Пошукі гармоніі ў палемічных трактатах уніяцкага перыяду: «Апалогіі», «Паранезісе», «Экзатэзісе» і іншых. Дзяржаўнае, палітычнае, рэлігійнае крэда Мялеція-ўніята.

*«Трэнас».* Асаблівасці архітэктонікі, кампазіцыі, стылю, мовы, графікі «Трэнаса», яго сувязь з іншымі творамі палемічнай публіцыстыкі. Вобраз праваслаўнай Маці-царквы, ад імя якой ідзе гаворка ў «Трэнасе», – творчая знаходка Мялеція. Выкарыстанне пісьменнікам вобразаў-сімвалаў Бібліі, вуснапаэтычнай творчасці беларускага і ўкраінскага народаў. Творы Пятраркі, Гея, Баптысты ў перакладах Мялеція. Сімволіка, алегарызм, ампліфікацыя як асаблівасці барочнай паэтыкі помніка.

## 2.12. Творчасць Афанасія Філіповіча

**Афанасій** (Філіповіч, каля 1596–1648). Служба пры двары Льва Сапегі. Роля Афанасія ў выхаванні Яна Фаустына Лубы як будучага маскоўскага цара-самазванца. Педагагічная дзейнасць пры двары Саламярэцкіх. Афанасій – падзвіжнік, змагар за праваслаўе ў Рэчы Паспалітай. Яго сімпатыі да Маскоўскай дзяржавы. Выступленні на сеймах. Зняволенні і пакутніцкая смерць Афанасія.

*«Дыярыуш».* Асаблівасці архітэктонікі і паэтыкі збора твораў пісьменніка, жанравая сінкрэтычнасць і стылявая разнастайнасць. Пратэст супраць уніі, рэлігійнай і дзяржаўнай палітыкі ўрадавых колаў Рэчы Паспалітай. Крытыка праваслаўных і ўніяцкіх ерархаў у «Дыярыушы», праявы прэсвітэрыянства ў дзейнасці Афанасія. Рэлігійная апантанасць, містыцызм аўтара, яго відзенні і прароцтвы. Афанасій Філіповіч – паэт («…Даруй мір сваёй царкве, Хрысце Божа»). Сувязь помніка з фальклорам.

## 2.13. Старабеларуская паэзія позняга Рэнесансу. Свецкая проза

Песенныя тэксты ў пратэстанцкіх канцыяналах: сувязь вершаў з рэлігійным абрадам і музыкай. Кніжна-эпіграматычная паэзія: эпіграмы на гербы, вершаваныя прадмовы, прысвячэнні С. Буднага, Л. Мамоніча, Я. Казаковіча, Б. Буднага і інш. Сямейна-рытуальная паэзія: генеталіконы, эпіталамы, фунеральныя вершы Г. Белазора, С. Кулакоўскага, Я. Пратасовіча, Я. Радвана і інш. Прыклады філасофскай паэзіі («Чалавечы век» С. Кулакоўскага), рэлігійна-палемічнай (ананімная паэма «Апалагетык, гэта ёсць Абарона канфедэрацыі»), грамадзянскай лірыкі («Італійскі арэшнік» Я. Казаковіча). Адлюстраванне падзей Лівонскай (Інфлянцкай) вайны (1558–1582) у героіка-эпічных паэмах «Апісанне маскоўскага паходу князя Крыштафа Радзівіла» Ф. Градоўскага і «Радзівіліяда» Я. Радвана. Арыентацыя на антычныя ўзоры, міметычная практыка паэтаў другой паловы XVI ст. Рыторыка як аснова паэтыкі.

***«Лямант няшчаснага Рыгора Осціка»*** (1580) – ліра-эпічная паэма, выдадзеная пад псеўданімам Станіслава Лаўрэнція. Спалучэнне фунеральных матываў і актуальнай грамадскай праблематыкі, рэлігійна-паранетычнай і агітацыйна-палітычнай функцый. Адлюстраванне ў вобразе здрадніка Рыгора Осціка агульнага крызісу рэнесансавага індывідуалізму.

**Цыпрыян Базылік** (1535 – каля 1591). Выдавецкая, перакладчыцкая і

кампазітарская дзейнасць Ц. Базыліка. Жанрава-тэматычнае поле паэзіі берасцейскага аўтара. Паэма «Апісанне смерці і пахавання княгіні Альжбеты Радзівіл» (1562) – вершаваны падручнік *ars bene moriendi* (навукі добрага паміранне).

*«Пратэй, або Пярэварацень»* (1564/1565). Ц. Базылік і П. Стаенскі як гіпатэтычныя аўтары паэмы. Наследаванне «Сатыру» Я. Каханоўскага. Заклік да грамадскай згоды і рэлігійнай талеранцыі, крытыка тагачасных нораваў і звычаяў шляхты. Шматзначнасць вобраза галоўнага героя, тэма ўзаемаадносінаў паэта і грамадства.

**Мацей Стрыйкоўскі** (1547 – каля 1590). Беларусь і Літва ў жыцці і творчасці М. Стрыйкоўскага. Задума вершаванай хронікі пра гістарычнае мінулае Усходняй Еўропы. Вывучэнне беларуска-літоўскіх летапісаў. Мецэнаты М. Стрыйкоўскага: Хадкевічы, Алелькавічы, біскуп М. Гедройц. Творчая эвалюцыя паэта-гісторыка: «Ганец Цноты» (1574), «На герб Вялікага Княства Літоўскага і князёў Слуцкіх Пагоня» (каля 1576 г.), «Пра пачатак, паходжанне, рыцарскія і грамадзянскія справы слаўнага народа літоўскага, жамойцкага і рускага...» (1576/1578).

*«Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі»* (1582) – найбольш значны твор М. Стрыйкоўскага. Празаічныя і вершаваныя часткі «Хронікі...». Паэтычнае майстэрства аўтара ў апісаннях Грунвальдскай, Клецкай і Аршанскай бітваў. Значэнне «Хронікі...» для станаўлення дзяржаўнай самасвядомасці народаў Вялікага Княства Літоўскага.

**Андрэй Рымша** (каля 1550 – пасля 1595). Творчая спадчына паэта. Вершы на старабеларускай мове: «Храналогія...» (1581), эпіграмы на гербы А. Валовіча, Л. Сапегі, Т. Скуміна. Патрыятычны пафас верша «На гербы... Льва Сапегі» ў Статуце 1588 г. Эпіграмы і прысвячэнні на лацінскай і польскай мовах. Пераклад сачынення А. Паляка «Хараграфія, альбо тапаграфія...».

*«Дзесяцігадовая аповесць ваенных спраў князя Крыштафа Радзівіла»* (1583). Месца паэмы А. Рымшы ў «радзівілаўскім эпасе». Жанравы сінкрэтызм твора: рысы героіка-эпічнай паэмы і вершаванага дыярыуша. Крыштаф Радзівіл Пярун – галоўны герой паэмы. Калектыўны вобраз удзельнікаў радзівілаўскага паходу 1581 г. Выкарыстанне беларускай мовы ў польскамоўным творы.

**Ян Радван** (другая палова XVI ст.). Паэтычная спадчына. «Эпіталама на шлюб Хрыстафора Монвіда Дарагастайскага» (1590). Эпіграмы Яна Радвана ў лацінамоўных выданнях XVI ст.

*«Радзіваліяда, або Пра жыццё і подзвігі бессмяротнай памяці, учыненыя з найвялікшай славай, найсвятлейшага князя Мікалая Радзівіла»* (1592) – гераічная паэма. Традыцыі класічнага гераічнага эпасу. Асаблівасці архітэктонікі. Эпічныя сродкі стварэння вобраза гетмана Мікалая Радзівіла. Гуманістычна-асветніцкі ідэал аўтара. Прадстаўнікі беларускай магнатэрыі (Ян Глябовіч, Хрыстафор Зяновіч, Раман Сангушка) у творы. Іван Грозны як «антыгерой» паэмы. Беларусь і яе гісторыя ў «Радзіваліядзе»

**Гальяш Пельгрымоўскі** (? – 1604). Ранняя творчасць на лацінскай

мове: панегірыкі ў гонар К. Радзівіла, А. Радзівіла, Т. Скуміна, празаічны трактат «Пра герояў царквы Божай...» (1585). Паступовы пераход на польскую мову: «Дыялог літоўскага шляхціца пра Інфлянцкую вайну» (1594), двухмоўны «Патрыёт Айчыны да сенату і дзяржавы літоўскай» (1597). Узаемадачыненні Вялікага Княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы як асноўная тэма творчасці Г. Пельгрымоўскага.

*«Гутарка аднаго паляка з маскалём...»* (1601). Г. Пельгрымоўскі як найбольш верагодны аўтар твора. Гісторыка-літаратурны кантэкст узнікнення паэмы. Адлюстраванне ў вобразах галоўных герояў ліцвінскай і маскоўскай ментальнасці. Пераклад паэмы на сучасную беларускую мову (Максім Танк).

*«Пасольства Льва Сапегі да вялікага князя маскоўскага»* (1603). Дакументальная аснова паэмы. Шырокі спектр палітычных, рэлігійных і культурных праблем, закранутых у творы. Дыпламат Л. Сапега – новы герой эпічнай паэзіі. Уплыў беларускай мовы і яе свядомае выкарыстанне ў позніх творах Г. Пельгрымоўскага.

**Ян Пратасовіч** (? – пасля 1608). Творчая спадчына паэта: сямейна-рытуальныя паэмы «Сват» (1595), «Эпіцэдзіум на смерць Марусі Калантай» (1597), маральна-дыдактычныя вершаваныя трактаты «Вобраз старога чалавека» (1597), «Узор сумленнай белагаловай» (1597), «Ахвярадаўца» (1597). Эрудыцыя аўтара, літаратурны густ. Супрацоўніцтва з друкарняй гуманіста Яна Карцана. Я. Пратасовіч як найбольш верагодны аўтар паэмы «Румяны для аздобы дзявочага твару» (1605), выдадзенай пад псеўданімам «Радагляд Гладкатвары».

*«Inventores rerum, альбо Кароткае апісанне, хто што вынайшаў і ва ўжытак людзям даў»* (1608) – першая ў Рэчы Паспалітай вершаваная энцыклапедыя. Змест і структура кнігі. Выкарыстанне аднайменнага сачынення Палідора Вергілія і аўтарскія рэфлексіі Я. Пратасовіча. Адлюстраванне нораваў і звычаяў беларуска-літоўскай шляхты ў фрагментах «Цалаванне...», «Чатырма коньмі...», «Рушніца...». Сатырычны талент палескага паэта.

**Свецкая проза**. Апавяданні і показкі са зборнікаў «Рымскія дзеі» і «Вялікае люстра прыкладаў». Урыўкі з хронік М. Бельскага і М. Стрыйкоўскага. Гістарычныя аповесці: «Аповесць пра Трою», «Александрыя», «Гісторыя пра Атылу, караля Угорскага», «Аповесць пра Скандэрбега», «Пра пабоішча Мамая». Рыцарскія раманы з рукапісу Уніхоўскіх (канец XVI ст.), т. зв. Пазнанскага рукапісу: «Бава», «Трышчан». Сучасныя пераклады старабеларускіх рыцарскіх раманаў.

***«Траянская гісторыя»*** (другая палова XVI ст.) як прыклад свецкай гістарычнай аповесці. Літаратурная першааснова твора – лацінамоўны вершаваны раман Гвіда дэ Калумна (XIII ст.). Адрозненні аповесці ад класічнай гамераўскай версіі. Тэндэнцыя да белетрызацыі і раманізацыі падзей.

***«Бава» («Аповесць пра Баву»)***. Генезіс рамана. Сюжэт і інтрыга твора, адлюстраванне ментальнасці феадальнага грамадства. Любоўна-авантурныя і

казачна-фантастычныя элементы ў рамане. Беларускі «Бава» як крыніца пазнейшых рускіх і ўкраінскіх версій.

***«Трышчан» («Аповесць пра Трышчана»)*** – адзіная ў славянскіх літаратурах празаічная версія славутай легенды пра каханне Трыстана і Ізольды. Кельцкая легенда і генезіс беларускага рамана. Адметнасць беларускай версіі. Праблема фіналу. Трагічнае і камічнае ў рамане. Эрас і Танатас. Жаночыя вобразы ў беларускіх рыцарскіх раманах: Іжота і Брагіня («Трышчан»), Бландоя і Дружнена («Бава»). Рэнесансавае гучанне рыцарскіх раманаў у кантэксце тагачаснай беларускай літаратуры.

## 2.14. Старабеларуская паэзія эпохі Барока

**Хрыстафор Завіша** (1576–1670). Паэма *«Караламахія, у якой апісваецца шчаслівая перамога, здабытая з Божай дапамогай Каралем Хадкевічам <...> над Карлам, валадаром Швецыі <...> пад Кірхгольмам»* (1606). Працяг і развіццё героіка-эпічнай традыцыі. Барочная стылістыка кантрасту. Сродкі мастацкага ўвасаблення вобраза гетмана Яна Караля Хадкевіча. Алегарызм і сімволіка ў творы.

Кніжна-эпіграматычныя вершы Мялеція Сматрыцкага, Лаўрэнція Зізанія, Спірыдона Собаля, Іосіфа Палоўкі, Іаіля Труцэвіча. Ананімная эпіграма на герб Магілёва.

***«Польска квітнет лаціною…»*** (1621) Яна Казіміра Пашкевіча як узор грамадзянска-патрыятычнай лірыкі. Асаблівасці мовы твора.

Ананімныя элегічныя плачы: ***«Лямант на смерць Лявонція Карповіча»*** (каля 1620 г.), ***«Рэха жалю… на смерць Іосіфа Бабрыковіча», «Надмагільны надпіс Афанасію Філіповічу»***. Праблема аўтарства плачаў. Фунеральныя і рэлігійна-палемічныя матывы твораў.

Тэарэтычныя погляды і паэтычная практыка М. К. Сарбеўскага. Беларускі перыяд творчасці. Трактат М. К. Сарбеўскага «Пра дасканалую паэзію, або Вергілій і Гамер» – першае навукова-тэарэтычнае асэнсаванне эстэтыкі барока ў Беларусі.

Рэлігійна-метафізічная і палемічная паэзія Віталія, Андрэя Мужылоўскага, вершы з «Загараўскага зборніка».

***«Лабірынт»*** (1625) – філасофска-публіцыстычная паэма Тамаша Іяўлевіча. Рэлігійны дыдактызм твора і крытыка грамадскіх заганаў.

Паэты маскоўскай арыентацыі: **Філафей Утчыцкі і Андрэй Белабоцкі**.

## 2.15. Творчасць Сімяона Полацкага

**Сімяон Полацкі** (Самуіл Сітняновіч-Пятроўскі, 1629–1680). Вучоба ў Кіева-Магілянскай калегіі і ў Віленскай езуіцкай акадэміі. Педагагічная і асветніцкая дзейнасць у Полацкім Багаяўленскім манастыры.

Беларускі перыяд творчасці паэта. *«Акафіст»* і *«Канон»* – першыя вершаваныя творы Сімяона. Вершы на старабеларускай, старапольскай,

лацінскай мовах. Вершы-паліндромы, вершы-асіндэтоны, вершы-рэха, акравершы і інш. у паэтычнай спадчыне Сімяона. Астролага-дыдактычная, прыродазнаўчая тэматыка ў паэтычнай арыфмалогіі вершатворца *(«Чатыры эпохі», «Сем вызваленых навук», «Восем цудаў свету»* і інш.). Вершы-панегірыкі (*«Метры…»*) у паэтычнай спадчыне Сімяона. Роля асобы маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча ў фарміраванні рэлігійна-палітычнага, культурнага светапогляду Сімяона. Вершы, прысвечаныя руска-шведскай вайне (*«Віншаванне на ўзяцце Дэрпта», «Вершы на шчаслівае вяртанне цара… з-пад Рыгі»*). Сатырычна-дыдактычныя вершы (*«На гультая», «На п'яніцу», «На грэшніка»*), парадыйнае *«Віншаванне… айцу Амфінагену Крыжаноўскаму»* і інш.

Маскоўскі перыяд творчасці. Сімяон Полацкі – першы прыдворны паэт Маскоўскай дзяржавы, заснавальнік Заіконаспаскай вучэльні, Верхняй друкарні. Сімяон – ініцыятар стварэння тэатра ў Маскве. Сімяон Полацкі – пачынальнік рускай новалацінскай паэзіі, першы прадстаўнік стылю барока ў літаратуры Маскоўскай дзяржавы. «Вертаград шматцветны» і «Рыфмалагіён» – манументальныя паэтычныя зборнікі. «Псалтыр рыфматворны» – першы вопыт усходнеславянскага паэтычнага перакладу Псалтыра. Прапаведніцкае майстэрства Сімяона Полацкага, зборнік пропаведзяў «Абед духоўны» і «Вячэра духоўная». Дыдактычныя п'есы *«Камедыя прытчы пра блуднага сына»* і «Пра Навуходаносара цара і пра трох отракаў». Роля Сімяона Полацкага ў развіцці сілабічнай паэзіі ўсходніх славян.

# 3. ЛІТАРАТУРА XVIII – ПЕРШАЙ ПАЛОВЫ XIX СТ.

## 3.1. Літаратура пераходнага перыяду (канец XVII – першая палова XVIII ст.): агульная характарыстыка

Заняпад Вялікага Княства Літоўскага як асноўная прычына крызісу старабеларускай культуры і пісьменства. «Добраахвотная» паланізацыя і праявы рэчыпаспалітаўскага патрыятызму ў XVIII ст. Касмапалітычная контррэфармацыйная ідэалогія ў духоўным жыцці Рэчы Паспалітае. Замаруджанасць эканамічнага развіцця і запаволенае станаўленне ліцвінскай (беларускай) нацыі. Адлюстраванне падзей Паўночнае вайны, «саскай эпохі» ў літаратуры Беларусі пераходнага перыяду. Літаратурныя мовы Беларусі пераходнага перыяду (латынь, польская, старабеларуская, беларуская). Літаратурныя напрамкі і стылі. Беларускае барока. Ідэалогія Контррэфармацыі і эстэтыка барока. Канцэпцыя чалавека і свету ў эстэтычнай сістэме барока. Еўрапейскія традыцыі і мясцовы нацыянальны каларыт беларускага барока. Сувязь беларускага барока з ранніх Асветніцтвам. Стылёвыя ўзроўні беларускага барока. Уплыў фальклорнай традыцыі на сярэдні і нізкі ўзроўні барока.

## 3.2. Мясцовае летапісанне XVIII ст.

Дзяржаўнае летапісанне ў Вялікім Княстве Літоўскім і развіццё гістарычнай навукі. Выяўленне летапіснай традыцыі праз мясцовае летапісанне. Праваслаўныя асяродкі ва ўсходняй Беларусі і летапісанне.

**«Магілёўская хроніка».** Прычыны ўзнікнення летапісання ў Магілёве. Звесткі пра аўтараў «Хронікі». Т. Р. Сурта і Ю. Трубніцкі як прадстаўнікі прыгожага пісьменства ў Беларусі. Гістарычныя і літаратурныя вартасці «Магілёўскае хронікі». Жанрава-стылёвыя асаблівасці твора. «Магілёўская хроніка» і барока (кантраснасць, сенсацыйнасць, драматычнасць, займальнасць). Вобразы гістарычных асоб і беларускіх шляхціцаў у творы (Пётр I, Карл XII, А. Меншыкаў, Мазепа, браты Сініцкія). Асаблівасці стварэння мастацкіх вобразаў. Эвалюцыя летапіснага жанру ў хроніцы. Моўная спецыфіка твора.

**«Віцебскі летапіс».** Гісторыя стварэння летапісу. Звесткі пра аўтараў. Гістарычныя недакладнасці і мастацкія асаблівасці твора. Гістарычныя асобы ў «Віцебскім летапісе».

## 3.3. Мемуарная літаратура першай паловы XVIII ст.

Жанравыя віды беларускай мемуарыстыкі. Мемуарыстыка XVIII ст. і традыцыі жанру. Мемуарыстыка і мастацкая проза. «Краёвы» патрыятызм аўтараў мемуараў. Дзённікі і ўспаміны як формы мемуараў. Дакладнасць

дзённікаў і сінтэтычнасць успамінаў. «*Дыярыуш віцебскага ваяводы*» Я. А. Храпавіцкага, «*Дыярыуш жыцця*» І. Лапацінскага, «*Дыярыуш*» Ф. Шырмы, «*Успаміны*» М. Залескага, «*Успаміны*» К. Завішы. Беларусь у «*Жыцці і пакутах...*» І. Турчыноўскага (1695 – каля 1746). «Белетрызацыя» мемуарнага жанру ў XVIII ст. Мемуары XVIII ст. як выяўленне ўнутранага стану чалавека, яго пачуццяў. Эмацыянальнасць апісанняў. Элементы «прыгодніцтва» як адлюстраванне супярэчнасцяў грамадскага жыцця таго часу. Эвалюцыя пісьменніцкай свядомасці мемуарыстаў.

**Міхал Казімір Радзівіл Рыбанька** (1702–1762). Біяграфічныя звесткі. Удзел у грамадска-палітычным і культурным жыцці краю. «*Дыярыуш*» як рэгістрацыя найдрабнейшых здарэнняў сямейнага жыцця Радзівілаў, пададзеная праз прызму асабістых уражанняў. Чалавек першае паловы XVIII ст. як герой «Дыярыуша». Асаблівасці мовы «Дыярыуша».

**Марцін Матушэвіч** (1714–1773). Біяграфічныя звесткі. «*Дыярыуш жыцця майго*» як твор пра грамадска-палітычнае жыццё ў Беларусі ў 1714–1764 гг. Апавядальніцкае майстэрства аўтара. «Успаміны» як палітычныя «прыгоды», як паказ барацьбы за ўладу ў Рэчы Паспалітай. Спроба псіхалагічнага аналізу ў творы. Беларускія магнаты і шляхта ва ўспамінах М. Матушэвіча. Вобразы Радзівілаў. Норавы і быт шляхты XVIII ст.

**Саламея Пільштынова (Русецкая)** (1718 – пасля 1760). Пільштынова як аўтарка і літаратурная гераіня «*Авантураў майго жыцця*». Беларускае паходжанне, рэлігійныя і патрыятычныя погляды мемуарысткі. Час, апісаны ў творы. Спалучэнне барочнага светапогляду і ідэалогіі Асветніцтва ў асобе аўтаркі. Новая канцэпцыя жанчыны ў грамадстве. Новая мадэль жаночага шчасця ў творы. Жанрава-стылёвыя асаблівасці «Авантураў». Спалучэнне прыёмаў мемуарнага жанру, авантурна-прыгодніцкага рамана, падарожных нататкаў і аўтабіяграфічнай аповесці. Адметнасць кампазіцыі твора. Роля ўстаўных навел. Майстэрства і дакладнасць аўтаркі ў апісанні замежных краін. Эстэтыка барока ў мастацкай тканіне твора.

## 3.4. Парадыйна-сатырычная і гумарыстычная проза

Роля рукапісных зборнікаў «Silva rerum» у культурным жыцці краю. Прычыны ананімнасці беларускамоўнай прозы ў XVIII ст. Адлюстраванне рэлігійнай барацьбы і праяў вальнадумства. Біблейскія сюжэты і вобразы ў інтэрпрэтацыі літаратараў XVIII ст. «*Казанне руске схізматычне*», «*Прамова Русіна*», «*Другая прамова Русіна пра нараджэнне Хрыста*», «*Евангелія руская*». Барочныя і асветніцкія тэндэнцыі ў творах. Мастацкія асаблівасці, прыёмы травестацыі і іроікамізму, мова твораў.

**Караль Жэра** (1743 – пасля 1798). Біяграфічныя звесткі. Выданні «*Торбы смеху*» («*Vorago rerum*») З. Глогерам і К. Жукоўскай. «Торба смеху» як зборнік анекдотаў, показак, павучанняў, забаўных гісторый XVIII ст. Адметнасць апавядальнае манеры К. Жэры. Прадмовы пісьменніка як праява новай стратэгіі аўтара. Забаўляльная і дыдактычная мэты зборніка. Рэчаіснасць праз прызму смехавой культуры ў зборніку. Высокае і нізкае,

трагічнае і камічнае, рэальнае і фантастычнае ў «Торбе смеху». Асветніцкі рацыяналізм і асаблівасці барочнай паэтыкі ў зборніку. Фальклорныя матывы і моўныя асаблівасці твора.

## 3.5. Паэзія позняга Барока

Беларускамоўная паэзія на пачатку XVIII ст. Традыцыі Сімяона Полацкага і Андрэя Белабоцкага. Разбурэнне канонаў рэлігійнай паэзіі пад уплывам фальклору.

**Грамадска-філасофская лірыка** як пераход ад духоўнае паэзіі да свецкай. Адлюстраванне адметнасці чалавечага лёсу і далейшая індывідуалізацыя асобы. Амбівалентнасць унутранага свету чалавека і яго стасункі са зменлівай рэчаіснасцю. («*Сам я не знаю, як на свети жити*», «*Челом бью, панове любляне*», «*Бывало лиха много на свеце*»).

**Песенна-інтымная лірыка.** Шырокая распаўсюджанасць у Вялікім Княстве Літоўскім польска-беларускіх рукапісных зборнікаў песенна-інтымнай лірыкі («Аршанскі зборнік», «Варшаўскі зборнік», «Курніцкі зборнік», «Маскоўскія зборнікі»). Літаратурная і фальклорная традыцыі ў песеннай лірыцы. Народны погляд на каханне. «Барочная» інтэрпрэтацыя кахання. Унутраная супярэчлівасць пачуцця. Сінтэз рэнесанснай і барочнай традыцыі. Узмацненне суб'ектыўнага пачатку. Асаблівасці паэтыкі. Стылёвыя рысы барока («*Ой, хто ж мяне будзе ў маім жалю цешыці*», «*Успамажы, Божа, мае сардэнька*», «*Сам я не знаю, шчо дзелаці маю, шчо мілае не віжу*», «*Казала мне дзяўчынанька і да сябе прыйсці*», «*Песня пра Анусю*», «*Ой, перастань, мой наймільшы, да мяне хадзіці*»).

**Дамінік Рудніцкі** (1676–1739). Фальклорная аснова творчасці. Выкарыстанне барочных элементаў. Праблема аўтарства беларускамоўных твораў XVIII ст. «*Валедыкцыі*» («Вітанні») як рэлігійна-панегірычныя вершы. Гумарыстычныя і сатырычныя «звярыныя гратэскі» («*Птушыны баль*», «*Нязгода птаства і суд над крукам*», «*Апісанне птушынае хворасці*», «*Ваенны паход грыбоў*», «*Апісанне папа, што едзе, і сабакі, што брэша*», «*Камара з дуба цяжкі ўпадак*»). Грамадска-палітычная тэматыка сатыры Д. Рудніцкага. Алегарызм вершаў. Асаблівасці паэтыкі. Сувязь «звярыных гратэскаў» з бурлескна-сатырычнай паэзіяй Асветніцтва.

## 3.6. Драматургія першай паловы XVIII ст.

**Школьны тэатр.** Выкарыстанне езуітамі эстэтыкі барока ў тэатральных відовішчах. Тэатры ў езуіцкіх калегіумах. Рэпертуар тэатраў. Мэты і задачы рэпертуару. Структура сцэнічных твораў. Беларуская інтэрмедыя. Месца інтэрмедый у тэатральным відовішчы. Інтэрмедыя са зборніка з Крожаў («*Чорт Асмалейка*»). Інтэрмедыя «*Іван і царкоўны сторaж*» з «Камедыі пра Якуба і Іосіфа, патрыярхаў» Яўстафія Пылінскага. Адлюстраванне ў ёй тагачаснае рэлігійнае барацьбы.

Драма «*Духоўнае прычасце святых Барыса і Глеба*» з «Аршанскага кодэкса». Камізм і маральна-дыдактычная функцыя антыпралога і пралога, іх агітацыйны характар. Роля і месца беларускамоўных інтэрмедый у драме. Камічнае і трагічнае, гісторыя і сучаснасць у п’есе.

Інтэрмедыі з «Ковенскага зборніка»: «*Селянін і студэнт*», «*Селянін і вучань-уцякач*», «*Літаратар, селянін і Самахвальскі*». Аўтарская задума і вынік. Вобраз селяніна. Майстэрства дыялога.

Камедыя «*Вакханалія*» і яе сувязь з заходнееўрапейскаю драматургіяй. Інтэрмедыя «*Гульня Фартуны*». Яе залежнасць ад камедый П. Барыкі («Мужык каралём») і П. Кальдэрона («Жыццё ёсць сон»).

Інтэрмедыя на праваслаўнай і ўніяцкай сцэне. Інтэрмедыя «*Сляпы, кульгавы, потым пан і селянін*». Асветніцкія матывы ў ёй. Сувязь з сусветнаю літаратураю, творчасцю Кірылы Тураўскага.

Драма-маралітэ Мануіла Базілевіча «*Дэкламацыя*» з інтэрмедыямі «*Селянін у касцёле*», «*Селянін на споведзі*». Непазбежнасць кары за грахі як асноўны матыў «Дэкламацыі». Індывідуалізацыя вобраза галоўнага героя.

Інтэрмедыі ў драме Г. Каніскага «*Воскресение мертвых*» (1747). Іх антыпольскі і антыкаталіцкі характар.

Эвалюцыя інтэрмедыі ў школьным тэатры і паступовая індывідуалізацыя вобраза селяніна. Сувязь інтэрмедыі з фальклорнымі традыцыямі, увасабленне ў іх народнага светапогляду. Моўныя асаблівасці інтэрмедый.

**Народны тэатр. Батлейка.** Уплыў інтэрмедыі на ўзнікненне батлейкі. Батлейка і беларускае ігрышча. Сувязь батлейкі з шопкаю, вяртэпам. Рэпертуар беларускае батлейкі: кананічны і свецкі. «*Цар Ірад*». Біблейская традыцыя і народныя ўяўленні ў творы. Батлеечныя вобразы. Дабро і зло ў народнай інтэрпрэтацыі.

«*Цар Максіміліян*». Сувязь з каляднымі гульнямі. Асноўны сюжэт (цар Максіміліян і Адольф) і інтэрмедыйныя сцэны. Выяўленне традыцый народнае карнавальнае культуры. Высмейванне высокага і сур’ёзнага. Увасабленне народных імкненняў да перамогі над страхам і смерцю.

**Прыдворны тэатр.** Узнікненне беларускага прыдворнага тэатра. Адаптацыя набыткаў заходнееўрапейскай драматургіі да мясцовых тэатральных традыцый.

**Францішка Уршуля Радзівіл** (1705–1753). Біяграфічныя звесткі. Асветніцкая дзейнасць гаспадыні нясвіжскага палаца. Паэтычны перыяд творчасці (1725–1746). Жанрава-тэматычная разнастайнасць паэзіі Ф. У. Радзівіл. Каханне як асноўная тэма паэзіі («*Верш пра каханне*», «*Лісты да мужа*»). Творы паэткі як пачатак аўтарскай любоўнай лірыкі ў літаратуры Беларусі. Маральна-этычная праблематыка ў вершах-«перасцярогах».

Драматургічны перыяд творчасці (1746–1753). Запазычанасць сюжэтаў з сярэднявечных драм, антычнай міфалогіі і гісторыі, усходняга фальклору («*Распуснікі ў пастцы*», «*Суддзя, пазбаўлены розуму*»), агіяграфічнай літаратуры («*Безразважлівы суддзя*»). Спроба псіхалагічнае матывацыі паводзінаў герояў. Праблематыка твораў Ф. У. Радзівіл: мараль, вернасць,

каханне. Мясцовыя рэаліі, тып сармата, прыхільніка традыцыйнай маралі і быту ў п’есах. Эстэтыка барока як крытэрый фармавання вобразаў Ф. У. Радзівіл. Аўтабіяграфічныя матывы і элементы ў творах. Зборнік «*Камедыі і трагедыі*» (1754).

«*Золата ў агні*» як пераапрацоўка навелы Дж. Бакачыо. Цыцылія Ф. У. Радзівіл і Грызельда Дж. Бакачыо.

«*Гульня Фартуны*» і тэма «злачынца на троне» ў еўрапейскай літаратуры. Запазычанні з «Гісторыі» Герадота і барочныя лтаратурныя прыёмы (напаўненне сюжэта прыгодніцкім зместам, любоўнай інтрыгай ды інш.). Хрысціянскі маральна-этычны аспект фіналу.

«*Каханне – дасканалы майстра*» як твор пра пераўтваральную сілу кахання.

Драматургія Ф. У. Радзівіл і станаўленне беларускай тэатральнай культуры.

## 3.7. Літаратура эпохі Асветніцтва (другая палова XVIII – 10-я гг. XIX ст.): асаблівасці развіцця

Ідэалогія Асветніцтва. Уздзеянне заходнееўрапейскай філасофскай і эстэтычнай думкі на беларускае Асветніцтва. Тыпалагічна агульнае і нацыянальна адметнае ў беларускім Асветніцтве. Творы французскіх асветнікаў у Беларусі. Уплыў польскіх і расійскіх асветнікаў. Удзел беларускіх асветнікаў у развіцці ідэалогіі Асветніцтва. Барацьба асветнікаў з забабоннасцю і народнымі прымхамі (Ян Багамолец «Д’ябал у сваёй постаці»), схаластыкаю (Казімір Нарбут «Логіка»), суб’ектыўным ідэалізмам (Анёл Доўгірд). Рэфармаванне беларускімі асветнікамі навукі і школы (М. Пачобут-Адляніцкі, С. Юндзіл, А. Тызенгаўз), распаўсюджванне імі ідэі «натуральнае роўнасці людзей» (М. Карповіч, І. Храптовіч). Перыёдыка ў Беларусі.

Мастацкія напрамкі Асветніцтва. Асаблівасці беларускага класіцызму і сентыменталізму. Перадрамантызм у літаратуры Беларусі. Шматмоўны характар літаратуры Асветніцтва. Прычыны заняпаду беларускамоўнай літаратуры: дэнацыяналізацыя шляхты, наднацыянальны характар ідэалогіі Асветніцтва, нарматыўнасць эстэтыкі класіцызму.

Літаратурны працэс у Беларусі як складнік літаратурнага жыцця Рэчы Паспалітай. Складанасць і супярэчлівасць літаратурнага працэсу як адлюстраванне крызіснага стану Рэчы Паспалітай і гістарычных катаклізмаў у першыя дзесяцігоддзі пасля страты дзяржаўнасці (рэформы палітычнага, эканамічнага і грамадскага жыцця пры Станіславе Аўгусце, Барская і Таргавіцкая канфедэрацыі, падзелы Рэчы Паспалітай, Канстытуцыя 3 мая 1791 г., паўстанне Т. Касцюшкі, вайна 1812 г.).

## 3.8. Паэзія эпохі Асветніцтва

**Іяахім Храптовіч** (1729–1812). Біяграфічныя звесткі. Праблема аўтарства верша «*Усім многі век у новай хаце*». Час напісання. «Усім многі век…» як віншавальна-панегірычны верш. Асаблівасці мовы і паэтыкі.

**Міхал Карыцкі** (1714–1781). Біяграфічныя звесткі. Жанрава-тэматычная разнастайнасць зборніка «Песні» (1817). Агульнадзяржаўны пафас алегарычнай паэмы «*Птушыны сойм*». Сатырычнае адлюстраванне нораваў шляхты ў творы. Тэма патрыятызму і знітаванасці з роднай зямлёю («*Праклён Вулкану*», «*Да музаў, якія жывуць па суседству з Дзвіною і Палотаю*», «*Госцю Людовіку ў пачатку мая*», «*Пажаданні Літвы*»). Класіцыстычнае ўсхваленне розуму, навукі, адукацыі («*Віншаванне… пану Марціну Пачобуту*», «*Да аднаго паэта*»). Абарона езуіцкага ордэну («*Казка*»). Шчырая адданасць расійскай імператрыцы («*Радасць у Полацку з нагоды прыезду Кацярыны II*», «*Песня Кацярыне II з нагоды прыезду на Белую Русь*», «*Смутак у Полацку з нагоды ад'езду Кацярыны II*»). Адметнасць паэтыкі (кампазіцыйная дасканаласць, адшліфаванасць формы, рытмікі, стылю; выкарыстанне традыцыйных антычных памераў, вобразаў антычнае міфалогіі і літаратуры). Значэнне лацінамоўнай паэзіі М. Карыцкага.

**Адам Нарушэвіч** (1733–1796). Літаратурная і грамадская дзейнасць у Рэчы Паспалітай. Роля А. Нарушэвіча ў станаўленні розных напрамкаў у польскамоўнай літаратуры. Ідыліі паэта як увасабленне мары асветнікаў пра шчаслівае жыццё на ўлонні прыроды: «*Шчаслівы шлюб*». Оды і сатыры А. Нарушэвіча: «*Глупствы*», «*Бедны літаратар*». Сімбіёз лірызму і дыдактызму ў творчасці паэта. Беларусь у «Гісторыі польскага народа» А. Нарушэвіча.

**Францішак Карпінскі** (1741–1825). Папулярнасць сентыментальных ідылій і лірычных вершаў паэта ў Рэчы Паспалітай. «*Забавы вершам*» (1780). Грамадзянская лірыка Ф. Карпінскага. Інтэрпрэтацыя ідэй русаізму ў праграмным вершы «*Вяртанне з Варшавы на вёску*». Беларускі перыяд жыцця. Выкарыстанне беларускага фальклору ў польскамоўнай творчасці: «*Песня Марысі да Янкі*», «*Пайшла маладая Марыся па ракі*». Камедыя Ф. Карпінскага «*Чынш*» (1790) у шэрагу твораў, што прапагандавалі асветніцкую ідэю «добрага пана». Запазычанні з камедыі «Чынш» у «Ідыліі» В. Дуніна-Марцінкевіча. Ф. Карпінскі і А. Міцкевіч. «*Падарожжа па зачараваным краі*»: непрыняцце паэтам-сентыменталістам ідэй рамантычнай школы і адмаўленне ад містычнага адлюстравання рэчаіснасці.

**Францішак Князьнін** (1750–1807). Лацінамоўная творчасць віцебскага перыяду. Мастацкія пошукі паэта. Класіцызм і сентыменталізм у творчасці Ф. Князьніна. «*Элегія да Францішка Багамольца*» як погляд паэта на ўласную творчасць і творчасць увогуле. Гераіка-патрыятычная тэматыка трагедый «*Гектар*», «*Фемістокл*». Сентыменталісцкая лірыка пулаўскага перыяду. Зварот да беларускага фальклору. Беларусізмы ў мове герояў Ф. Князьніна:

камедыя «*Тры вяселлі*». Услаўленне краіны маленства ў ідыліях. Опера «Цыганы» (лібрэта Ф. Князьніна, музыка М. К. Агінскага) на сцэне Слонімскага тэатра Агінскіх.

**Юльян Урсын-Нямцэвіч** (1757–1841). Творчасць у рэчышчы класіцызму. Адлюстраванне беларускай тэматыкі ў *«Гістарычных падарожжах». «Літоўскія лісты»* (1812) як крытыка прарасійскіх і прафранцузскіх настрояў у Рэчы Паспалітай. Патрыятычныя матывы ў «Гістарычных песнях» (1816). Надзённасць камедыі «*Вяртанне дэпутата*». Адлюстраванне ў ёй праблемаў грамадска-палітычнага жыцця часоў Чатырохгадовага сойму. Беларусь ва «*Успамінах*» Ю. Нямцэвіча.

**Палітычная сатыра.** Адлюстраванне падзей Сямігадовай вайны («*Указ гарачы*», «*Проект*»), паўстання Т. Касцюшкі («*Разговор імператрыцы з Ільгештромом лістовны дня 28 апрыла 1794 г.*», «*Песня беларускіх жаўнераў 1794 г.*»). Выяўленне беларускага і рэчыпаспалітаўскага патрыятызму. Антырасійская накіраванасць, агітацыйны характар, прапаганда ідэй вольнасці. Фальклорна-песенная аснова. Вобразнасць верша.

**Францішак Рысінскі** (1749–1830?). Звесткі пра паэта. Р. Падбярэскі пра народнасць твораў паэта, дасціпнасць, камізм, грубаваты гумар, папулярнасць вершаў «*Хіба прашу я дажджу...*», «*Пан Дамінік...*», «*Роздум пасля страты закладзенага маёнтка*». Ф. Рысінскі як магчымы аўтар макаранічных беларуска-польскіх вершаў «*Плач пакінутага каханай*», «*За пекнай паненкай аж душа сумуе...*».

**Ян Аношка** (каля 1775 – каля 1827). Біяграфічныя звесткі. Зборнік «Вершаваныя творы» (1828). Беларуская тэматыка вершаў «*Муза з вясковае далі*», «*У роспачы*», «*Чорная роспач*», «*Чужы дом*», «*Сатыра пра гарэлку*», «*Модны залётнік*», «*Дуля за сліўкі*», «*Пра каханне*», «*Ветрагон да свае жонкі*»). Сентыменталізм у творах паэта. Р. Падбярэскі пра Я. Аношку. Творчасць паэта ў польскім і беларускім літаратуразнаўстве.

**Бурлескная паэзія.** Фальклярызацыя духоўных вершаў. Травеставанне біблейскіх сюжэтаў. Калядная («*У Бэтлееме, убогім доме…*») і велікодная («*Уваскрасенне Хрыстова*») бурлескная паэзія. «Уваскрасенне Хрыстова» як травесційны твор. Народны гумар і біблейскія персанажы ў творы.

**«Энеіда навыварат».** Публікацыі і рукапісы твора. Даследаванні паэмы ў XIX–XX стст. Вырашэнне Я. Карскім праблемы атрыбуцыі «Энеіды навыварат». «Смаленская» і «віцебская» рэдакцыі паэмы. Час і месца напісання. І. Манькоўскі і В. Равінскі як мажлівыя аўтары паэмы. Даследаванні «Энеіды навыварат» у беларускім літаратуразнаўстве. Гіпотэзы Г. Кісялёва і П. Шаўцова. «Энеіда…» у шэрагу еўрапейскіх травесцій: агульнае і адметнае. «Энеіда…» і «Энеіда» І. Катлярэўскага.

Прыёмы травестацыі ды іроікамізму ў творы. Паэтыка і строфіка паэмы. Сюжэтна-кампазіцыйныя асаблівасці. Беларускія народныя традыцыі, светапогляд і побыт беларуса ў паэме. Сацыяльная змястоўнасць твора.

## 3.9. Проза эпохі Асветніцтва

**Ганна Алімпія Мастоўская** (1762 – пасля 1823). Асоба пісьменніцы. Традыцыі гатычнага рамана ў творах «*Страх у Замачку*», «*Матыльда і Даніла*», «*Не заўсёды так робіцца, як гаворыцца*», «*Замак Канецпольскіх*» (1806). Інтэрпрэтацыя і міфалагізацыя ліцвінскай гісторыі ў рамане «*Астольда*» (1807). Першая ў беларускай літаратуры спроба напісання гістарычнага рамана. Спалучэнне асветніцкага рацыяналізму і тэндэнцый рамантызму. Творчасць Г. Мастоўскай як складнік перадрамантызму.

**Антон Марціноўскі** (1781–1855). Біяграфічныя звесткі. Рэдагаванне часопісаў «Вулічныя весткі», «Віленскі дзённік», газеты «Літоўскі кур'ер». А. Марціноўскі як аўтар антыпрыгонніцкай сатыры «Машына для біцця сялянаў» (1817) і, магчыма, беларускамоўных адозваў да народа (1812).

## 3.10. Драматургія эпохі Асветніцтва

**Францішак Багамолец** (1720–1784). Біяграфічныя звесткі. Асветніцкія тэндэнцыі ў творчасці. Сувязь з Беларуссю. Камедыі для школьнага тэатра. Крытыка нораваў у Рэчы Паспалітай: «*Пан добры*», «*Модныя кавалеры*», «*Хітры гаспадар*».

**Мацей Радзівіл** (1749–1800). Біяграфічныя звесткі. Аперэта «*Агатка, або Прыезд Пана*» (музыка Яна Давіда Голанда, лібрэта Мацея Радзівіла). Праблематыка твора. Сувязь твора з тагачасным грамадска-палітычным жыццём, з літаратураю пра стасункі пана і селяніна (Ф. Багамолец «Пан добры», Ф. Карпінскі «Чынш»). Уплыў асветніцкай ідэалогіі (Ж. Ж. Русо) на вырашэнне асноўнага канфлікту твора. Класіцыстычная трактоўка вобразаў-персанажаў. Увасабленне ў вобразе пана мары асветнікаў пра рэфармаванне грамадскага жыцця. Рэальнае і сімвалічнае ў творы. Вобраз Пана як алегарычнае ўвасабленне Пана дзяржавы, караля Станіслава Аўгуста.

**Каятан Марашэўскі.** «*Камедыя*» (1787) як тыповая барочная драма-маралітэ. Контррэфармацыйная ідэалогія і эстэтыка барока ў творы. Залежнасць ад езуіцкага школьнага тэатра. «Камедыя» як спроба ідэалагічнай барацьбы з вальнадумствам Асветніцтва. Чалавек і яго адносіны да веры і рэлігіі як асноўная тэма твора. Зададзенасць ідэі. Аўтарская трактоўка вобраза галоўнага героя (думка пра грэшнасць і нікчэмнасць чалавека). Камізм сітуацый і камізм характараў. Рэальнае і фантастычнае. Маралізатарства ў творы. Традыцыі і наватарства. Асветніцкі рэалізм у творы.

**Міхал Цяцерскі** (? –1797). «*Доктар па прымусу*» (1787) – вольная апрацоўка аднайменнае камедыі Ж. Б. Мальера. Уплыў на М. Цяцерскага твораў Ж. Б. Мальера, перакладзеных Ф. Багамольцам. Працяг традыцый інтэрмедый у беларускіх сцэнах п'есы. Ідэалогія Асветніцтва ў творы.

**Ян Ходзька** (1777–1851). Біяграфічныя звесткі. Дачыненні з таемнымі віленскімі таварыствамі. Камедыя «*Вызваленая Літва, або Пераход цераз Нёман*» (1812). Тэма, ідэйна-мастацкі змест твора. Культ Напалеона ў п'есе. Асаблівасці класіцызму Я. Ходзькі. Драматургічнае майстэрства аўтара. «Вызваленая Літва, або Пераход цераз Нёман» як пярэдадзень «Пана

Тадэвуша» А. Міцкевіча. Крытыка ладу жыцця беларуска-ліцвінскае шляхты ў аповесці «*Пан Ян са Свіслачы*» (1821). Творчасць Я. Ходзькі 30–40-х гг.

## 3.11. Літаратура эпохі Рамантызму (20–40-я гг. XIX ст.): асаблівасці развіцця

Беларусь пад уладаю расійскага царызму. Курс на поўную асіміляцыю і каланізацыю насельніцтва былога Вялікага Княства Літоўскага. Палітыка русіфікацыі і паланізацыя. Барацьба расійскай і польскай ідэалогій у Беларусі. Станаўленне беларускага літаратурна-грамадскага руху. Салідарызацыя ліцвінаў (беларусаў) з польскім нацыянальна-вызваленчым рухам.

Адлюстраванне падзей вайны 1812 г., філамацка-філарэцкага руху, Лістападаўскага паўстання 1830–1831 гг., «змовы Канарскага» ды інш. у літаратуры Беларусі першай паловы XIX ст. Праблемы фармавання беларускай творчай інтэлігенцыі ў XIX ст. Асэнсаванне апалячанаю мясцоваю шляхтаю свае сапраўднае нацыянальнае прыналежнасці і зварот да творчасці на мове народа. Вылучэнне новых мастацкіх талентаў з народнага асяроддзя. Двуадзінства беларуска- і польскамоўных плыняў у літаратурным працэсе Беларусі XIX ст.

Станаўленне і развіццё беларускае нацыянальнае думкі ў шматмоўнай літаратуры Беларусі. Прэтэнзіі беларускага руху на рэгіянальную адасобленасць.

Дэмакратычны змест і пафас літаратуры XIX ст. Складаныя і апасродкаваныя сувязі са старабеларускаю літаратураю. Неабходнасць выпрацоўкі новай жанравай сістэмы і мастацкіх плыняў. Роля нацыянальнага фальклору ў станаўленні і развіцці беларускай літаратуры XIX ст. Традыцыі і ўплывы суседніх літаратур. Беларуская літаратура ў кантэксце славянскіх літаратур XIX ст.

Мастацкія плыні ў беларускай літаратуры XIX ст. Сентыменталізм, перадрамантызм, рамантызм, рэалізм, іх сімбіёз; стылёвы сінкрэтызм твораў беларускай літаратуры XIX ст.

## 3.12. Жыццё і творчасць Адама Міцкевіча (1798–1855)

***Станаўленне асобы паэта. Філамацкі перыяд творчасці***. Паэзія А. Міцкевіча як выяўленне ліцвінскага (беларускага) патрыятызму. Этапы сталення А. Міцкевіча: дамініканская школа ў Наваградку (1807–1815), Віленскі ўніверсітэт (1815–1819), каханне да Марылі Верашчакі, удзел у арганізацыі студэнцкіх таемных таварыстваў. Філамацка-філарэцкая чыннасць А. Міцкевіча, яе патрыятычны пафас. Пачатак літаратурнае творчасці. «*Гарадская зіма*» (1818). У рэчышчы класіцызму (1818–1821). Настаўніцкая праца ў Коўне (1819–1823). Уплыў еўрапейскага рамантызму

на станаўленне стылю паэта. «*Ода да маладосці*» і «*Песня філарэтаў*» як пярэдадзень рамантычнага бунту.

«*Балады і рамансы*» (1822). Абарона рамантызму. Спрэчкі з віленскімі вучонымі-асветнікамі (*«Рамантычнасць»*). Рамантычнасць як «дзіўнае» і «простае» («*Люблю я*»). Рамантызм і простанародная паэзія («*Свіцязь*», «*Свіцязянка*», «*Лілеі*»). Паходжанне жанру балады (кельцкая традыцыя). Уплыў на баладную практыку А. Міцкевіча твораў Я. Чачота і еўрапейскай баладнай традыцыі. Наватарства А. Міцкевіча. Адкрыццё таямнічай сферы чалавечай душы, звышпачуццёвага свету. Рамантычная паэзія як сінтэз элементаў эпічных, лірычных і драматычных.

Інтымная лірыка паэта. «*Да М****», «*Да Д. Д.*», «*Да ***. На Альпах у Сплюгене 1829*».

«*Гражына*» – твор гераічнае паэзіі. Спалучэнне класіцыстычных і рамантычных традыцый. Містыфікацыя народнае песні-легенды. Зварот да Сярэднявечча. Патрыятычны пафас паэмы. Любоў да Бацькаўшчыны як характэрная рыса ліцвінаў. Сутнасць канфліктаў у творы. Рамантычнае вырашэнне праблемы героя. «Гражына» і выхаванне патрыятычных ды маральных пачуццяў. «Гражына» і «Іліяда» Гамера.

«*Дзяды*» (II і IV часткі). Загадкавая будова твора. Прычыны звароту да народнае містэрыі – урачыстасці ўшанавання продкаў «дзяды». Сутнасць сцэнаў паганскага абраду. Герой паэта на свяце «дзядоў». Драма пустэльніка Густава. Разлад між дыдактызмам эпохі Асветніцтва і рэальным жыццём. Рэмінісцэнцыі з мастацкае літаратуры (Ж. Ж. Русо «Новая Элаіза», І. В. Гётэ «Пакуты маладога Вертэра»). Абарона абраду «дзядоў» галоўным героем. Народная маральнасць як крытэрый маралі ўвогуле. Раскрыццё народных уяўленняў пра сувязь зямнога свету з незямным. Уплыў Дж. Г. Байрана – «песняра незвычайных індывідуальнасцяў».

***Расійскі этап жыцця і творчасці А. Міцкевіча*** (1824–1829). Арышт па справе філаматаў. Высылка ў Пецярбург і Адэсу. Падарожжа ў Крым (1825). Пецярбургска-маскоўскі перыяд жыцця і творчасці.

«*Санеты*», «*Крымскія санеты*» (1826). Усход (для А. Міцкевіча – Крым) як крыніца натхнення рамантыкаў. Майстэрства паэтычнага слова, удасканаленне кампазіцыі верша. Лірызм і глыбокая філасофская думка. Гульня кантрастаў. Патрыятычныя матывы.

«*Конрад Валенрод*» (1828). Гістарычная аповесць з алюзіямі на сучаснасць. Імкненне аўтара давесці, што твор напісаны паводле гістарычных падзей (прадмова, каментарыі). Байранаўскія матывы ў творы. Роздум над лёсам роднага краю. Задача падтрымання духу народа. Трагедыя Альфа-Конрада. Тэма асабістага шчасця і шчасця Айчыны. «Конрад Валенрод» як аповесць пра кошт любові да Бацькаўшчыны, як «падручнік» барацьбы з ворагам, апалогія помсты, метафара трагізму маральных канфліктаў тагачасных патрыётаў-ліцвінаў. Роля паэзіі ў фармаванні нацыянальнае свядомасці, патрыятызму народа.

***Жыццё і творчасць А. Міцкевіча ў эміграцыі*** (1829–1855). Падарожжа па Заходняй Еўропе. Парыжскі перыяд жыцця. Выкладчыцкая дзейнасць у

Лазане і Парыжы. Беларуская мова і фальклор у лекцыях паэта. А. Міцкевіч і А. Тавянскі. А. Міцкевіч і польская эміграцыя.

«*Дзяды*» (III частка). Новая трактоўка вобраза галоўнага героя. Містычны і рэалістычны планы паэмы. Ідэі месіянізму. Патрыятычная тэма і тэма згодніцтва-здрады. Раздзел «Ноч дзядоў» як звяно, што злучае III частку паэмы з II і IV. «Дзяды» як рамантычная нацыянальная драма.

«*Пан Тадэвуш*» (1834). Настальгія паэта па Літве. Сапліцова як мікракосмас даўняе Літвы. Прыгодніцкая фабула твора, яго патрыятычныя матывы. Асаблівасці стылю і жанр паэмы. Вобразная сістэма твора. Тыпы ліцвінаў. Іронія і гумар. «Пан Тадэвуш» як эпапея шляхецкага жыцця.

Лірыка эміграцыйнага перыяду: «*Exegi monumentum aere perennius...*», «*Над воднай прасторай чыстай…*», «*Калі мой труп...*», «*Паліліся мае слёзы…*».

А. Міцкевіч у польскай крытыцы XIX ст. Сучаснае міцкевічазнаўства ў Польшчы. А. Міцкевіч у перакладах на беларускую мову (В. Дунін-Марцінкевіч, А. Ельскі, Я. Купала, Б. Тарашкевіч, Я. Семяжон, П. Бітэль ды інш.). А. Міцкевіч у беларускім літаратуразнаўстве.

## **3.13. Творчасць Яна Чачота** (1796–1847)

Біяграфія пісьменніка. Дачыненні са студэнтамі Віленскага ўніверсітэта. «Штатны» паэт таварыства філаматаў. «Ямбы» Я. Чачота. Беларускамоўная творчасць: «*Яжовыя імяніны*», «*Да пакіньце горла драць…*», «*На прыезд Адама Міцкевіча*».

Польскамоўная творчасць паэта, асветніцкія і рамантычныя тэндэнцыі. Імкненне дакладна перадаваць фальклор. Спроба памірыць праціўнікаў і прыхільнікаў рамантызму. Спалучэнне ў баладнай творчасці кніжных гісторый і вусных паданняў. Маральна-этычная і патрыятычная праблематыка твораў Я. Чачота філамацкага перыяду. «*Свіцязь*», «*Наваградскі замак*», «*Узногі*», «*Мышанка*», «*Радзівіл, або Заснаванне Вільні*», «*Калдычэўскі шчупак*», «*Бекеш*». Балады Я. Чачота – крыніца творчага натхнення, аснова ўзлёту рамантычнага генія А. Міцкевіча. *«Спевы пра даўніх ліцвінаў»* як вершаваная гісторыя Літвы-Беларусі.

Арышт па справе філарэтаў і філаматаў. Высылка. Фалькларыстычна-перакладчыцкая дзейнасць пасля вяртання на Бацькаўшчыну. Падрыхтоўка шасцітомнага збору беларускіх народных песень – «Вясковыя песенькі з-над Нёмана і Дзвіны». Дэмакратызм Я. Чачота. Асветніцкі характар прадмоў. Спроба характарыстыкі «славяна-крывіцкае» мовы. «*Уласныя вясковыя песні*». Іх маральна-этычная праблематыка («*Да мілых мужычкоў*» ды інш.). Тэматыка і праблематыка польскамоўнай лірыкі («*О ты край мой нешчаслівы!*», «*Уцеха*», «*Яна далёка*», «*Касец*», «*Малацьбіты*», «*Праснічка*»).

## **3.14. Творчая спадчына паэтаў філамацкага асяроддзя**

**Тамаш Зан** (1796–1855). Біяграфічныя звесткі. Роля ў арганізацыі таемных віленскіх суполак моладзі (філаматаў, філарэтаў, прамяністых), каардынацыя іхняе чыннасці. Арышт і высылка. Літаратурная і грамадская дзейнасць пасля вяртання (1841) на радзіму. Беларускі фальклор у творчасці Т. Зана: «*Мінчук*», «*Цыганка*», «*Трыялет*», «*Свіцязь-возера*», «*Твардоўскі*».

**Антон Эдвард Адынец** (1804–1885). Даэміgranцкі (1821–1829) перыяд творчасці («*Песня філарэтаў*»). Выкарыстанне беларускае міфалогіі («*Хохлік*»). Сяброўства з А. Міцкевічам і Я. Чачотам. Эпітафія «*Надпіс на магільным помніку Яну Чачоту ў Ротніцы*». Грамадская і літаратурная дзейнасць на Бацькаўшчыне (1837–1866). Рэдагаванне «Віленскага весніка».

**Юльян Корсак** (1806–1885). Беларуская тэматыка літаратурнай творчасці паэта («*Да Нёмана*»). Мастацкае ўвасабленне народных прымхаў і забабонаў у ягонай паэзіі («*Зорка Лятавец*»).

**Ануфры Петрашкевіч** (1793–1863). Роля ў арганізацыі таварыства філаматаў. Рамантычныя тэндэнцыі ў творчасці. Фальклорны этнаграфізм (ідылія «*Купала*») і ўплыў сентыменталізму («*Вёска*»). Патрыятычныя матывы («*Роздум каля руінаў Гедымінавага замку*»).

**Аляксандр Ходзька** (1804–1891). Зборнік «*Вершаваныя творы*» (1829). Беларускі фальклор як аснова для баладнай творчасці паэта («*Маліны*»). А. Ходзька і А. Міцкевіч.

**Ігнат Дамейка** (1802–1889). І. Дамейка і А. Міцкевіч. Успаміны І. Дамейкі «*Філарэты і філаматы*», «*Маладосць Міцкевіча*», «*Вяртанне на радзіму*».

## 3.15. Беларускамоўная літаратура 20–40-х гг. XIX ст.

**Паўлюк Багрым** (1812 – каля 1890). Біяграфічныя звесткі. П. Багрым і паэзія віленскіх рамантыкаў. П. Багрым і беларускамоўная паэзія (Я. Баршчэўскі). Гісторыя публікацыі верша «*Заграй, заграй, хлопча малы*». Ігнат Яцкоўскі і праблема аўтарства верша. Рэальны факт і паэтычная фабула верша. Аўтабіяграфізм і мастацкая вобразнасць твора. Міфалагічныя матывы як увасабленне трагізму народа. Трансфармацыя фальклорна-песенных традыцый у нацыянальную літаратуру Новага часу. Праблемы атрыбуцыі верша «Заграй, заграй, хлопча малы».

**Ананімная літаратура.** Прычыны ананімнасці літаратуры. Публікацыі беларускамоўных ананімных твораў (альманах «Bojan», 1838, «Маяк», 1843, т. 9; 1845, т. 23, «Иллюстрация», 1848, т. 7; «Белорусские песни» І. Насовіча ды інш.).

«*Віншаванне бондара Савасцея*». Антыпаўстанцкія матывы твора. Паўстанцкі рамантызм шляхты і рэальны погляд на падзеі простага люду. Адлюстраванне ў вершы праблемаў нацыянальнага жыцця беларусаў. Апавядальніцкае майстэрства аўтара. Дынамізм маналога. Спроба «ўціснуцца» ў рамкі віншавальнага жанру.

«*Імяніннае віншаванне*». Народная мудрасць, гумар і кемлівасць у вершы. У рэчышчы традыцый віншавальнага жанру. Ідэйная канцэпцыя

віншавальнага жанру: імкненне да міру і згоды між гаспадаром і ягонымі падданымі. «*Вось які цяпер люд стаў*». Маральна-этычная праблематыка твора.

## 3.16. Паэзія 40-х гг. XIX ст.

**Грымалоўскія Валерыян, Клеменс, Юльян** (першая палова XIX ст.). Трохтомнік «*Вершаваныя творы*» (1837). Беларускія матывы вершаў («*Думка селяніна на ніве*», «*Роздум над Дзвіною*»), выкарыстанне беларускіх народных песень (драматычная паэма «*Блаславенне*»), пераклад беларускага фальклору на польскую мову («*Песні беларускага люду*»). Імкненне вывесці «свой беларускі дыялект з усеагульнага забыцця» (ліст да А. Грозы).

**Гаўдэнты Шапялевіч** (1800–1846) – беларускі польскамоўны паэт. Біяграфічныя звесткі: вучоба ў Полацкай езуіцкай акадэміі, праца ў Пецярбургу і Віцебскай гімназіі, удзел у патрыятычным руху. «Беларускі перадрамантызм» як асноўны стылёвы напрамак яго творчасці («*Усюды ты*», «*Памяркоўнасць*», «*Рубон*»).

**Габрыэля Пузыня** (1815–1869). Біяграфічныя звесткі. Маральна-этычная праблематыка ў зборніках «У імя Бога» (1843), «Далей у свет» (1845). Сімвалічная значнасць верша «*Да Адама Міцкевіча, пасылаючы яму трохі вады і кветак*». Беларуская рэчаіснасць у мемуарах «*У Вільні і літоўскіх дварах*», апавяданнях «*Помста літвінкі*», «*Слоўцы люду*». Г. Пузыня як верагодная аўтарка паэмы «Мачаха».

**Тадэвуш Лада-Заблоцкі** (1811–1847). Асоба паэта. Гартаванне патрыятычных памкненняў. Ссылка на Каўказ. Маральна-рэлігійная праблематыка (балада «*Зачараваная дзяўчына*»), гістарычная тэма (балада «*Ляшка*»), настальгія па Беларусі («*Да бярозы на Каўказскіх гарах*», паэма «*Ваколіцы Віцебска*», элегіі «*Да Дзвіны*», «*Вілія*», «*Ах, пусціце мяне…*») у творчасці паэта. Зборнік «*Вершаваныя творы*» (1845). Р. Падбярэскі пра Т. Ладу-Заблоцкага.

**Франц Савіч** (1815–1847). Станаўленне асобы. Кіраўніцтва «Дэмакратычным таварыствам». Рэгіянальны патрыятызм. Ідэйна-мастацкі змест гутаркі «*Там блізко Піньска*». Эсхаталагічныя матывы ў «*Споведзі пакутніка*». Адлюстраванне ідэй польскага месіянства. «*Успаміны*» як твор мемуарнае літаратуры. Гісторыя напісання і публікацыі. Салідарызацыя беларусаў з польскім нацыянальна-вызваленчым рухам і запаволенне працэсаў нараджэння беларускае нацыянальнае самасвядомасці.

**Аляксандр Грот-Спасоўскі** (1808–1857). Балады паводле беларускіх паданняў *(«Апошнія ловы», «Латнік», «Русалкі»)*.

## 3.17. Проза і публіцыстыка 20–40-х гг. XIX ст.

**Генрык Жавускі** (1791–1866). Біяграфічныя звесткі. Гісторыя напісання «*Успамінаў Сапліцы*». Рамантычны гістарызм у творы. «Успаміны Сапліцы»

як характарыстыка ліцвінскае (беларускае) шляхты другое паловы XVIII ст. Рэальны шляхецкі свет і ягонае адлюстраванне ў творы. Вобраз галоўнага героя-апавядальніка. Міфалагізацыя гісторыі Барскай канфедэрацыі і падзелаў Рэчы Паспалітае. Спроба стварэння вобраза нацыянальнага героя (Тадэвуш Рэйтан). Элементы агіяграфічнага канону ва «Успамінах Сапліцы». Вобраз Караля Радзівіла Пане Каханку. Кампазіцыя і стыль твора. Уплыў крытыкі (М. Грабоўскі) на перамену поглядаў Г. Жавускага на мінулае (раман «*Лістапад*»).

**Эдвард Тамаш Масальскі** (1799–1879). Біяграфічныя звесткі. Рэдагаванне часопіса «Bałamut» («Баламут»). Дыдактычны раман «*Пан Падстоліц*» (1831–1833) як твор пра палітычнае і эканамічнае жыццё ў Беларусі, пра сацыяльнае становішча сялянства. Пан Падстоліц – вобраз ідэальнага пана.

**Марцін Асорыя-Цяплінскі** (1802–1847). Біяграфічныя звесткі. Фальклярыстычная і выдавецкая дзейнасць. Гумарыстычнае майстэрства пісьменніка ў апавяданні «*Нешта тут сабакам смярдзіць*».

**Аляксандр Гроза** (1807–1875) – польскамоўны літаратар Украіны і Беларусі. Узаемадачыненні з прадстаўнікамі беларускага руху. Таленавітае выкарыстанне беларускіх легендаў у паэмах «*Марына*», «*Глухое возера*». Беларуская гісторыя дахрысціянскіх часоў у творах. А. Гроза і Я. Баршчэўскі («*Нечаканы госць*»).

**Плакід Янкоўскі** (1810–1872). Звесткі пра пісьменніка. Крытыка заганаў шляхецкага жыцця. Мясцовы патрыятызм. Ідэалізацыя мінулага. Гумарыстычны талент П. Янкоўскага ў празаічных творах *(«Засценак», «Апавяданні»)*.

**Іосіф Цытовіч** (1811? – 1870) як публіцыст «Маяка». Выступленне ў абарону мовы і літаратуры беларусаў («*Два словы пра мову і пісьменнасць Белай Русі*» і «*Адзін дзень у Беларусі*»). Спроба выяўлення беларускага светапогляду ў расійскім друку.

**Фадзей Булгарын** (1789–1859). Біяграфія пісьменніка. Яго ўдзел у літаратурным жыцці Расіі. Журналісцкая і выдавецкая дзейнасць. Супярэчлівае стаўленне з боку рускіх пісьменнікаў. Беларусь ва «*Успамінах Фадзея Булгарына*» і рамане «*Іван Выжыгін*».

**Юзаф Ігнат Крашэўскі** (1812–1887). Біяграфічныя звесткі. Сувязь з беларускім краем. Прапаганда ў ранняй творчасці ліцвінскіх ідэй (паэмы трылогіі «*Анафеляс*»), адлюстраванне гісторыі Беларусі («*Кунігас*», «*Апошняя са слуцкіх князёў*», «*Старая казка*», «*Кароль у Нясвіжы. 1784*», «*Апошнія хвіліны Пане Каханку*», «*Маці каралёў*», «*Паперы Глінкі*»), паказ цяжкага становішча прыгонных («*Хата за вёскай*», «*Гісторыя Саўкі*»). Ю. І. Крашэўскі і беларуская літаратура.

**Рамуальд Падбярэскі** (1812–1856). Біяграфія. Удзел у арганізацыі беларускага літаратурна-грамадскага руху 40-х гг. XIX ст. Рэдактарска-выдавецкая дзейнасць у Пецярбурзе і Вільні («Rocznik Literacki» («Літаратурны гадавік»), «Pamiętnik Naukowo-Literacki» («Навукова-літаратурны дзённік»)).

«*Беларусь і Ян Баршчэўскі*» як першы нарыс гісторыі новай беларускай літаратуры. Вызначэнне беларускай мовы як асноўнага крытэрыю народнасці пісьменніка. Спроба аналізу вытокаў апавядальніцкага таленту Я. Баршчэўскага, нацыянальнага духу ягоных твораў.

«*Лісты пра Беларусь*» як адказ шавіністам-славянафілам. Імкненне давесці неабгрунтаванасць выдумак пра Беларусь як пра цёмны і забіты край. Р. Падбярэскі ў гісторыі беларускае літаратуры.

**Ігнат Храпавіцкі** (1817–1893) – беларускі літаратар, фальклярыст, грамадскі дзеяч. Ініцыятар выдання часопіса «Rubon» («Рубон»). Фальклярыстычная і перакладчыцкая дзейнасць. Артыкул «*Погляд на паэзію беларускага люду*» (1845) – думка пра дэмакратызацыю літаратуры, пра яе народны характар. Вера ў абуджэнне беларускага літаратурнага жыцця (верш *«Дзвіна»*).

**Ігнат Ходзька** (1794–1861). Біяграфія пісьменніка. Уплыў творчасці Я. Ходзькі на фармаванне асобы І. Ходзькі. Палеміка з рамантыкамі (ліст да А. Э. Адынца). І. Ходзька і А. Міцкевіч. І. Ходзька як адзін з аўтараў «Альбома» Аляксандру II. Асветніцка-сентыментальныя і рамантычныя тэндэнцыі ў паэзіі і прозе літаратара. Гавэнда-гутарка ў творчасці І. Ходзькі.

Структура «*Ліцвінскіх малюнкаў*» і «*Ліцвінскіх паданняў*». Гістарызм і асаблівасці паэтыкі. «*Успаміны квестара*». Адметнасць мастацкай формы твора. Элементы прыгодніцтва і паэтыка вандроўнага рамана. Ідэйна-мастацкі змест твора. Рэчаіснасць апошніх дзесяцігоддзяў XVIII – пачатку XIX ст. і ейнае мастацкае ўвасабленне пісьменнікам. Маральна-этычная праблематыка ў творы. Сутнасць канфліктаў. Вобразная сістэма «Успамінаў квестара». Аўтабіяграфічна-аўтарскае ў структуры вобраза галоўнага героя. Стварэнне вобраза «зямнога раю»: маёнтак Старасты як узор для наследавання. Вобразы гістарычных асобаў (Караль Радзівіл Пане Каханку, Міхал Валадковіч). Культ Напалеона і ягонае адлюстраванне ў творы. Майстэрства І. Ходзькі.

## 3.18. Творчасць Яна Баршчэўскага (1794(?)–1851)

Асоба паэта. Крыніцы звестак пра год нараджэння паэта. Вучоба ў Полацкай езуіцкай Акадэміі. Беларускамоўная творчасць Я. Баршчэўскага. «*Рабункі мужыкоў*» як водгук на падзеі вайны 1812 г. «*Да чым жа твая, дзеванька, галоўка занята?*» – першы верш інтымнага характару ў беларускамоўнай паэзіі XIX ст. «*Гарэліца*» як адлюстраванне рэалій сялянскага жыцця таго часу.

Пецярбургскі перыяд жыцця. Сустрэчы з А. Міцкевічам і Т. Шаўчэнкам. Ліставанне з Ю. Шапялевіч-Корсак. Польскамоўная паэзія Я. Баршчэўскага: «*Санет для В. П. Буйніцкае*», «*Да Юлі*». Рэдактарска-выдавецкая дзейнасць пісьменніка. Альманах «Niezabudka» («Незабудка»). Фальклорны этнаграфізм і літаратурная традыцыя ў баладах Я. Баршчэўскага «*Русалка-спакусніца*», «*Дзявочая крыніца*», «*Дзве бярозы*», «*Роспач*», «*Курганы*», «*Партрэт*».

«*Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях*». Гісторыя ўзнікнення твора. Асаблівасці кампазіцыі твора. Маральна-рэлігійная праблематыка кнігі, паганская міфалогія і догмы хрысціянства ў ёй. Беларускі нацыянальны светапогляд герояў Я. Баршчэўскага. Нацыянальна-патрыятычная тэма «Шляхціца Завальні». Сцвярджэнне думкі пра рэгіянальную адасобленасць Беларусі. Увасабленне ў творы беларускае нацыянальнае ідэі: Плачка, Сын Буры, Пакутны дух як носьбіты гэтае ідэі. Сувязь са старабеларускаю літаратураю (пераасэнсаванне галоўнага вобраза «Трэнаса» М. Сматрыцкага). Выкарыстанне зместу, стылістыкі і паэтыкі беларускіх казак, легендаў і паданняў. «Шляхціц Завальня» як літаратурны твор, а не зборнік беларускага фальклору на польскай мове. Прытчавы характар «Шляхціца Завальні». «Шляхціц Завальня» як сімволіка-алегарычнае адлюстраванне гістарычных падзей у Беларусі ў другой палове XVIII ст. «Шляхціц Завальня» ў беларускім літаратуразнаўстве.

«*Драўляны Дзядок і кабета Інсекта*». Гісторыя напісання і публікацыі. Развіццё беларускае тэматыкі ў творчасці Я. Баршчэўскага. Народная фантастыка ў творы. Маральна-этычная праблематыка. Грамадзянская пазіцыя аўтара.

«*Душа не ў сваім целе*». Рэальныя падзеі і вымысел у аповесці. Ф. Савіч як мажлівы правобраз галоўнага героя. Я. Баршчэўскі пра шляхі служэння Бацькаўшчыне.

«*Жыццё Сіраты*». Беларускія рэаліі як аснова сюжэта драматычнае паэмы. Алегорыя і сімволіка ў творы. Я. Баршчэўскі пра ролю мастацтва (вобраз Музыкі).

Роля Я. Баршчэўскага ў станаўленні беларускага літаратурна-грамадскага руху ў 40-я гады XIX ст. Беларуская ідэя Я. Баршчэўскага ў другой палове XIX ст. і ў XX ст.

# 4. ЛІТАРАТУРА ДРУГОЙ ПАЛОВЫ XIX СТ.

## 4.1. Літаратура 50–60-х гг. XIX ст.

**Агульная характарыстыка літаратурнага працэсу.** Найважнейшыя эканамічныя і грамадска-палітычныя падзеі і працэсы, якія паўплывалі на развіццё літаратуры Беларусі (лібералізацыя грамадскага жыцця пры Аляксандры II, правядзенне сацыяльна-эканамічнай рэформы 1861 г., нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1863–1864 гг. і яго вынікі, урадавы курс на татальную русіфікацыю краю). Грамадская думка, беларусазнаўчыя даследаванні, актывізацыя выдавецкай дзейнасці і аслабленне цэнзуры ў 50-х – першай палове 60-х гг. Альманахі і перыядычныя выданні. Паленіка пра ідэйнасць (тэндэнцыйнасць) і народнасць літаратуры. Паказ новага

героя-селяніна і сутнасць прынцыпу мастацкага этнаграфізму. Фарміраванне асноўных цэнтраў беларускага літаратурна-грамадскага руху (Мінск, Вільня, Віцебск). Мінск у творчай біяграфіі В. Дуніна-Марцінкевіча, У. Сыракомлі, С. Манюшкі, П. Шпілеўскага. Асобнае месца П. Шпілеўскага (1823–1861) у грамадска-культурным жыцці Беларусі 50-х гг. Віленскае літаратурнае асяроддзе (У. Сыракомля, В. Каратынскі, Ю. Ляскоўскі і інш.) і літаратурны салон А. Кіркора. Пісьменнікі Віцебшчыны А. Вярыга-Дарэўскі, А. Рыпінскі, Г. Марцінкевіч, Я. Вуль.

**Адам Плуг** (Антон Пяткевіч; 1823–1903). Беларусь у лёсе пісьменніка. Сяброўства з У. Сыракомлем. Кантакты з В. Дуніным-Марцінкевічам: ацэнка творчасці пісьменніка ў нарысе А. Плуга «*Некалькі ўражанняў з падарожжа па Літве*» (1858). Журналісцкая і выдавецкая дзейнасць. Ліставанне з А. Рыпінскім. Творчасць на беларускай мове. Сувязь апавядання «*Кручаная баба*» (1849) з анекдотамі і казкамі, у якіх выкарыстаны фальклорны матыў пра пакаранне злоснай і дурной жонкі.

**Ігнацы Яцкоўскі** (1795–1873). Біяграфічныя звесткі. Жыццё ў эміграцыі і стасункі з А. Рыпінскім і Ю. Ляскоўскім. Жанравая адметнасць твора «*Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды*» (1854). Мастацкае асэнсаванне вайны 1812 г. у творы. Схаваная палеміка з паэмай «Пан Тадэвуш» А. Міцкевіча. Адлюстраванне побыту і нораваў наваградскай шляхты. Звесткі пра Пётрака з Крашына і яго верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы…». Польскамоўныя вершы.

**Юльян Ляскоўскі** (1826 – пасля 1888). Удзел у вызваленчым руху і эміграцыя. Знаходжанне ў Лондане. Ю. Ляскоўскі і праблема аўтарства элегіі «*Зайграй, зайграй, хлопча малы…*». Вяртанне на радзіму і супрацоўніцтва ў Вільні з А. Кіркорам. Паэтычны зборнік на польскай мове «*Беларускі бандурыста*» (1861). Патрыятычны пафас, адлюстраванне беларускага фальклорна-этнаграфічнага матэрыялу і асноўныя матывы ў паэме «*На чужой старане*» (1855). Пераезд на жыхарства ў Польшчу пасля паўстання 1863–1864 гг. Асветніцкі характар дзейнасці. Выступленне ў абарону беларускай мовы. Пытанне аўтарства стылізаваных пад фальклор беларускамоўных вершаў «*Зямелька мая*» (1863) і «*Пад дуду*» (1879).

**4.1.1. Жыццё і творчасць Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.**

**Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч** (1808–1884). Біяграфія. Дэмакратызм і ідэалы асветніцтва як вызначальныя рысы светапогляду. Шматграннасць творчай асобы пісьменніка. Разуменне творчасці як маральна-асветніцкай місіі. Сялянска-дэмакратычныя ідэалы і літаратурна-эстэтычныя погляды В. Дуніна-Марцінкевіча. Музычна-тэатральнае жыццё Беларусі ў сярэдзіне XIX ст. і пачатак драматургічнай дзейнасці. Першыя оперы і творчае супрацоўніцтва з С. Манюшкам. В. Дунін-Марцінкевіч як артыст і рэжысёр-пастаноўшчык музычных спектакляў у Мінску. Гісторыя выдання кніг В. Дуніна-Марцінкевіча. Кантакты з беларускімі пісьменнікамі і дзеячамі культуры. Акалічнасці ўдзелу ў паўстанні 1863–1864 гг., арышт і турэмнае зняволенне. Жыццё ў Люцінцы пад паліцэйскім наглядам.

Ранні перыяд творчасці. Гісторыя стварэння і публікацыі лібрэта оперы «*Ідылія*» («*Sielanka*») (1846). Пастаноўка спектакля і водгукі ў перыядычным друку. Асветніцкія тэндэнцыі і праявы эстэтыкі сентыменталізму ў творы. Імкненне да сацыяльнай гармоніі на аснове маральнай еднасці і агульначалавечых каштоўнасцей. Патрыятычныя матывы і характар любоўнай інтрыгі. Сцэнічнае вырашэнне ідэі «перавыхавання» касмапаліта Караля Лятальскага пад уплывам кахання. Пошукі маральнага ідэалу ў народным асяроддзі. Спроба стварэння мастацкіх тыпаў беларускага сялянства. Вобраз Навума Прыгаворкі. Элементы сацыяльнага крытыцызму ў творы. Сувязь з традыцыямі прыдворнага і школьнага тэатра Беларусі XVIII ст. Жанравая спецыфіка, двухмоўнасць і паэтыка твора. Апрацоўка твора Я. Лёсікам і Я. Купалам. Гісторыка-літаратурнае значэнне *«Ідыліі»*.

Жанравая адметнасць і гісторыя выдання твораў паэтычнага эпасу. Традыцыі класіцызму і сентыменталізму, рамантычныя і рэалістычныя тэндэнцыі ў паэтычным эпасе ў аспекце тэорыі паскоранага развіцця беларускай літаратуры. Сацыяльна-побытавы фон і ідэйна-мастацкія прынцыпы паказу народнага асяроддзя.

«*Гапон*» (1855). Паглыбленне дэмакратычнага зместу творчасці. Гапон як носьбіт пазітыўнай духоўнай сілы народа. Пошукі дабра і прыгажосці ў сялянскім асяроддзі, паэтызацыя народнай побытавай культуры. Асветніцкія тэндэнцыі ў творы, дыдактызм і маралізатарства. Сінтэз элементаў розных мастацкіх напрамкаў і асаблівасці сюжэтнай пабудовы ў «Гапоне».

«*Вечарніцы*» (1855). Структура твора. Асветніцка-маралізатарскі сэнс гумарыстычнага вершаванага апавядання «*Дурны Зміцер, хоць хітры*». Мастацкі тып апавядальніка і мясцовыя (мінскія) рэаліі ў творы. Ідэалізацыя мінуўшчыны ў вершаваным апавяданні «*Стаўроўскія дзяды*». Часавая інверсія дзеля сцвярджэння ідэі сацыяльнай гармоніі. Міфалагічны каларыт, народна-легендарныя і казачныя матывы.

«*Купала*» (1856), «*Шчароўскія дажынкі*» (1857). Маральна-асветніцкая ідэя і прынцып «жывой этнаграфіі» ў творах. Ідэалізацыя патрыярхальнай свядомасці, паэтызацыя традыцыйнага народнага побыту. Усведамленне пісьменнікам грамадзянскіх і эстэтычных мэтаў сваёй творчасці (прадмова-прысвячэнне ў *«Купале»*).

«*Травіца брат-сястрыца*» (1857). Літаратурная трансфармацыя фальклорнага сюжэта. Баладна-рамантычныя прынцыпы паэтыкі: кантраснасць вобразнай сістэмы, палярызацыя дабра і зла, драматычная напружанасць канфлікту, матывы гераізацыі мінулага. Жанравая адметнасць твора як паэмы-балады.

«*Быліцы, расказы Навума*» (1857). Арыгінальнасць кампазіцыі твора: быліца ў быліцы. Маральна-дыдактычны характар першай часткі «*Злая жонка*». Мастацкая неаднароднасць як вынік супярэчлівага спалучэння паэтыкі сентыменталізму і рамантызму. Элементы жанру «падарожжа» ў другой частцы «*Халімон на каранацыі*». Галоўны герой Халімон Забалотны як самабытны народны характар і тыповы прадстаўнік беларускага краю. Развенчванне царысцкіх ілюзій як праявы патрыярхальнай свядомасці.

Элементы камізму і паэтыка бурлеску ў творы. Сэнсавая шматзначнасць паэтычнай ідэі ў выніку «зніжэння» стылю.

Пераклад паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш». Вызначэнне мэтаў гэтай творчай працы ў *«Прадмове перакладчыка»* (1859). Прычыны стылістычнай неадпаведнасці перакладу і арыгінала. Пафас каментарыяў перакладчыка і гісторыя публікацыі тэксту.

Польскамоўныя паэмы ў кантэксце паэтычнай творчасці.

Патрыярхальна-шляхецкі свет у паэме «*Блаславёная сям'я*» (1856). Паслядоўна сентыменталісцкі характар твора. Рамантычная паэтызацыя свабодалюбства і ідэй нацыянальна-вызваленчай барацьбы ў «*Славянах у XIX стагоддзі*» (1856). Асэнсаванне лёсу беларускага паэта ў «*Літаратарскіх клопатах*» (1857). Сцвярджэнне шляхецкага маральнага кодэксу і культ рыцарства ў паэме «*Люцынка, альбо Шведы на Літве*» (1861). Рамантычная гераізацыя мінулага роднага краю ў творы.

Творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча пасля паўстання 1863–1864 гг.

Паэтызацыя шляхецкага побыту і адлюстраванне новых сацыяльных рэалій у паэме «*З-над Іслачы, альбо Лекі на сон*» (1868).

Фарс-вадэвіль «*Пінская шляхта*» (1870). Загадка рукапісу, праблема аўтарства і аўтэнтычнасці тэксту. Палітычны падтэкст пры адлюстраванні вобразаў судовых чыноўнікаў. Сатырычная скіраванасць у паказе грамадскай ролі і маральнага аблічча шляхты. Кальцавая кампазіцыя, любоўная інтрыга і каларытнасць персанажаў у творы. Майстэрства драматурга і паэтыка твора: перадача мясцовага каларыту, сцэнічная лёгкасць, гратэск, іронія, каламбуры, элементы пародыі, моўная характарыстыка персанажаў. Стаўленне цэнзуры да камедыі «Пінская шляхта» і гісторыя адаптацыі і публікацыі яе тэксту.

«*Залёты*» (1870) у ідэйна-мастацкай эвалюцыі В. Дуніна-Марцінкевіча. Двухмоўнасць твора і яго сувязь з папярэдняй творчасцю пісьменніка. Трактоўка вобраза мясцовага нуварыша Антона Сабковіча ў кантэксце гісторыі сусветнай літаратуры. Паказ і крытыка буржуазнай эканамічнай экспансіі і духоўнай абмежаванасці ў вобразе Сабковіча. Функцыі іншых персанажаў у раскрыцці асноўнага канфлікту ў п'есе. Ацэнка твора Я. Купалам. Драматургічныя прынцыпы В. Дуніна-Марцінкевіча. Мова яго твораў.

Значэнне творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча ў гісторыі беларускай літаратуры.

**4.1.2. Асоба і творчасць Уладзіслава Сыракомлі. Творчая спадчына Паўла Шпілеўскага.**

**Уладзіслаў Сыракомля** (Людвік Кандратовіч; 1823–1862). Біяграфія пісьменніка. Літаратурны дэбют і супрацоўніцтва з краёвымі выданнямі. Шматграннасць творчых інтарэсаў пісьменніка: перакладчыцкая дзейнасць, праца над гісторыяй літаратуры, падарожнымі нататкамі, краязнаўчымі нарысамі, драматычнымі творамі. Беларусь у лёсе У. Сыракомлі. Ліцвінскі патрыятызм як пафас творчасці. Стасункі з пісьменнікамі і дзеячамі культуры В. Каратынскім, В. Дунінам-Марцінкевічам, А. Вярыгам-

Дарэўскім, А. Плугам, А. Кіркорам. Асаблівасці светапогляду і калізіі апошніх гадоў жыцця.

Жанр вершаванай гутаркі (гавэнды) у польскамоўнай паэзіі.

Пачатак літаратурнай творчасці У. Сыракомлі. Творчая гісторыя гутаркі «*Паштальён*» (1844). Паказ трагічнага лёсу простага чалавека, спавядальны характар і асаблівасці канфлікту ў творы. Распрацоўка матыву злачынства і пакарання і крыніца сюжэта ў гутарцы «*Хадыка*» (1847). Асаблівасці кампазіцыі, пафас наканаванасці і сацыяльная праблематыка гутаркі «*Ілюмінацыя*» (1856). Гутарка «*Жменя пшаніцы*» (1856) як прыклад мастацкай палемікі з апанентамі, якія выступалі супраць развіцця беларускай літаратуры. Выкарыстанне казачнага сюжэта, патрыятычны пафас і праблема этнічнай самаідэнтыфікацыі беларусаў у творы.

Асноўныя матывы польскамоўнай лірыкі. Эстэтычнае крэда паэта ў вершах «*Не я пяю – народ Божы…*» (1844), «*Лірнік вясковы*» (1852). Антыпрыгонніцкі пафас верша «*Вызваленне сялян*» (1859 ?). Уплыў фальклорнай паэтыкі ў вершах «*Жніўная*» (1852), «*Вячорная*» (1852), «*Груган*», «*Доля*». Паэтычнае майстэрства У. Сыракомлі.

Беларускамоўная лірыка У. Сыракомлі. Гісторыя стварэння і папулярызацыі верша «*Добрыя весці*» (1848, 1861). Унутраная супярэчнасць ідэі твора як вынік дзвюх рэдакцый. Агітацыйны характар, спецыфіка вырашэння сацыяльнага і нацыянальнага пытанняў (класавы салідарызм і антырускі пафас). Верш «*Добрыя весці*» як узор грамадзянскай лірыкі. Медытатыўны характар мініяцюры «*Ужо птушкі пяюць усюды…*» (1861). Сімволіка і алегарычнасць вобразнасці, элегічная настраёвасць твора. Лёс беларускамоўнай спадчыны паэта.

У. Сыракомля як літаратурны крытык. Гісторыя рэцэнзавання беларускіх твораў В. Дуніна-Марцінкевіча. Сыракомлевы ацэнкі канкрэтных твораў пісьменніка і яго ролі ў літаратурным жыцці. Апалогія творчасці на беларускай мове, сцвярджэнне годнасці і права на існаванне нацыянальнай літаратуры.

Падарожныя нататкі, гісторыка-этнаграфічныя нарысы і даследаванні У. Сыракомлі. Сінтэтычны характар жанру «падарожжа» ў «*Вандроўках па маіх былых ваколіцах*» (1853–56). Інфарматыўнасць і эсэістычнасць аповеду. Патрыятычны пафас і паэтызацыя малой радзімы ў творы. Дакументальнае і мастацкае ў нарысе «*Мінск*» (1857). Гістарычная хроніка горада як працяг традыцый мясцовага летапісання.

Вершаваная драма «*Магнаты і сірата (Зоф'я, князёўна слуцкая)*» (1858). Рэальныя факты з гісторыі ВКЛ XVII ст. і іх мастацкая інтэрпрэтацыя.
Драматызм канфлікту і функцыі любоўнай інтрыгі. Маральна-этычная праблематыка і патрыятычны пафас, вобразы персанажаў і элементы псіхалагізму, аўтабіяграфічны падтэкст твора.

У. Сыракомля як даследчык беларускай культуры ў «*Кароткім даследаванні мовы і характару паэзіі русінаў у Мінскай правінцыі*» (1856).

Значэнне творчасці У. Сыракомлі для беларускай культуры. Рэцэпцыя твораў пісьменніка ў Беларусі і Расіі. Роля літаратурнай спадчыны паэта ў

творчым лёсе Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, Я. Купалы. Пераклады польскамоўных твораў У. Сыракомлі на беларускую мову.

**Павел Шпілеўскі** (1823–1861). Феномен беларуска-рускага памежжа ў творчасці пісьменніка. Краёвы патрыятызм, праявы ідэалогіі заходнерусізму, гісторыя і культура Беларусі ў цыклах краязнаўчых нарысаў «*Путешествие по Полесью и Белорусскому краю*» (1853–55) і «*Белоруссия в характеристических описаниях и фантастических её сказках*» (1853–56). Стаўленне П. Шпілеўскага да творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча. Сентыменталізм у аповесці «*Цыганё*» і драматычным творы «*Дажынкі*». Даследаванні беларускага фальклору.

**4.1.3. Жыццё і творчая спадчына Вінцэся Каратынскага і Кастуся Каліноўскага.**

**Вінцэсь Каратынскі** (1831–1891). Біяграфія і асаблівасці светапогляду. Супрацоўніцтва з У. Сыракомлем. Выданне кніг «*Чым хата багата, тым рада*» (1857), «*Таміла*» (1858), «*Выпіў Куба да Якуба*» (1859), перакладаў на польскую мову П. Беранжэ. Удзел В. Каратынскага ў віленскім літаратурным жыцці і «Альбом» у гонар прыезду Аляксандра II. Крытыка паэта ў эміграцкай прэсе. В. Каратынскі і паўстанне 1863–1864 гг. Вымушаны пераезд у Варшаву. Журналісцкая праца, краязнаўчыя нарысы і артыкулы, прысвечаныя дзеячам культуры Беларусі.

Антыпрыгонніцкі пафас паэмы «*Таміла*». Ідэя твора і эстэтычная канцэпцыя аўтара, выкладзеная ў каментарыях. Вобраз Тамілы. Трагічны лёс героя. Мастацкая рэалізацыя прынцыпу «тэндэнцыйнасці» творчасці. Рысы сентыменталізму і рамантызму, матыў наканаванасці, элегічнасць і нацыянальны каларыт у творы.

Беларускамоўная паэзія В. Каратынскага. Гісторыя стварэння верша-песні «*Уставайма, братцы…*» (1858). Выкарыстанне элементаў фальклорнай паэтыкі, сімволіка, алегарычнасць і палемічная скіраванасць твора. Верш-прысвячэнне А. Вярыгу-Дарэўскаму «*Далібог-то, Арцім…*» (1858) як гумарыстычны зварот да сабрата па пяру. Пытанне часу ўзнікнення і трактоўкі пафасу патрыятычнай элегіі «*Туга на чужой старане*» (1859, 1864?). Аўтабіяграфізм і арыгінальнасць у раскрыцці тэмы. В. Каратынскі як верагодны аўтар «Гутаркі старога дзеда» і «Гутаркі двух суседзяў».

Артыкулы пра беларускія гарады і дзеячаў культуры Беларусі.

Значэнне твораў В. Каратынскага ў гісторыі беларускай літаратуры.

**Кастусь Каліноўскі** (1838–1864). Асоба і фарміраванне светапогляду К. Каліноўскага. Этапы яго грамадзянскага станаўлення. Гады вучобы ў Пецярбургскім універсітэце. К. Каліноўскі на чале вызваленчага руху ў Беларусі. Асноўныя ідэі праграмы К. Каліноўскага: сацыяльны радыкалізм і самавызначэнне народаў. Афармленне нацыянальнай ідэі. Трагізм лёсу. Дзейнасць і творчая спадчына рэвалюцыянера ў ацэнках сучаснікаў і нашчадкаў (у мемуарыстыцы, гістарыяграфіі і мастацкай літаратуры).

Публіцыстыка К. Каліноўскага. Асветніцка-агітацыйны характар і праблематыка «*Мужыцкай праўды*». «*Пісьмы з-пад шыбеніцы*» як узор палітычнага запавету. Публіцыстычнае майстэрства і паэтычны талент

К. Каліноўскага. Верш «*Марыська чарнаброва, галубка мая…*» як прыклад сінтэзу інтымнай і грамадзянскай лірыкі. Гісторыя яго напісання і публікацыі. Матывы і паэтыка, інтэрпрэтацыі зместу ў літаратуразнаўчых працах.

Значэнне дзейнасці і творчай спадчыны К. Каліноўскага.

**4.1.4. Ананімная беларуская літаратура 50–60-х гг. XIX ст.**

**Адэля з Устроні.** Загадка псеўданіма. Паэма «*Мачаха*» (1850). Рамантычная эстэтыка, уплыў і творчае выкарыстанне беларускага фальклору. Патрыятычны пафас, драматызм дзеяння, персаніфікацыя сіл прыроды, дыялагічнасць, выкарыстанне вобразна-выяўленчых сродкаў фальклорнай паэтыкі ў творы.

Ананімныя вершы і гутаркі 50–60-х гг. Публіцыстычнасць, змястоўнасць і невысокі мастацкі ўзровень большасці твораў.

Аналіз прыгонніцкай рэчаіснасці і сацыяльна-крытычны пафас у гутарцы «*Вясна гола перапала*» («*Вясна, голад, перапала*»).

Супярэчлівасць аўтарскай пазіцыі ў «*Гутарцы Данілы са Сцяпанам*»: спалучэнне сацыяльнага крытыцызму і царысцкіх ілюзій.

Услаўленне барацьбы за волю, змагарны пафас вершаў «*Паўстанцкая песня*», «*Гэй жа, хлопцы!*».

Антышляхецкая і антыпольская скіраванасць, неразуменне асноўнай масай сялянства прычын і мэтаў паўстання 1863–1864 гг., адлюстраваныя ў творах «*Дзякуй богу і гасудару…*», «*Гутарка пана з селянінам*».

Пытанне аўтарства і часу напісання, ідэалізацыя мінуўшчыны, сацыяльны салідарызм, антыцарскі і антырасійскі пафас твораў *«Плынуць вятры…», «Крыўда і праўда»*.

Зборнік «***Рассказы на белорусском наречии***» (1863). Гісторыя падрыхтоўкі выдання. Антыўніяцкая скіраванасць гістарычнага нарыса *«Кто булы наши найдавнійшии диды и якая ихъ була доля до уніи?»* і гутарак *«Ци добре мы зробили, покинувши унію?»* ды *«Розмова на цментари старосты Янка зъ братчикомъ Хвэдосемъ»*. Праблема нацыянальнай самасвядомасці беларусаў і асветніцкія заклікі ў публіцыстычным звароце *«Великая помылка нашихъ Белоруссовъ»*. Фальклорнае і літаратурнае ў маралізатарскім апавяданні *«Сказка не сказка, быль не быль, але такъ бываиць»*. Пытанне атрыбуцыі твораў.

**4.1.5. Паэма «Тарас на Парнасе» ў беларускім літаратуразнаўстве.**

Паэма «***Тарас на Парнасе***» і ідэйная барацьба ў рускай літаратуры ў сярэдзіне XIX ст. Крытыка славянафільскіх поглядаў і галерэя вобразаў антычных багоў. Вобраз Тараса як увасабленне сапраўднай народнасці. Сімволіка ўзыходжання беларускага палясоўшчыка на гару музаў. Сінтэз беларускай народнай культуры і традыцый рускай кніжнай паэзіі і паэтыка «*Тараса на Парнасе*». Травестацыя і іншыя сродкі стварэння камічнага эфекту. Адметнасць кампазіцыі, сумяшчэнне рэальнага і фантастычнага планаў, час і прастора ў творы. Нацыянальны каларыт вобразнасці і віцебскія рэаліі ў тэксце. Асаблівасці мовы і культура верша.

Праблема аўтарства і часу напісання паэмы «*Тарас на Парнасе*». Гісторыя спісаў твора і акалічнасці іх публікацыі. Асноўныя аргументы на карысць магчымага аўтарства В. Дуніна-Марцінкевіча, А. Вярыгі-Дарэўскага, студэнтаў Горы-Горацкага земляробчага інстытута, Я. Крупенькі, К. Вераніцына, Ф. Тапчэўскага, Я. Вуля і інш. Уклад у вывучэнне твора і яго атрыбуцыю, зроблены А. Рыпінскім, А. Ельскім, М. Доўнарам-Запольскім, Е. Раманавым, Р. Зямкевічам, Я. Карскім, братамі Шаўцовымі, М. Лазаруком, Г. Кісялёвым і інш.

Гутарка «***Два д'яблы***». Гісторыя публікацыі і факт прыналежнасці тэкстаў «*Тараса на Парнасе*» і «*Двух д'яблаў*» аднаму аўтару. Актуальнасць праблематыкі, віцебскія рэаліі, краязнаўчая спецыфіка і патрыятычны кантэкст твора. Сатырычнае майстэрства аўтара і мастацкія функцыі карцін сутыкнення сілаў ірэальнага свету з будзённым жыццём людзей. Сплаў сялянскага (беларускага) этнаграфічнага матэрыялу з элементамі кніжнай культуры. Люстраная кампазіцыя гутаркі і культура верша.

**4.1.6. Літаратурна-грамадскі рух на Віцебшчыне ў сярэдзіне XIX ст.**

**Арцём Вярыга-Дарэўскі** (1816–1884). Роля А. Вярыгі-Дарэўскага ў кансалідацыі літаратурна-грамадскага руху на Віцебшчыне і ў цэлым у Беларусі. Рукапісны «*Альбом*» пісьменніка і яго гісторыка-літаратурнае значэнне. Ацэнка грамадскай і літаратурнай дзейнасці А. Вярыгі-Дарэўскага ў «Альбоме».

Беларускамоўныя творы паэта. Патрыятычная сутнасць ідэі «сваяцкасці» ў вершаванай аповесці на польскай мове «*Гутарка пра сваяка*» (1858). Сувязі пісьменніка з віленскімі, варшаўскімі і пецярбургскімі перыядычнымі выданнямі. Удзел у паўстанні 1863–1864 гг. Высылка на катаргу. Трагічны лёс беларускамоўнай творчай спадчыны, у тым ліку перакладу паэмы А. Міцкевіча «Конрад Валенрод». А. Вярыга-Дарэўскі і пытанне аўтарства паэмы «*Тарас на Парнасе*».

**Аляксандр Рыпінскі** (каля 1811–1886 ?). Удзел у паўстанні 1830–1831 гг. і эміграцыя. Парыжскі перыяд жыцця: знаёмства з А. Міцкевічам, выданне фальклорна-этнаграфічнага даследавання *«Беларусь»* (1840). Лонданскі перыяд жыцця і выдавецкая дзейнасць. Творчая гісторыя рамантычнай беларускай балады «*Нячысцік*» (1852). Інтэрпрэтацыя ў творы фальклорнага сюжэта пра злосную жонку. Вяртанне на радзіму, удзел у літаратурным жыцці Віцебшчыны. Складанне рукапіснай хрэстаматыі беларускіх твораў і праца над творчымі партрэтамі літаратараў Беларусі.

**Геранім Марцінкевіч** (1816 – пасля 1864). Біяграфічныя звесткі. Выданні паэтычных зборнікаў і асноўныя матывы польскамоўных вершаў. Беларускамоўная творчасць. Пытанне аўтарства драматычнага вершаванага абразка «*Адвячорак: Аказія ў карчме пад Фальковічамі*» (1858). Уплыў асветніцкіх ідэй і нарматыўнай паэтыкі класіцызму (правіла «трох адзінстваў», галоўны герой як выразнік аўтарскай пазіцыі). Антыпрыгонніцкі пафас і завастрэнне сацыяльнай праблематыкі. Рэалістычнасць і натуралізм паказу сялянскага жыцця. Палемічная скіраванасць і элементы літаратурнай барацьбы ў творы. Адлюстраванне розных падыходаў да выяўлення настрояў

сялянства перад адменай прыгону. Майстэрства ў стварэнні сцэнічнага дзеяння. Моўная характарыстыка персанажаў, увядзенне ўстаўной сцэнкі (тэатр у тэатры), уключэнне ў тэкст ананімнага верша «*Вясна, голад, перапала*», майстэрства мастацкай дэталі. Каларытнасць мовы і тэхніка верша. Значэнне «*Адвячорка*» як цалкам беларускамоўнага драматычнага твора ў гісторыі нацыянальнага тэатра.

**Ялегі Вуль** (1835 – пасля 1880). Факты і загадкі біяграфіі. Праяўленне выдатных літаратурных здольнасцей падчас вучобы ў Віцебскай гімназіі. Дэмакратызм аўтара і мастацкія вартасці беларускага верша-звароту «*К дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка*» (1859), упісанага ў «Альбом» А. Вярыгі-Дарэўскага. Сіметрычная кампазіцыя і дасканаласць формы, адзнакі высокага стылю і багацце мастацкіх прыёмаў у творы. Паэтычная сімволіка, натуральнасць і чысціня мовы. Спецыфіка вобразнасці, іранічнасць, абстрагаванасць і містычны элемент у польскамоўным вершы «*Няновая думка*» (1859). Я. Вуль як журналіст. Навіны культурнага жыцця Віцебска, зацікаўленасць тэатрам, дабрачынная дзейнасць А. Вярыгі-Дарэўскага, норавы ў гарадскім асяроддзі ў карэспандэнцыі Я. Вуля ў варшаўскую «Gazetu Codziennu» (1860). Удзел у паўстанні 1863–1864 гг. і высылка ў Сібір. Я. Вуль і пытанне аўтарства паэмы «*Тарас на Парнасе*» і вершаванай гутаркі «*Два д'яблы*».

## 4.2. Літаратура 70-х – першай паловы 80-х гг. XIX ст.

Вынікі буржуазных рэформаў і пашырэння рускай асветы ў Беларусі. Заміранне літаратурна-грамадскага руху з прычыны рэпрэсій. Праявы стагнацыі ў літаратурным жыцці краю ў другой палове 60-х – 70-я гг., перыяд пострамантызму і адмаўленне ад адлюстравання жыцця народа. Папулярнасць ідэй пазітывізму. Палітыка русіфікацыі і аправаслаўлівання, масавае з'яўленне рускага чыноўніцтва ў краі. Актывізацыя даследаванняў вуснапаэтычнай творчасці і мовы беларусаў. Выданне зборнікаў беларускага фальклору П. Гільтэбрантам, М. Дзмітрыевым, П. Бяссонавым, першага беларуска-рускага «Слоўніка беларускай мовы» (1870) І. Насовіча (1788–1877). Дэмакратычны ўздым і рост патрыятычных і славянафільскіх настрояў у грамадстве ў выніку руска-турэцкай вайны 1877–1878 гг. Перыяд рэакцыйнага ліхалецця пасля забойства нарадавольцамі ў 1881 г. імператара Аляксандра ІІ. Сувязь краёвага грамадскага руху з расійскім народніцтвам. Утварэнне беларускай фракцыі ў асяроддзі народнікаў. Фарміраванне беларускай самасвядомасці і спробы тэарэтычнага абгрунтавання нацыянальнай ідэі. Крызіс народніцкай ідэалогіі. Пашырэнне папулярнасці тэорыі «малых спраў». Зварот краёвых пісьменнікаў да распрацоўкі сялянскай тэмы. Адмаўленне ад ідэалізацыі сялянства, прадстаўнікі якога становяцца асноўным аб'ектам адлюстравання. Прамысловы пераварот, эканамічны ўздым і імклівыя працэсы капіталізацыі горада і вёскі.

Навукова-асветніцкая дзейнасць А. Кіркора (1818–1886), П. Шэйна (1826–1900), Я. Карловіча (1836–1903), М. Нікіфароўскага (1845–1910) і інш. Беларуская праблематыка на старонках рускага і польскага перыядычнага друку. Адмена ваеннага становішча ў краі (1870). Мастацкія кірункі, асветніцкі і публіцыстычны характар літаратуры. Працэс эмансіпацыі сялянства і з’яўленне паэтаў-самавукаў з народнага асяроддзя.

**Аляксандр Шункевіч** (Мікалай Марозік, каля 1852 – пасля 1913). Факты біяграфіі. Папулярнасць у народзе дыдактычных вершаў сялянскага паэта-самавука. Удзел у грамадскім і літаратурным жыцці. Вершаванае гумарыстычнае апавяданне «*Сцяпан і Тацяна*» (1889). Побытавы характар, элементы бурлеску і пародыі на ўзоры высокай паэзіі ў творы. Спецыфіка адлюстравання канфлікту бацькоў і дзяцей, любоўных і сямейных калізій. Апавядальніцкае майстэрства аўтара.

**Вільгельм Пратасевіч** (?–1880). Вершаваная гутарка «*Суседчык Гавейскі*» (каля 1875). Гумарыстычная скіраванасць апавядання пра паляўнічыя прыгоды. Паэтыка твора.

**Лявон Вітан-Дубейкаўскі** (1869–1940). Біяграфічныя звесткі. Дзейнасць у галіне архітэктуры і будаўніцтва. Сувязь з беларускім нацыянальным рухам. Сацыяльная праблематыка байкі «*Цягне воўк – пацягнуць воўка!*». Верш «*Бура*», грамадзянскі пафас твора. Рукапісны зборнік «Мае думы і мыслі» (1893).

**4.2.1. Літаратурнае жыццё ў Беларусі і ідэалогіі заходнерусізму і народніцтва.**

Ідэалагічнае афармленне і антыадраджэнская скіраванасць заходнерусізму ў працах М. Каяловіча (1828–1891). Культуралагічныя аспекты ў «*Чтениях по истории западной России*» (1884) і вялікадзяржаўная пазіцыя аўтара.

**Публіцыстыка беларускіх народнікаў**. Выданне нелегальных рускамоўных адозваў і зваротаў сацыяльна-эканамічнага і палітычнага зместу: «*Да беларускай моладзі*» (1881), «*Пісьмы пра Беларусь*» (1882) Д. Баравіка, «*Да беларускай інтэлігенцыі*» (1883), «*Пасланне да землякоў-беларусаў*» (1884) Шчырага Беларуса. Абгрунтаванне ідэі пра існаванне этнічна самастойнай беларускай нацыі, пра права беларускага народа на культурную, эканамічную і палітычную незалежнасць у праграмна-тэарэтычным часопісе «*Гомон*» (1884).

**4.2.2. Творчая спадчына Адама Кіркора і Аляксандра Ельскага.**

**Адам Кіркор** (1818–1886). Біяграфія. Выдавецкая і навуковая дзейнасць, удзел у грамадска-літаратурным руху 50–60-х гг. А. Кіркор і паўстанне 1863–1864 гг. Эміграцыя з Расіі. Кракаўскі перыяд жыцця. А. Кіркор як гісторык беларускай літаратуры ў курсе лекцый «*Пра літаратуру братніх славянскіх народаў*» (1874). Патрыятычны пафас, мастацкія асаблівасці і энцыклапедычны характар звестак у нарысах А. Кіркора пра Беларусь, змешчаных у 3 т. «*Живописной России*» (1882). Значэнне творчай спадчыны.

**Аляксандр Ельскі** (1834–1916). Біяграфія і фарміраванне асобы пісьменніка. Шырыня навуковых і культурных інтарэсаў. Беларускі верш

А. Ельскага «*Вінцуку Дуніну-Марцінкевічу*» (1872). Супрацоўніцтва з энцыклапедычнымі выданнямі і калекцыянерская дзейнасць. Даследаванні па праблемах культуры (артыкулы «*Адам Міцкевіч на Беларусі*» (1885), «*Пра беларускую гаворку*» (1885), «*Беларусь*» і «*Беларуская літаратура і бібліяграфія*» (1892). Пераклады на беларускую мову твораў А. Міцкевіча: санета «*Бура на моры*» (1889), першае кнігі паэмы «*Пан Тадэвуш*» (1892). Маральна-этычная праблематыка твораў для народа «*Сынок*» (1895), «*Выбіраймася ў прочкі*» (1896), «*Слова аб праклятай гарэлцы*» (1900). Прапаганда творчасці А. Міцкевіча і В. Дуніна-Марцінкевіча. Каштоўнасць эпісталярнай спадчыны пісьменніка (лісты да Я. Карловіча). Значэнне асветніцкай чыннасці.

**4.2.3. Творчасць Войслава Савіча-Заблоцкага.**

**Войслаў Савіч-Заблоцкі** (1850 – пасля 1893). Біяграфічныя звесткі. Чыннікі фарміравання светапогляду. Удзел у народніцкім гуртку «Крывіцкі вязок» (1868). Рэпрэсіі ўладаў. Эміграцыя і вандроўніцтва па краінах Еўропы. Вяртанне на радзіму. Загадкавасць лёсу.

Элегічны характар і асэнсаванне мінулага Беларусі ў цыкле беларускіх вершаў «*З чужыны*», «*У роднай зямлі*», «*Да перапёлкі*» (1873). Палітычны аспект у вершы-звароце «*Беларуская пея*» (1882). Польскамоўная аповесць «*Полацкая шляхта*» (1885) у кантэксце літаратуры Беларусі XIX ст. Патрыятычны пафас і сакралізацыя вобраза радзімы. Праблема абуджэння самасвядомасці народа як ідэйны стрыжань аповесці. Традыцыі і наватарства ў творы. Асоба, славянафільскія і народніцкія погляды, аспекты беларускай месіянскай ідэі ў беларускамоўных лістах (1886) В. Савіча-Заблоцкага да М. Драгаманава.

**4.2.4. Творчая спадчына Фелікса Тапчэўскага.**

**Фелікс Тапчэўскі** (1838–1892). Біяграфічныя звесткі. Дачыненне да вызваленчага руху. Папулярнасць твораў у народным асяроддзі. Лёс паэтычнай спадчыны. Ф. Тапчэўскі як паэт-гумарыст. Спецыфічнасць ідэйных пазіцый і майстэрства ў адлюстраванні камічнага. Шляхецкая ідэалізацыя мінулага ў вершы «*Саўсім не тое, што было*». Дэмакратычная пазіцыя ў трактоўцы канфлікту паміж працай і капіталам у вершы «*Грошы і праца*». Гумарыстычны паказ жыцця ў вершах «*Ён і яна*», «*Вечарынка*». Адметнасць вобраза эксплiцытнага аўтара-селяніна як староннягa назіральніка-апавядальніка. Асаблівасці паэтыкі твораў пісьменніка. Пытанне аўтарства верша «*Панскае ігрышча*». Ацэнка твора Ф. Багушэвічам. Ф. Тапчэўскі як верагодны аўтар паэмы «Тарас на Парнасе».

**4.2.5. Творчасць Элізы Ажэшкі і беларуская культура.**

**Эліза Ажэшка** (1841–1910). Біяграфія пісьменніцы. Фарміраванне асобы. Беларускія чыннікі выхавання і грамадзянскага станаўлення пісьменніцы. Сувязь з паўстаннем 1863–1864 гг. Асветніцкая праца Э. Ажэшкі, вывучэнне і папулярызацыя беларускага фальклору Гродзеншчыны. Творчыя кантакты з Ф. Багушэвічам. Творчасць Э. Ажэшкі ў кантэксце беларускай літаратуры. Пераклады на беларускую мову і

папулярызацыя твораў Э. Ажэшкі ў канцы XIX – пачатку XX стст. Сучасныя выданні твораў пісьменніцы па-беларуску.

Мастацкае асэнсаванне краёвай рэчаіснасці ў «сялянскіх» аповесцях 80-х гг. «*Нізіны*» (1884), «*Дзюрдзі*» (1885), «*Хам*» (1888). Шырокае выкарыстанне беларускай мовы і фальклору. Кантрасты народнага жыцця, сацыяльна-псіхалагічны характар і крытычны пафас твораў. Гуманізм аўтарскай пазіцыі. Стварэнне адметных вобразаў беларускіх сялян. Ідэйна-мастацкія функцыі жаночых персанажаў у аповесцях.

Адлюстраванне ў аповесці «*Нізіны*» галечы, безабароннасці і забітасці сялянства. Сацыяльная і псіхалагічная абгрунтаванасць вобразаў сялян у аповесці «*Дзюрдзі»*. Асаблівасці канфлікту і аналіз маралі сялянскага асяроддзя. Паказ патрыярхальнасці і забабоннасці пры раскрыцці «сялянскай» тэмы. Складанасць аўтарскага стаўлення да беларускага сялянства. Праблематыка, палемічная скіраванасць і элемент публіцыстычнасці ў аповесці «*Хам»*. Вобразы галоўных герояў Паўла Кабыцкага і Франкі Хамуўны. Пабочныя персанажы. Паэтызацыя прыроды і роднага краю ў творы. Трагедыя галоўнага героя і функцыі твораў беларускага фальклору і этнаграфічнага матэрыялу ў мастацкай структуры апавядання «*Зімовым вечарам*» (1887).

Актуальнасць праблематыкі рамана «*Над Нёманам*» (1887). Тэма краёвай рэчаіснасці, чалавека і прыроды, маральнай адказнасці ў творы. Дыскусійны паказ канфлікту пакаленняў, патрыятычнай прывязанасці да роднага краю і зямлі, вернасці патрыярхальнаму ўкладу жыцця і традыцыям продкаў.

Значэнне творчасці пісьменніцы для беларускай культуры.

## 4.3. Літаратура канца 80-х – 90-х гг. XIX ст.

**Агульная характарыстыка літаратурнага працэсу.** Агульнае культурнае ажыўленне грамадскага жыцця ў краіне і актывізацыя прагрэсіўных сіл у канцы 80-х – пачатку 90-х гг. Рост у Беларусі колькасці пісьменнага насельніцтва і друкаванай прадукцыі. Рукапіснае і друкаванае пашырэнне твораў тагачаснай беларускай літаратуры. Пачатак выхаду польскіх перыядычных выданняў «Kłosy» («Калоссе») (1875), «Kraj» («Край») (1882), «Wisła» («Вісла») (1887), «Życie» («Жыццё») (1887) і інш., у якіх супрацоўнічалі беларускія пісьменнікі і змяшчаліся матэрыялы аб Беларусі. Заснаванне прыватнай газеты «Минский листок» (1886–1902), выданне некалькіх выпускаў «Календаря Северо-Западного края» (1889–90) і «Северо-Западного календаря» (1892–93). Публікацыя на іх старонках, а таксама ў польскай і рускай перыёдыцы беларускіх твораў. Выхад асобным выданнем кніжак Ф. Багушэвіча і шэрагу перакладаў на беларускую мову. Перыяд 1889–1894 гг. як асабліва прадуктыўны ў справе публікацыі беларускіх твораў.

Пэўнае аслабленне пазіцый рэалістычнага напрамку ў рускай і польскай літаратурах у другой палове 90-х гг. Рост папулярнасці мадэрнізму і

аслабленне творчай актыўнасці беларускіх літаратараў. Развіццё навукі і культуры. Навуковая і грамадская дзейнасць Е. Раманава (1855–1922), А. Сапунова (1852–1924), М. Федароўскага (1853–1923), Б. Эпімаха-Шыпілы (1859–1934), М. Янчука (1859–1921), М. Доўнара-Запольскага (1867–1934) і інш. Выданне «*Истории русской этнографии. Том IV. Белоруссия и Сибирь*» (1892) А. Пыпіна. Напружаная культурніцкая праца, дэмакратычны пафас і грамадзянская скіраванасць літаратурнай творчасці Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, А. Абуховіча, А. Гурыновіча і інш. Ідэйныя і мастацкія змены (працэс сацыялагізацыі, элементы натуралізму, living рознафункцыянальнае выкарыстанне беларускага фальклору і інш.) у літаратуры. Адсутнасць кансалідацыйнага цэнтра. Усведамленне пісьменнікамі прыналежнасці да адзінага літаратурнага працэсу. Шматлікія пераклады твораў польскіх і рускіх пісьменнікаў на беларускую мову. Стаўленне да літаратурнай творчасці як да грамадзянскага абавязку. Паглыбленне крытычнага пафасу. Узмацненне сатырычных тэндэнцый у літаратуры, завастрэнне ў творчасці сацыяльна-этычных канфліктаў. Жанравае ўзбагачэнне літаратуры, удасканаленне вершаскладання.

**Ананімная літаратура.** *Горавід-Будзіцель.* Гісторыя публікацыі вершаў «*Палякам у дзень 3-га мая*», «*Я клічу вас…*». Праблема аўтарства твораў. Рэвалюцыйна-дэмакратычны пафас вершаў, ідэя нацыянальнага адраджэння беларусаў. Паэтычнае майстэрства аўтара.

Адлюстраванне пасляпрыгонніцкай рэчаіснасці ў «*Гутарцы ў карчме»* і вершах *«Мужыцкая доля»*, *«Ой, у полі вецер вые…»*. Зямельнае пытанне і сацыяльная бяспраўнасць як асноўныя праблемы беларускага сялянства.

Акалічнасці публікацыі, пытанне аўтарства і лірычны характар вершаў «*Ноччу ў сяле», «Могілкі»*.

Асветніцка-агітацыйны і публіцыстычны пафас выдадзенай у перакладзе на беларускую мову брашуры «*Дзядзька Антон, або Гутарка аб усім чыста, што баліць, а чаму баліць – не ведаем»* (1892).

Выяўленне народнай прагі справядлівасці і праўдашукальніцтва ў вершах «*Дудар*» і «*Праўда*». Фальклорныя вытокі твораў.

Народная смехавая традыцыя ў вершаванай гутарцы «*Тэатр*». Тыпалагічная блізкасць паэтыкі твора з гумарыстычнай паэзіяй Ф. Багушэвіча.

Тэма патрыятызму, гуманістычны пафас і праблема нацыянальнай самасвядомасці ў вершы «*Хто я?*».

**Аляксандр Пшчолка** (1869–1943?). Біяграфія і асаблівасці светапогляду. Паказ жыцця і побыту беларускага сялянства канца XIX ст. у нарысах і апавяданнях пісьменніка. Паэтыка твораў.

**4.3.1. Творчая спадчына Альгерда Абуховіча.**

**Альгерд Абуховіч** (1840–1898). Жыццяпіс. Паходжанне і фарміраванне асобы пісьменніка. Вучоба ў Слуцкай гімназіі. Побыт у еўрапейскіх краінах. А. Абуховіч і паўстанне 1863–1864 гг. Дэмакратызм светапогляду. Сямейная драма. Кантакты з беларускімі пісьменнікамі А. Перасветам-Солтанам, Ф. Багушэвічам, Я. Дылам. Апошнія гады жыцця. Лёс творчай спадчыны.

«*Мемуары*» А. Абуховіча як каштоўная крыніца для вывучэння біяграфіі пісьменніка і характарыстыкі грамадскіх настрояў у Беларусі ў XIX ст. Праблемы беларускай культуры ў асвятленні аўтара. Публіцыстычны і мастацкі пачатак у «*Мемуарах*».

Паэзія А. Абуховіча. Праблематыка, крыніцы сюжэтаў і нацыянальны каларыт баек. Пытанне ўнутранай свабоды чалавека і аўтабіяграфічны характар байкі «*Ваўкалак»*. Крытыка вынікаў рэформы 1861 г. у байцы «*Старшына»*. Паказ традыцыйных людскіх заганаў і правасуддзя ў байках «*Воўк і лісіца»* і *«Суд»*. Майстэрства байкапісца. Спроба паэтычнага асэнсавання гісторыі ў вершы «*Дума а Каралю XII*». А. Абуховіч як верагодны аўтар вершаў «*Шоў я ўчора ўночы з Глуска»* і «*Узбійся ўгору, мой саколе!»*.

Звесткі пра пераклады на беларускую мову А. Абуховічам твораў Пятраркі, Дантэ, Гётэ, Шылера, Байрана, Гюго, польскай і рускай паэзіі XIX ст. А. Абуховіч як пачынальнік жанру байкі і беларускай мемуарыстыкі ў літаратуры новага часу.

**4.3.2. Творчасць Адама Гурыновіча.**

**Адам Гурыновіч** (1869–1894). Біяграфія. Беларусазнаўчыя даследаванні. А. Гурыновіч як выразнік радыкальных ідэй вызваленчага руху. Трагізм лёсу паэта і яго творчай спадчыны.

Мастацкая шматграннасць і самабытнасць творчасці А. Гурыновіча. Публіцыстычная паэзія як найбольш рэпрэзентатыўная ў творчасці А. Гурыновіча. Грамадзянскі пафас вершаў «*Што ты спіш, мужычок...», «Перш душылі паны...», «Што за звук ды так громка раздаўся...»* і інш. Зварот да Ф. Багушэвіча ў вершы «*Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею...»*. Пошукі ў галіне медытатыўнай і песеннай лірыкі («*Сцямнела на дворы, і ціха кругом...»*, «*Да жніва», «Па жніве»*). Функцыі пейзажных замалёвак у вершах «*Бор», «Вясна»*. Асветніцкія ідэі і адкрыты дыдактызм верша «*Раз у Зольках, у дзярэўні...»*. Творы для дзяцей *«Каток» і «Рыбак»*. Жанравая разнастайнасць лірыкі. Пераклады з польскай, рускай, украінскай моў. Шырыня перакладчыцкага дыяпазону А. Гурыновіча.

**4.3.3. Жыццё і творчасць Янкі Лучыны.**

**Янка Лучына** (Ян Неслухоўскі; 1851–1897). Жыццяпіс. Паходжанне і выхаванне. Гады вучобы ў Мінскай гімназіі і Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце. Чыннікі фарміравання светапогляду паэта (дэмакратычныя традыцыі сям'і, уплыў ідэй нацыянальна-вызваленчага руху, народніцкай ідэалогіі і філасофіі пазітывізму). Супрацоўніцтва з перыядычнымі выданнямі і альманахамі. Акалічнасці звароту да творчасці на беларускай мове. Кантакты з дзеячамі культуры. Драматызм жыццёвага і пісьменніцкага лёсу. Гісторыя выдання зборнікаў «*Poezje»* (1898) і «*Вязанка»* (1903). Асоба Я. Лучыны і яго творчая спадчына ў ацэнках сучаснікаў.

Асноўныя матывы лірыкі. Рамантычная і рэалістычная плыні ў творчасці. Паглыблены псіхалагізм, філасафічнасць. Патрыятычны пафас і асветніцкія ідэі ў вершы «*Роднай старонцы»*. Выкарыстанне элементаў жанравай формы гутаркі ў вершах «*Вясновай парой»*, «*Што птушкі казалі»*,

«*Стары ляснік*». Грамадзянскі пафас вершаў «*Усёй трупе дабрадзея Старыцкага беларускае слова*», «*Дзень за днём*». Рамантычны алегарызм вершаў «*Вясна*», «*Пагудка*», «*Каршун*», «*Сівер*». Форма ўнутранага маналога і псіхалагізм у вершы «*Што думае Янка, везучы дровы ў горад*». Пейзажныя замалёўкі і рэалістычная канкрэтнасць вобразаў сялян. Наследаванні і пераклады на беларускую мову твораў У. Сыракомлі. Структура і праблематыка зборніка «*Вязанка*». Тыпалогія творчасці Я. Лучыны і Ф. Багушэвіча.

Адметнасць польскамоўнай лірыкі. Спецыфіка лірычнага самараскрыцця ў вершах «*Што люблю?*», «*Дзве зоркі*», «*Змрочныя думкі*», «*Не хачу памерці*», «*Раскоша натхнення*». Адлюстраванне і паэтызацыя народнага светабачання ў вершах «*Песня аратая*», «*Прадвесне*», «*Рунь*». Тэма паэта і паэзіі ў вершы «*Голас натоўпу*».

Паэма «*Паляўнічыя акварэлькі з Палесся*». Гісторыя стварэння і кампазіцыя твора. Вера ў сацыяльны і навукова-тэхнічны прагрэс грамадства. Сцвярджэнне духоўнай годнасці простага чалавека. Прыземлена-практычнае і манументальнае ў вобразе лесніка Грышкі. Вобраз паніча як носьбіта кніжнай культуры. Характар стасункаў (сяброўства) паміж героямі і ідэя сацыяльнага салідарызму. Паэтызацыя прыроды і стаўленне да тэхнічнага прагрэсу ў аспекце маральна-этычных катэгорый. Роля і функцыі лірычных адступленняў у паэме. Паляўнічая «канкрэтыка» і эстэтычныя задачы аўтара. *«Паляўнічыя акварэлькі з Палесся»* ў кантэксце паэтычнага эпасу М. Гусоўскага, А. Міцкевіча, У. Сыракомлі.

Версіфікацыйнае майстэрства Я. Лучыны.

Празаічныя творы. Маральная праблематыка ў беларускамоўным абразку «*Старасць не радасць…*». Адлюстраванне падзей 1860-х гг. на Міншчыне і патрыятычны пафас у польскамоўным абразку «*З крывавых дзён*». Білінгвістычны (руска-беларускі) характар падарожнага нарыса «*Са святочнай паездкі*».

Значэнне творчасці Я. Лучыны (Я. Неслухоўскага) у гісторыі беларускай літаратуры.

### 4.3.4. Асоба і творчасць Францішка Багушэвіча.

**Францішак Багушэвіч** (1840–1900). Паходжанне і дзіцячыя гады паэта. Фарміраванне светапогляду ў віленскім і пецярбургскім студэнцкім асяроддзі. Настаўніцкая праца. Ф. Багушэвіч і паўстанне 1863–1864 гг. Вучоба ў Нежынскім юрыдычным ліцэі, служба ва Украіне і ў Расіі. Вяртанне на радзіму і адвакацкая практыка. Ф. Багушэвіч як адвакат – народны абаронца. Супрацоўніцтва з польскамоўнымі перыядычнымі выданнямі. Сяброўства з Я. Карловічам і Э. Ажэшкай. Удзел у культурным жыцці Віленшчыны і кантакты з беларускімі пісьменнікамі. Гісторыя выдання кніг Ф. Багушэвіча. Апошнія гады жыцця. Ідэйна-мастацкае багацце творчай спадчыны пісьменніка.

Ф. Багушэвіч як пачынальнік беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху. Публіцыстыка пісьменніка. «Прадмова» да зборніка «Дудка беларуская» (1891) – своеасаблівы маніфест нацыянальнага адраджэння.

Вобразнасць публіцыстычнай мовы, эмацыянальнасць звароту Ф. Багушэвіча да сваіх сучаснікаў. Праблемы развіцця нацыянальнай культуры ў прадмове да зборніка «Смык беларускі».

Прынцыпы мастацкага абагульнення, асаблівасці псіхалагічнай характарыстыкі, гумар і лірызм у паэзіі Ф. Багушэвіча. Вобразы герояў-апавядальнікаў Мацея Бурачка і Сымона Рэўкі з-пад Барысава ў зборніках паэта. Праграмны характар вершаў аб прызначэнні паэта і паэзіі «*Мая дудка»* і «*Смык»*. Гуманістычны пафас і сінтэз нацыянальнай, сацыяльнай і маральна-этычнай праблематыкі ў паэзіі Ф. Багушэвіча.

Нацыянальна-патрыятычная тэма ў творчасці Ф. Багушэвіча. Адметнасць і падабенства адлюстравання нацыянальнай праблематыкі ў зборніках «Дудка беларуская» і «Смык беларускі» (1894). Сімволіка і алегарычнасць вершаў «*Мая хата»* і «*Хмаркі»*. Вырашэнне дылемы «свой-чужы» ў вершах «*Немец»* і «*Жыдок»*. Феномен «тутэйшасці» і ўніяцкі «сантымент» у вершах «*Хрэсьбіны Мацюка»* і «*Свая зямля»*. Лёс героя і лёс народа ў паэме-прытчы «Кепска будзе!» у сувязі з будзіцельскім пафасам «Прадмовы» да зборніка «Дудка беларуская».

Сацыяльны крытыцызм як адна з дамінантаў паэзіі Ф. Багушэвіча. Драматызм і сацыяльная абумоўленасць перажыванняў лірычнага героя вершаў пра сялянскую долю. Іронія ў вершах «*Дурны мужык, як варона»* і «*Скацінная апека»*. Адлюстраванне грамадскай дыферэнцыяцыі і антаганізму ў вершах «*Бог не роўна дзеле»* і «*Не ўсім адна смерць»*. Вобразы прадстаўнікоў улады, чыноўнікаў, паноў і народніцкія тэндэнцыі ў паэзіі Ф. Багушэвіча. Сацыяльны сэнс фантасмагорыі «*Быў у чысцы»*. Спецыфіка адлюстравання рэчаіснасці і выяўленне сацыяльнай псіхалогіі сялянства ў вершах «*Думка*», «*У астрозе*» і інш.

Маральна-этычная праблематыка і хрысціянскія матывы ў паэзіі Ф. Багушэвіча. Пошукі духоўных ідэалаў лірычным героем верша «*Праўда»*. Вершы «*Калыханка»*, «*Афяра»* і «*Не цурайся»* як своеасаблівыя маральныя імператывы. Рэцэпцыя традыцый хрысціянства ў зборніках паэта. Фальклорна-міфалагічныя і апакрыфічныя матывы ў творах «*Хцівец і скарб на святога Яна*», «*Быў у чысцы*», «*Балада»*.

Праўдашукальніцтва як лейтматыў зборніка «Дудка беларуская» («*Як праўды шукаюць», «У судзе», «Кепска будзе!», «У астрозе»*). Гумарыстычныя творы («*У судзе», «Здарэнне», «Падарожныя жыды», «Гдзе чорт не можа, там бабу пашле»*) у кампазіцыі зборніка «Дудка беларуская». Літаратурная праблематыка прадмовы да зборніка «Смык беларускі». Палемічная скіраванасць «*Адказу Юрцы на «Панскае ігрышча»*. Паэтычнае наватарства і жанравыя характарыстыкі цыклу «*Песні»*. Балада («*Хцівец і скарб на святога Яна», «Балада»*), байка («*Воўк і авечка», «Падарожныя жыды», «Свіння і жалуды»*) і элегія («*Думка»*) у паэзіі Ф. Багушэвіча. Выкарыстанне сюжэтаў і элементаў паэтыкі фальклорных твораў. Фальклорныя вобразы і матывы ў мастацкай структуры паэтычных твораў Ф. Багушэвіча. Рамантычнае, натуралістычнае, рэалістычнае і функцыі гратэску ў паэзіі Ф. Багушэвіча.

Праблематыка польскамоўных вершаў «*Прывід надзеі», «Запавет», «Дагарае рэшта веццця…»* і інш.

Апавяданні Ф. Багушэвіча. Праблематыка і мастацкая адметнасць апавядання «*Тралялёначка*». Сацыяльная тыпалогія вобразаў Бартака Саска і Антона Сабковіча (з «Залётаў» В. Дуніна-Марцінкевіча). Крытыка буржуазнага драпежніцтва ў апавяданні. Сатырычная скіраванасць і сутнасць сацыяльна-этычнага канфлікту, адлюстраванага ў творы. Асаблівасці сюжэтабудавання. Апавяданне «*Тралялёначка»* і традыцыі рускай народніцкай белетрыстыкі. Фальклорная аснова апавяданняў «*Сведка», «Палясоўшчык», «Дзядзіна»*. Літаратурная апрацоўка народных жартаў, показак, казак-небыліц. Моўнае майстэрства пісьменніка. Ф. Багушэвіч як верагодны аўтар твораў «*Гаспадары, да Вас пішым гэта апавяданне…»* і «*Ігналева сякера».*

Значэнне творчай спадчыны Ф. Багушэвіча ў гісторыі беларускай літаратуры.

**4.3.5. Творчая спадчына Зоф'і Манькоўскай і Марыі Косіч.**

**Зоф'я Манькоўская** (Адам М-скі, Тшашчкоўская; 1847–1911). Біяграфічныя звесткі. Паходжанне і выхаванне. Жыццё па-за межамі краю. Пачатак творчага шляху. Своеасаблівая паэтыка маскі ў творчасці. Узаемадачыненні і творчыя сувязі з пісьменніцкім асяроддзем. У. Сыракомля, Я. Лучына, Ф. Багушэвіч і З. Манькоўская. Традыцыі А. Міцкевіча, захапленне беларускім фальклорам у творчасці паэтэсы. Вяртанне на радзіму. Апошнія гады жыцця.

Верш «*Божа, наш бацька…»* («*Беларуская малітва*») (1888) як узор патрыятычнай лірыкі. Першы ў беларускай паэзіі ўзор «нацыянальнай малітвы». Хрысціянскія традыцыі і раскрыццё сялянскага светабачання. Пераклады на беларускую мову з польскай вершаў Т. Ленартовіча, Я. Чачота і М. Канапніцкай. Паэтычнае майстэрства, дакладнасць перадачы вобразаў, тонкі лірызм і элегічнасць. Польскамоўная лірыка. Патрыятычныя матывы, адлюстраванне беларускіх краявідаў, краёвых рэалій і ментальнасці ў паэтычных нізках «*Песні дарагавіцкія*», «*Сісткі, выкраданыя з дзённіка жанчыны»* і інш.

**Марыя Косіч** (1850–1911). Біяграфічныя звесткі. Фалькларыстычная і этнаграфічная дзейнасць. Вершаваны твор «*На перасяленне: Расказ цёткі Домны з Палесся*». Паказ асаблівасцяў жыцця беларускай парэформеннай вёскі, лірызм твора, фальклорныя традыцыі. Пераклады і вольныя наследаванні баек І. Крылова.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Асноўныя этапы развіцця беларускай літаратуры, вынікі яе эвалюцыі. Нацыянальная адметнасць беларускай літаратуры. Значэнне старажытнай і новай беларускай літаратуры для станаўлення беларускай літаратуры XX ст. Беларуская літаратура і сусветны літаратурны працэс.

# ЛІТАРАТУРА

## I. Асноўная літаратура


1. Анталогія беларускай паэзіі. Т. 1. / Укл. *А.І. Мальдзіс*. – Мінск, 1993.
2. Анталогія даўняй беларускай літаратуры. XI – першая палова XVIII ст. / Пад рэд. *В.А. Чамярыцкага*. – Мінск, 2003.
3. Беларускія летапісы і хронікі / Укл. *У. Арлоў*. – Мінск, 1997.
4. *Гарэцкі, М. І*. Гісторыя беларускае літаратуры / М.І. Гарэцкі. – Мінск, 1992.
5. Гісторыя беларускай літаратуры. Старажытны перыяд / Пад рэд. *М.А. Лазарука, А.А. Семяновіча*. – Мінск, 1997.
6. Гісторыя беларускай літаратуры. XIX – пачатак XX ст. / Пад рэд. *М.А. Лазарука, А.А. Семяновіча*. – Мінск, 1998.
7. Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў. У 2 т. Т. 1. Даўняя літаратура: XI– першая палова XVIII ст. / Пад рэд. *В.А. Чамярыцкага*. – Мінск, 2006.
8. Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў. У 2 т. Т. 2. Новая літаратура: другая палова XVIII–XIX ст. / Пад рэд. *У.І. Мархеля, В.А. Чамярыцкага*. – Мінск, 2007.
9. Заняпад і адраджэнне: Бел. літ. XIX ст. / Укл. *У.М. Казбярук*. – Мінск, 2001.
10. Кніга жыцій і хаджэнняў / Укл. *А. Мельнікаў*. – Мінск, 1994.
11. Літаратура Беларусі: Першая палова XIX стагоддзя: Хрэстаматыя / Укл. *К.А. Цвірка*. – Мінск, 2000.
12. *Лойка, А.А*. Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд: У 2 ч. Ч. 1. – 2-е выд., дапрац. і дап. / А.А. Лойка. – Мінск, 1989.
13. *Лойка, А.А*. Старабеларуская літаратура / А.А. Лойка. – Мінск, 2001.
14. Прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны / Укл. *У.Г. Кароткі*. – Мінск, 1991.


## II. Дадатковая літаратура


1. *Александровіч, С.Х.* Пуцявіны роднага слова / С.Х. Александровіч. – Мінск, 1971.
2. *Багдановіч, І.Э.* Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння / І.Э. Багдановіч. – Мінск, 2001.
3. *Булахаў, М.Г.* «Слова пра паход Ігаравы» і Беларусь. У 2 ч. / М.Г. Булахаў. – Мінск, 2000.
4. *Бурдзялёва, І.* Нарысы на гісторыі беларускай літаратуры XIX – пачатку XX стагоддзяў: майстры, плыні, традыцыі / І. Бурдзялёва. – Мінск, 2009.
5. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч у еўрапейскім кантэксце: Матэрыялы Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 200-годдзю Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. – Мінск, 2008.
6. *Гаранін, С.Л.* Шляхамі даўніх вандраванняў. Гістарычна-тэарэтычны нарыс развіцця беларускай паломніцкай літаратуры XII–XVI стст. / С.Л. Гаранін. – Мінск, 1999.
7. *Дорошкевич, В.И.* Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы: Первая половина XVI в. / В.И. Дорошкевич. – Минск, 1979.
8. *Запрудскі, І.М.* Нарысы гісторыі беларускай літаратуры XIX ст. / І.М. Запрудскі. – Мінск, 2003.
9. *Каваленка, В.А*. Вытокі. Уплывы. Паскоранасць / В.А. Каваленка. – Мінск, 1975.
10. *Каваленка, В.А*. Міфа-паэтычныя матывы ў беларускай літаратуры / В.А. Каваленка. – Мінск, 1981.
11. *Кавалёў, С.В*. Героіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст. / С.В. Кавалёў. – Мінск, 1993.
12. *Кавалёў, С.В*. Станаўленне польскамоўнай паэзіі ў полілінгвістычнай літаратуры Беларусі эпохі Рэнесансу / С.В. Кавалёў. – Мінск, 2002.

13. *Кавалёў, С.В.* Гісторыя беларускай літаратуры: другая палова XVI ст. / С.В. Кавалёў. – Мінск, 2005.
14. *Кавалёў, С.В.* Літаратура Беларусі позняга Рэнесансу: жанры, творы, асобы / С.В. Кавалёў. – Мінск, 2005.
15. *Кавалёў, С.*В. Шматмоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу / С.В. Кавалёў. – Мінск, 2010.
16. *Казакова, Т.П.* Грыгорый Цамблак. Царкоўны дзеяч і пісьменнік / Т.П. Казакова. – Мінск, 2008.
17. *Калеснік, У.* Тварэнне легенды / У. Калеснік. – Мінск, 1987.
18. *Кісялёў, Г.* Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча / Г. Кісялёў. – Мінск, 1988.
19. *Киселёв, Г.* Разыскивается классик...: Историко-литературная дилогия / Г. Киселёв. – Минск, 1989.
20. *Кісялёў, Г.* Радаводнае дрэва / Г. Кісялёў. – Мінск, 1994.
21. *Кісялёў, Г.* Ад Чачота да Багушэвіча / Г. Кісялёў. – Мінск, 2003.
22. *Кісялёва, Л.* Маргіналіі: беларуская гумарыстычная літаратура XIX – пачатку XX ст. у святле сучасных літаратуразнаўчых канцэпцый / Л. Кісялёва. – Мінск, 2007.
23. *Короткий, В.Г.* Творческий путь Мелетия Смотрицкого / В.Г. Короткий. – Минск, 1987.
24. *Коршунов, А.Ф.* Афанасий Филиппович: Жизнь и творчество / А.Ф Коршунов. – Минск, 1965.
25. *Ластоўскі, В.Ю.* Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі / В.Ю. Ластоўскі. – Коўна, 1926.
26. *Левшун, Л.В.* История восточнославянского книжного слова XI–XVII вв. / Л.В. Левшун. – Мінск, 2001.
27. *Левшун, Л.В.* Леонтий Карпович: Жизнь и творчество / Л.В. Левшун. – Мінск, 2001.
28. *Лихачёв, Д.С.* Человек в литературе Древней Руси / Д.С. Лихачёв. – Москва, 1970.
29. *Мальдзіс, А.* Таямніцы старажытных сховішчаў / А. Мальдзіс. – Мінск, 1974.
30. *Мальдзіс, А.І.* На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду: другая палавіна XVII–XVIII ст. / А.І. Мальдзіс. – Мінск, 1980.
31. *Мальдзіс, А.* Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя: Нарысы быту і звычаяў / А. Мальдзіс. – Мінск,1982.
32. *Мархель, У.* Вяшчун славы і волі: Уладзіслаў Сыракомля / У. Мархель. – Мінск, 1989.
33. *Мархель, У.І.* Крыніцы памяці: Старонкі беларуска-польскага літаратурнага сумежжа / У.І. Мархель. – Мінск, 1990.
34. *Мархель, У.І.* Прадвесце: Беларуска-польскае літаратурнае ўзаемадзеянне ў першай палавіне XIX ст. / У.І. Мархель. – Мінск, 1991.
35. *Мархель, У.* Прысутнасць былога: Нарысы, артыкулы, эсэ / У. Мархель. – Мінск, 1997.
36. *Мархель, У.І.* «Ты як здароўе…»: Адам Міцкевіч і тэндэнцыі адраджэння беларускай літаратуры / У. Мархель. – Мінск, 1998.
37. *Мельнікаў, А.А.* Кірыл, епіскап Тураўскі: Жыццё, спадчына, светапогляд / А.А. Мельнікаў. – Мінск, 1997.
38. *Міско, С.М.* Школьны тэатр Беларусі XVI–XVIII ст. / С.В. Міско. – Мінск, 2000.
39. *Навуменка, І.Я.* Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч / І.Я. Навуменка. – Мінск, 1992.
40. *Некрашэвіч-Кароткая, Ж.В.* Нясвіжская Мельпамена: Драматургія Францішкі Уршулі Радзівіл / Ж.В. Некрашэвіч-Кароткая. – Мінск, 2002.
41. *Падокшын, С.А.* Іпацій Пацей: царкоўны дзеяч, мысліцель, пісьменнік / С.А. Падокшын. – Мінск, 2001.
42. *Парэцкі, Я.І.* Міхаіл Карыцкі / Я.І. Парэцкі. – Мінск, 1991.
43. *Парэцкі, Я.І.* Ян Вісліцкі / Я.І. Парэцкі. – Мінск, 1991.
44. Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта: Навуковы зборнік. Вып. 1–10. – Мінск, 2001–2009.

45. *Русецкая, Н.* Сямейная муза: паэзія Францішкі Уршулі Радзівіл / Н. Русецкая. – Мінск, 2007.
46. *Саверчанка, І.В.* Канцлер Вялікага Княства: Леў Сапега / І.В. Саверчанка. – Мінск, 1992.
47. *Саверчанка, І.В.* Старажытная паэзія Беларусі: XVI – першая палова XVII ст. / І.В. Саверчанка. – Мінск, 1992.
48. *Саверчанка, І.В.* Сымон Будны – гуманіст і рэфарматар / І.В. Саверчанка. – Мінск, 1993.
49. *Саверчанка, І.В.* Апостал яднання і веры: Язэп Руцкі / І.В. Саверчанка. – Мінск, 1994.
50. *Саверчанка, І.В.* Кніжна-пісьмовая культура Беларусі. Адраджэнне і ранняе барока / І.В. Саверчанка. – Мінск, 1998.
51. *Содаль, У.* Сцежкамі Мацея Бурачка / У. Содаль. – Мінск, 1991.
52. *Тарасюк, Л.К.* Мастацкія кірункі і плыні ў беларускай паэзіі XIX – пачатку XX ст. / Л.К. Тарасюк. – Мінск, 1999.
53. *Тарасюк, Л.К.* Апалогія красы: Кніга пра беларускую паэзію / Л.К. Тарасюк. – Мінск, 2003.
54. Творчасць Элізы Ажэшкі і беларуская культура: Зборнік навуковых прац. – Гродна, 2002.
55. Уладзіслаў Сыракомля: Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі. – Мінск, 2004.
56. *Улащик, Н.Н.* Введение в изучение белорусско-литовского летописания / Н.Н. Улащик. – Москва, 1985.
57. *Усікаў, Я.* Беларуская камедыя / Я. Усікаў. – Мінск, 1979.
58. *Хаўстовіч, М.* Гісторыя беларускай літаратуры 30–40-х гг. XIX ст. / М. Хаўстовіч. – Мінск, 2001.
59. *Хаўстовіч, М.* На парозе забытае святыні: Творчасць Яна Баршчэўскага / М. Хаўстовіч. – Мінск, 2002.
60. *Хаўстовіч, М.* Мастацкі метад Яна Баршчэўскага / М. Хаўстовіч. – Мінск, 2003.
61. *Хаўстовіч, М.* Айчына здалёку і зблізку: Ігнацы Яцкоўскі і Аляксандр Рыпінскі / М. Хаўстовіч. – Мінск, 2006.
62. *Хаўстовіч, М.* Жыццё і творчасць Рамуальда Падбярэскага / М. Хаўстовіч. – Мінск, 2008.
63. XIX стагоддзе: Навукова-літаратурны альманах. Кн. першая / Укл. М. Хаўстовіч. – Мінск, 1999.
64. XIX стагоддзе: Навукова-літаратурны альманах. Кн. другая / Укл. М. Хаўстовіч. – Мінск, 2000.
65. *Чамярыцкі, В.А.* Беларускія летапісы як помнікі літаратуры / В.А. Чамярыцкі. – Мінск, 1969.
66. *Штэйнер, І.Ф.* Беларуская балада: Вытокі жанру і паэтычная структура / І.Ф. Штэйнер. – Мінск, 1989.
67. *Штэйнер, І.Ф.* Шматмоўная літаратура Беларусі XIX стагоддзя / І.Ф. Штэйнер. – Мінск, 2002.
68. Янка Лучына ў кантэксце самаідэнтыфікацыі беларускай літаратуры: Матэрыялы рэспубліканскай навуковай канферэнцыі. – Мінск, 2002.
69. *Янушкевіч, Я.* Беларускі Дудар / Я. Янушкевіч. – Мінск, 1991.
70. *Янушкевіч, Я.* За архіўным парогам / Я. Янушкевіч. – Мінск, 2002.
71. *Яскевіч, А.А.* Падзвіжнікі і іх святыні / А.А. Яскевіч. – Мінск, 2001.
72. *Яскевич, А.С.* Становление белорусской художественной традиции / А.С. Яскевіч. – Мінск, 1987.